● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● [illegible] 4000 рублёў

**1** студзеня 1998 г.
чацвер,
№ 1-2 (23352-23353)




# ЗВЯЗДА

Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

**НА СКАВЫШЫ**

*І Прапойск, і Нясвіж*
*Працінае скавыш.*
*І сцюдзёна, і золка.*
*Ой, мароз, не марозь,*
*Пагары, мая зорка.*
*І не сцішыш скавыш,*
*І не выпусціш крыж,*
*І дарога пад горку...*
*Ой, мароз, не марозь,*
*Пасвяці, мая зорка!*

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.



Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## ПРА ТОЕ, ШТО НАШАПТАЎ СНЕГ



Над Беларуссю кружыць снег. Лёгкі, чысты, асляпляльны сваёй белізною, ён засыпае асеннюю чарнату, аголенасць, беспрытульнасць і журбу, дорыць надзею на нешта значнае і светлае ў нашым жыцці. Ён дорыць адчуванне радасці і нясцерпнай, шчымлівай любові да ўсяго роднага, крэўнага. Ён шэпча пра тое, што мы мусім разагнуць спіны і высока ўзняць галовы, бо без гэтага нельга будаваць і сваё жыццё, і незалежную маладую Айчыну. Ён напамінае, што жыць трэба годна, сумленна, па праўдзе. І адыходзіць трэба так, як памірае снег: без злосці, без нянавісці, ведаючы і помнячы, што вышэйшая воля ашчаслівіла цябе нечаканай радасцю — магчымасцю прыйсці ў гэты белы свет, убачыць хараство матчынага краю, зрабіць яго яшчэ прыгажэйшым, дабрэйшым, больш прыдатным для жыцця тых, хто будзе ступаць у наш след. Нашчадкі — наша надзея — прыйдуць сюды так, як за расталым снегам прабіваецца з зямлі зялёнымі жыццярадаснымі стрэлкамі трава.

Над Беларуссю кружыць снег... І сумаваць няварта. У нас яшчэ ёсць шанц сцвердзіць сябе. З Новым годам, з новым шчасцем! Будзьма, браткі-беларусы!

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ.**

*Асабістае*

# КАБ УПЭЎНЕНА СТАЯЦЬ НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎСКАЙ

**Род... Народ... Гэтыя словы вельмі многа азначаюць для краіны ў цэлым і для кожнага яе грамадзяніна асобна. Народ — гэта рака, якая ўтвараецца з безлічы вялікіх і маленькіх ручаёў. Ад іх колькасці і чысціні вадзіцы залежыць, наколькі моцнай, глыбокай і паўнаводнай будзе рака. І як толькі забруджваюцца крыніцы і танеюць ніткі ручаёў, узнікае пагроза існаванню ракі.**

«**ЧАМУ,** — пытаўся я ў маленстве ў свайго бацькі, — больш за палову людзей нашай вёскі носяць аднолькавае прозвішча, але не ўсе мы паміж сабой сваякі?» Спачатку гэта была звычайная дзіцячая цікаўнасць. Тагачасныя тлумачэнні для мяне былі складанымі, а без даходлівага і простага адказу гэтае пытанне турбавала яшчэ больш. Такім чынам, менавіта ў школьныя гады і сфарміравалася ўпершыню цікавасць да роднай гісторыі і, у прыватнасці, да генеалогіі. Прычым ён быў непарыўна звязаны з пошукам дакументальных звестак пра родную вёску Альпень, якая знаходзіцца за некалькі кіламетраў на паўднёвы захад ад стражытнага Давыд-Гарадка. Як потым высветліцца, і вёска, і род мой звязаны непарушнай сувяззю, якая не аслабла, а, наадварот, яшчэ больш умацавалася за некалькі стагоддзяў.

Мой дзед па бацькавай лініі, Канстанцін Сямёнавіч, памёр яшчэ тады, калі я нават літар не ведаў. Зразумела, што ўсе звесткі пра яго, а таксама пра яго бацьку, ці майго прадзеда, я пачуў з вуснаў сваіх родных. На жаль, аповяды гэтыя не ствараюць цэласнай карціны жыцця маіх блізкіх продкаў. Многія акалічнасці застаюцца таямнічымі і зараз. Але «белых плямаў» становіцца ўсё менш пасля чарговага наведвання бібліятэкі ці атрымання звестак з архіва.

Наогул продкі мае паходзілі з ваколічнай шляхты: прыгонных сялян не мелі, але і з вінаватым выглядам перад мясцовым панам Радзівілам не хадзілі. Адносную самастойнасць ім забяспечвала ўласная зямля. З пакалення ў пакаленне яны месціліся вельмі кампактна, перадаючы нашчадкам любоў да зямлі, свае звычаі і перакананні. Гэтую традыцыю падтрымаў і прадзед, ажаніўшыся з мясцовай дзяўчынай, і дзед узяў жонку з Давыд-Гарадка, ды і бацька ў пошуках сваёй «палавіны» далей зарэчнага Харомска не пайшоў. Аселы лад жыцця быў характэрнай асаблівасцю не толькі маіх сваякоў, але і ўсяе беларускае шляхты. Толькі асаблівая патрэба накшталт вайсковай службы магла прымусіць пакінуць шляхціца родныя мясціны. Дарэчы, менавіта гэтым тлумачыцца і той факт, што ў 1988 годзе з васьмісот жыхароў вёскі больш за палову аказаліся Ляшкевічамі. Вось такім быў адказ на даўняе «дзіцячае» пытанне.

Відавочна, пачалася гісторыя роду даўно. Як сведчаць дакументы, развівалася яна паралельна са станаўленнем вёскі. З вялікай доляй упэўненасці можна нават сцвярджаць, што ўвесь род Ляшкевічаў бярэ пачатак адсюль — з берагоў Гарыні. Яшчэ ў 1515 годзе Фёдар Яраслававіч зацвердзіў Альпень у дар нейкаму Зеновію Сямёнавічу Ляшкевічу і яго сям'і. Хто ведае, магчыма, гэта і ёсць пачынальнік роду. На жаль, пацвердзіць ці абвергнуць гэтую версію пакуль нельга, таму яна і застанецца на ўзроўні версіі.

Яшчэ адзін успамін пра род Ляшкевічаў, якія мелі герб Лескі, прыпадае на 1600 год. Дарэчы, род не меў свайго ўласнага геральдычнага знака, таму на розных прамежках гісторыі карыстаўся некалькімі гербамі. Напрыклад, герб Налонч узгадваецца ў 1669 годзе, калі старыя прывілеі на вёску сям'і Зеновічаў-Ляшкевічаў-Альпенскіх пацвердзіў кароль Міхаіл Карыбут.

З'яўленне двайных ці нават трайных прозвішчаў сярод шляхты не было ў тыя часы рэдкасцю. Нават першы ўспамін пра Альпень звязаны з тым, што ў 1479 годзе вёска была падаравана княгіняй Ганнай нейкаму Зеновічу-Альпенскаму. А праз два стагоддзі, як бачым, Ляшкевічы парадніліся нейкім чынам з Зеновічамі-Альпенскімі. (Магчыма, яшчэ да гэтага тое ж зрабілі Альпенскія, якія мелі герб Равіч. Род узгадваецца ў энцыклапедычных даведніках асобна ў 1697 годзе і адносіцца якраз да вёскі Альпень. — **Аўт.**) Такім чынам, можна казаць пра з'яўленне асобнага адгалінавання роду Ляшкевічаў з двума прыдомкамі ў прозвішчы. Гэтае адгалінаванне ўзгадвае і Раман Гарашкевіч, польскі даследчык Піншчыны, які ў кнізе «Звычаі земляў пінскіх» піша пра «пана Ляшкевіча герба Налонч, які мае прыдомкі Зеновіч-Альпенскі».

Падобныя пераўтварэнні мелі пад сабой сур'ёзную глебу. Шляхецкі гонар часта станавіўся прычынай таго, што пры заключэнні шлюбу ніводзін з маладых не хацеў развітвацца са сваім прозвішчам, у выніку чаго з'яўляліся прыдомкі. Але з другога боку, шлюбы часта заключаліся дзеля выгоды. Напрыклад, для пашырэння зямельных уладанняў. Такія адгалоскі шматвекавой даўніны частка жыхароў Альпеня адчувае да сённяшняга дня, носячы радавое трайное прозвішча.

Вяртаючыся да больш блізкіх падзей, на іх прыкладзе трэба сказаць пра тэндэнцыю, якая найбольш моцна паўплывала на аслабленне ранейшага сацыяльнага і грамадскага становішча мясцовай шляхты, а значыць пэўным чынам адбілася на ўплывовасці канкрэтных радоў. Напрыклад, мой прадзед у канцы XIX—пачатку XX стагоддзяў меў ва ўласнай гаспадарцы некалькі гектараў зямлі, трымаў даволі моцную гаспадарку. Пра гэта красамоўна кажа тое, што пры двары мелася сама меней трое коней і некалькі кароў. Але нават гэтага ўжо было недастаткова, каб цалкам адчуваць сябе заможным. У сям'і расло трое сыноў і дачка. Прадзед усведамляў, што пройдзе час і кожны з сыноў скажа: давай, бацька, маю долю. Ды і дачцэ на пасаг трэба такую частку адрэзаць, каб потым не сорамна было глядзець у вочы. Таму сыны, маючы кожны па каню, не толькі абраблялі ўласную зямлю, але шмат часу праводзілі на тралёўцы лесу пад заказ радзівілаўскіх купцоў, якія да балотаў не былі прывычныя.

Ох гэтыя непралазныя палескія балоты! Запаланіўшы ўсё ў ваколіцах Альпеня, яны не дазвалялі пашыраць зямельныя надзелы шляхам высечкі лесу, як гэта рабілася ў іншых месцах. Такім чынам, з кожным пакаленнем вага роду Ляшкевічаў няўхільна зніжалася. З ростам насельніцтва вёскі прапарцыянальна змяншаліся ўладанні кожнай асобнай сям'і. У выніку з даволі заможнай шляхты жыхары Альпеня за паўтара-два стагоддзі фактычна апусціліся да ўзроўню сялян.

Калі ажаніўся дзед, зямельнага надзелу, які дастаўся яму ад бацькі, нават разам з некалькімі дзесяцінамі, якія атрымала ў пасаг бабуля, не хапіла, каб адразу завесці ўласную гаспадарку, пабудаваць хату, больш-менш трывала стаць на ногі. Лёс вымусіў падацца ў заробкі за мяжу. Тры гады, з 1927-га па 1930-ты, правёў дзед у далёкай Аргенціне, дзе працаваў звычайным рабочым на бойні. Работа для шляхціца, зразумела, неганаровая, але вярнуўшыся, прадак купіў хату, каня, калёсы ды ўсё іншае, што неабходна было для жыцця на вёсцы. Нават яшчэ пазычыў некалькі дзесяткаў долараў нейкаму давыд-гарадоцкаму яўрэю...

Для чаго я ўсё гэта раблю, іншы раз днямі не вылазячы з бібліятэкі, дасылаючы допісы ў шматлікія архівы? Шчыра кажучы, ніколі не задаваўся падобным пытаннем. Сфармуляваў яго толькі зараз, калі пачаў пісаць гэтыя нататкі. Яно проста не ўзнікала, паколькі першапачаткова рухала маімі дзеяннямі не нейкая канкрэтная мэта, а звычайная цікаўнасць. Мэта з'явілася пазней: захацелася скласці радавод. Разам з тым стаў цікавы сам працэс даследавання даўніны. Ён нечым нагадвае складванне мазаікі ці работу золаташукальніка. Той, знайшоўшы першыя крупінкі жоўтага металу, як апантаны, кідаецца на далейшыя пошукі. Гэта называецца залатой ліхаманкай. Не магу сказаць, каб мяне апанавала падобная хвароба, але кожны новы факт з гісторыі жыцця маіх продкаў становіцца не менш каштоўным, чым самародак для золаташукальніка. Чым больш адкрываеш для сябе новага, тым большая прага адчуваецца да гэтага занятку. І нічога, што прыйшлося вывучыць польскую мову, паколькі пераважная частка дакументаў па зразумелых прычынах аказалася на польскай.

У мінулыя стагоддзі вывучэнню генеалогіі ўдзялялася вялікая ўвага. Веданне свайго роду да сёмага ці адзінаццатага калена было тады звычайнай справай. Ствараліся цэлыя радаводы. У некаторых сем'ях яны захаваліся да сённяшніх дзён і з'яўляюцца па сутнасці гістарычным бясцэнным рарытэтам. Бо з часам даўнія традыцыі пачалі забывацца. Сталася так, што зараз нават нашы бацькі мала ведаюць пра сваіх продкаў. Так на нашых вачах пачынае губляцца некалі непарыўная сувязь часоў і пакаленняў. Менавіта па гэтай прычыне сёння як ніколі наспела неабходнасць аднаўлення ранейшых традыцый.

Дык усё ж: для чаго гэта? Калі з'яўляюцца сур'ёзныя вынікі тваёй працы, пачынаеш па-іншаму ацэньваць сваю работу. Цяпер у цябе з'яўляецца гонар за сваіх продкаў. Адначасова ты быццам бы аддаеш ім даніну памяці. Я раблю гэта, мабыць, для таго, каб потым перадаць гэтыя звесткі сваім дзецям. Няхай яны таксама адчуюць тое ж, што перажываю зараз я. Няхай зразумеюць, што і яны, і мы, і многія да нас не выпадкова з'явіліся на гэтай зямлі. Гэта робіцца, каб ведаць, дзе твае карані. Для таго, каб усвядоміць, што ты прадаўжальнік свайго роду, важнае звяно ў гісторыі. Для таго, каб не пачуць у свой адрас крыўдную мянушку-папрок — «Иван, родства непомнящий». Каб, нарэшце, адчуць сябе часцінкай беларускай нацыі, паколькі ў кожнага свая асабістая гістарычная спадчына, але разам яна складае ўсю гісторыю беларускага роду, беларускага народа.

Шалёная бура, якая знянацку праносіцца над лесам, звычайна выварочвае толькі елкі. Сосны ўпарта стаяць пад яе націскам. Біёлагі кажуць, што гэта з-за іх каранёў, якія, у адрозненне ад яловых, глыбока пранікаюць у зямлю.

Так і чалавек — чым глыбей яго карані, тым больш трывала і ўпэўнена ён адчувае сябе пад ціскам жыццёвых нягод. Нам усім, асабліва ў сённяшні неспакойны час, патрэбны гэткія ўпэўненасць і абарона.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**






**Гатаваць розныя стравы да традыцыйнага святочнага стала ў сям'і Пусковых будуць мужчыны. І гэта зусім не традыцыя, а суровая жыццёвая неабходнасць. Маці Марыя Георгіеўна прама заявіла сваім дамачадцам, што на шматгадзінную працу ля пліты ў яе няма ні часу, ні сіл. І мужчыны не пярэчылі, хоць і макарона на Новы год — не самая прывабная перспектыва. Справа ў тым, што 16 лістапада 1997 года ў сям'і Пусковых нарадзіліся трайняты! А гэта, дарэчы, другі выпадак за апошнія дзесяць гадоў у Магілёўскай вобласці.**



# ШЧАСЦЕ І ГОРА МАЛАДЗІЦЫ

**ВЁСКА АЛЬХОЎКА** ў Магілёўскім раёне, дзе жывуць Пусковы, — глухамань несусветная. Разам з прадстаўнікамі дабрачыннай хрысціянскай місіі Тайбея, якія цяпер апякуюць гэтую мнагадзетную сям'ю і везлі для яе калядныя падарункі, мы ад абласнога цэнтра дабіраліся да месца амаль дзве гадзіны па такіх дарогах, якія гараджанам-аўтааматарам могуць прысніцца толькі ў самым жахлівым сне. І гэта яшчэ добра, што на гэтым пустэльным шляху нам усё ж такі сустракаліся рэдкія пешаходы, якія дапамагалі знайсці патрэбную вёску. Праўда, пыталіся мы не пра Альхоўку. Пусковы цяпер сапраўды знакамітыя на ўсю акругу, і бабулі паміж каштоўных парад чамусьці весела (!) ківалі нам услед галовамі: «Во гора маладзіцы...»

Сама «маладзіца» з такім грамадскім меркаваннем цалкам не згодная. У свае 43 гады Марыя Георгіеўна нажыла, канешне, вялікія клопаты ў выглядзе трох немаўлят, але ўсё ж такі лічыць іх нараджэнне нечаканасцю прыемнай і спадзяецца, што сённяшнія праблемы ў будучым абернуцца радасцю і шчасцем.

Марыя і Аляксей Пусковы налета адзначаюць 20-годдзе сумеснага жыцця. І муж, і жонка нарадзіліся ў гэтай мясцовасці, тут пазнаёміліся і ажаніліся. Марыя Георгіеўна вучылася ў Гомелі на закройшчыцу, працавала на малым прадпрыемстве, а пасля яго распаду засталася беспрацоўнай. Аляксей Дзмітрыевіч працаваў у калгасе, потым узяў фермерскую гаспадарку, але пасля ад паловы яе адмовіўся, пакінуў толькі дзесяць гектараў пасяўных плошчаў, бо быць сёння фермерам не вельмі выгадна. Жывуць яны зараз у двухпавярховым цагляным доме на ўзлессі, але дом гэты не ўласны, а службовы, для фермера.

Цяпер у сям'і Пусковых — пяцёра дзяцей. Старэйшая дачка вучыцца ў мастацкім вучылішчы ў Бабруйску, сын ходзіць у сёмы клас сельскай школы. Шмат гадоў таму здарыўся ў сям'і выпадак трагічны: аднагадовы сын папярхнуўся гарошынай, і жыццё яму так і не ўдалося выратаваць. Магчыма, што памяць пра сына, а таксама і ўсведамленне таго, што дзеці хутка падрастуць і пойдуць сваім шляхам у гэтым жыцці, і далі падставу галаве сям'і Аляксею Дзмітрыевічу паскардзіцца на маркоту і прапанаваць жонцы нарадзіць яшчэ адно дзіця.

Вось і набылі для сябе «забаву» — аж у трох экземплярах! Дзве дзяўчынкі і хлопчык, якім цяпер пайшоў ужо другі месяц. Назваць дакладныя імёны нованароджаных Марыя Георгіеўна ў дзень нашай сустрэчы не змагла. Муж паехаў у Магілёў набываць дзіцячае харчаванне, а за адным заходам і «запісаць» дзяцей. Такім чынам, хоць і спрачаліся Пусковы наконт імёнаў, але апошняе слова засталося за гаспадаром. Вельмі верагодна, што дзяўчынак назавуць Крысцінай і Ганнай, а апошняга і самага маленькага хлопчыка — Раманам.

Пра тое, што радавацца прыйдзецца не аднаму, а траім немаўлятам, Марыя Гергіеўна даведалася толькі тады, калі іх і нарадзіла. Толькі ў апошні дзень, напярэдадні родаў доктары заікнуліся пра тое, што, магчыма, трэба чакаць больш, чым адно дзіця. Гэта было тым больш дзіўна, што ў радаводзе маці не сустракалася падобных выпадкаў, вось толькі з боку мужа быццам бы калісьці нараджаліся двайняты. Чуткі пра тое, што маці пасля родаў ледзь не счарнела з гора ад думак, як выгадаваць такую плойму дзяцей, Марыя Георгіеўна абвергла: «Аднеслася да гэтага спакойна, нават без эмоцый. Мы дзяцей любім, хоць і прыйдзецца нам цяжкавата. Муж таксама разлічваў на аднаго, а атрымалася трое. Але што ж цяпер зробіш?..»

Толкам пагутарыць з Марыяй Георгіеўнай нам так і не ўдалося. Праз кожныя пяць хвілін ёй прыходзілася ўскокваць і «ляцець» на другі паверх, каб супакоіць каго-небудзь з траіх малых. Яна скардзілася нам, што трайняты часта капрызяць і не жадаюць спаць. Напэўна, адбіваецца пачуццё калектывізму: толькі заводзіць «песню» адзін, як тут жа да «працэсу» падключаецца другі. У адзін з такіх выпадкаў нам таксама ўдалося пабачыць тры «скруткі» на адным ложку, якія «саплі» зладжаным аркестрам. Напэўна, з самага дня нараджэння, калі ў бальніцы маці і трайнят наведвалі шматлікія карэспандэнты, нованароджаныя так прызвычаіліся здымацца, што і на ўспышку нашага фотакарэспандэнта адрэагавалі досыць спакойна і не плакалі.

Гаспадыня адказвала на нашыя пытанні рассеяна, і гэта было зразумела, бо, як шчыра прызналася Марыя Георгіеўна, у гэты дзень ёй давялося адпачыць усяго адну гадзіну, ды і звычайна яна можа паспаць не больш як тры гадзіны ў суткі. Ад стомленасці падаць ёй яшчэ не прыходзілася, але варта ёй толькі прысесці, як тут жа і засынае. Як мінімум на тры гады маці трайнят прыйдзецца забыцца на свой любімы адпачынкак — вязанне. Тэлевізар не бачыла з часу родаў, і пабачыць таксама няхутка, бо цяпер усе самыя важныя для яе навіны — на другім паверсе дома. А вось які сёння дзень і месяц, Марыі Георгіеўне не дае забыцца школьны дзённік сына, які яна штодзённа правярае.

Але ўсе гэтыя часовыя жыццёвыя абмежаванні Марыя Георгіеўна трагедыяй для сябе не лічыць, бо не сакрэт, што вясковая жанчына, якая мае вялікую хатнюю гаспадарку (як у Пусковых — карова, свінні, куры, конь), працуе ад цямна да цямна без перапынкаў. І гэтая ж хатняя гаспадарка сёння дае Пусковым ўпэўненасць, што, як бы ні здарылася, а пракарміць сваіх пяцярых дзяцей яны здолеюць. Вырастуць на ўласных бульбе, малацэ і сале! Але ёсць тут і іншы бок медаля — як спраўляцца з трайнятамі, калі, напрыклад, няма гарачай вады? Пакуль доктар наведвае нованароджаных кожны тыдзень, і са здароўем у іх — цьфу, цьфу, цьфу — усё ў парадку, але бацькі не забываюцца, што жывуць яны ў глухім месцы. Аляксей Дзмітрыевіч больш за ўсё перажывае пра школу, яна ад іх дома за дзесяць кіламетраў, прыйдзецца вазіць на трактары траіх дзяцей кожны дзень... Таму і прасілі Пусковы ў райвыканкаме абмяняць ім жыллё на горад, дзе было б зручней жыць і гадаваць трайнят, але там іх папрасілі больш не прыходзіць з такой просьбай. Зато выдзелілі матэрыяльную дапамогу ў памеры 10 мільёнаў рублёў, паспрыялі з устаноўкай тэлефона. Дарэчы, і людзі не застаюцца раўнадушнымі да такой рэдкай з'явы — нараджэння трайнят, тым больш, што адбылася яна ва ўмовах эканамічнага крызісу, калі і аднаго выгадаваць ой як няпроста. Мясцовая газета надрукавала адрас Пусковых і прапанавала дапамагчы гераічнай сям'і, і днямі жыхарка Магілёва даслала Марыі Георгіеўне пакет з трыма дзіцячымі касцюмчыкамі.

Такім чынам, можна канстатаваць: нягледзячы на велізарную колькасць клопатаў і праблем, у мнагадзетнай сям'і Пусковых напярэдадні навагодніх і калядных святаў пануе гармонія, хоць і падобная больш на дысцыпліну надзвычайнага становішча. На Новы год у дом прыедзе старэйшая дачка, якая нарэшце пазнаёміцца з новымі дзвюма сястрычкамі і братам.

Сын атрымаў заданне прынесці з лесу святочную ёлку. Дарэчы, прыемна адзначыць, што хлопчык змяніў сваё меркаванне наконт трайнят. Спачатку, па сакрэту расказала нам Марыя Георгіеўна, ён вельмі хваляваўся з-з таго, што ў рэйтынгу ўвагі і пакупак ён адсунуты на чацвёртае месца. Ну а потым, калі бацька прапанаваў сыну аддаць нованароджаных, напрыклад, сёстрам Марыі Георгіеўны, у адказ абазваў дарослага, прабачце, «дурнем», пасля чаго ўся сям'я рагатала да ўпаду.

Калі гадзіннік будзе біць дванаццаць, маці трайнят загадае самае галоўнае сваё жаданне — каб яе дзеці былі здаровымі і лёс ім выпаў шчаслівы. А ўсім людзям Марыя Георгіеўна Пускова жадае таксама здароўя, якое нельга набыць ні за якія грошы, а таксама і прыемных нечаканасцяў — але не абавязкова такіх, якія атрымала яна сама напярэдадні Новага года, а тыя, якіх людзі самі жадаюць!

**Ілона ІВАНОВА.**
**Фота Аляксандра ЛІЦІНА.**

*Прагноз*

# ПАЛАСА АДНОСНАГА ЗАЦІШША

**1998-мы не абяцае Беларусі ніякіх буйных палітычных узрушэнняў. Вельмі верагодна, што ён увогуле будзе адным з самых спакойных у гэтым дзесяцігоддзі, — дзесяцігоддзі, на працягу якога нашай краіне давялося перажыць выключна важныя павароты лёсу.**

Для апазіцыі адзіным шанцам на тое, каб вярнуцца ў рэальную палітыку і пачаць хоць колькі-небудзь плённую барацьбу за ўладу, маглі б стаць толькі датэрміновыя парламенцкія або прэзідэнцкія выбары. Аднак разлічваць на хуткія выбары ў сённяшніх умовах не выпадае.

Прэзідэнцкая перадвыбарная гонка магла б пачацца ў 1998 годзе, калі б у краіне працягвала дзейнічаць Канстытуцыя 1994 года. Паводле яе тэрмін паўнамоцтваў першага беларускага прэзідэнта заканчваецца ў ліпені 1999 года. Звычайна за год да выбараў палітычныя сілы рэзка актывізуюць свае намаганні. Аднак, паводле вынікаў лістападаўскага рэферэндуму, які прайшоў у краіне крыху больш як год таму, тэрмін паўнамоцтваў цяперашняга прэзідэнта аўтаматычна падоўжаны на два з паловай гады і заканчваецца толькі 27 лістапада 2001 года.

Да апошняга часу заставаліся некаторыя спадзяванні на тое, што прэзідэнт дасць згоду на датэрміновыя парламенцкія выбары. Усё ж сітуацыя з народным прадстаўніцтвам у беларускім парламенце, на думку многіх, неадназначная. Тыя 110 дэпутатаў, якія засядаюць сёння ў ніжняй палаце Нацыянальнага сходу, выбіраліся паводле выбарчага закона, які прадугледжваў дэпутацкі корпус у складзе 260 парламентарыяў. Такім чынам, атрымліваецца, што сёння сваіх прадстаўнікоў у парламенце мае меншая частка насельніцтва краіны (110 акруг з 260).

Меркавалася, што магчымасць правядзення датэрміновых дэмакратычных выбараў у парламент стане адной з неабходных умоў дыялога паміж беларускім кіраўніцтвам і еўрапейскімі структурамі. Аднак на зыходзе года, 22 снежня, Аляксандр Лукашэнка, як вынікае з паведамлення яго прэс-службы, заявіў, што «цяперашні парламент з'яўляецца працаздольным і ніякіх датэрміновых выбараў, ва ўгоду чыімсьці амбіцыям і вузкакарыслівым інтарэсам, у краіне не будзе».

Паказальна, што гэта заява была зроблена за паўтара месяца да прыбыцця ў Мінск місіі АБСЕ, у задачу якой уваходзіць аздараўленне адносінаў паміж Беларуссю і Захадам на аснове дэмакратычных пераўтварэнняў у нашай краіне. Не даводзіцца сумнявацца, што дэмакратычна абраныя інстытуты ўлады — адна з найпершых умоў, якія прад'яўляе Еўропа да любой краіны кантынента. І калі пункт гледжання беларускага прэзідэнта на ступень дэмакратычнасці сістэмы ўлады ў краіне застанецца нязменным — пра плён місіі еўрапейскіх экспертаў здагадацца няцяжка.

Нагадаю, што, паводле новай Канстытуцыі, зацверджанай на апошнім рэферэндуме, парламенцкія выбары павінны адбыцца ў канцы 2000-га або ў пачатку 2001-га года.

Наўрад ці хоць адна палітычная сіла можа ў надыходзячым годзе разлічваць на значную актывізацыю палітычнай актыўнасці насельніцтва, на схільнасць беларускіх грамадзян да масавых выступленняў і пратэстаў. Па-першае, для пратэстаў не будзе асаблівых падстаў: мяркуючы па тэндэнцыях у эканоміцы, далейшага зніжэння жыццёвага ўзроўню сярэдняга беларуса ў 1998 годзе не прадбачыцца. Па-другое, сваю ролю адыгралі жорсткія абмежаванні, уведзеныя ў дачыненні да арганізатараў і ўдзельнікаў масавых выступленняў вядомым прэзідэнцкім дэкрэтам. Па-трэцяе, у грамадстве, мяркуючы па сацыялагічных апытаннях, надышоў перыяд стомленасці і расчаравання з нагоды бясплённасці палітычных акцый і дзейнасці апазіцыі.

Пэўную інтрыгу ў беларускае палітычнае зацішша здольныя ўнесці магчымыя ўзрушэнні ў Расіі, а таксама Украіне. У Расіі пакуль далёка да лёсавызначальных выбараў, аднак значны неспакой выклікае здароўе Барыса Ельцына. Што датычыць паўднёвых суседзяў, то там у недалёкай будучыні пройдуць і парламенцкія, і прэзідэнцкія выбары. Прычым значныя шанцы на поспех маюць левыя, пракамуністычныя сілы, якія ў якасці адной з галоўных мэтаў абвяшчаюць далучэнне да беларуска-расійскага Саюза. Пры збегу пэўных абставінаў у 1998 годзе магчымы чарговы ўсплёск інтэграцыйнай кампаніі — ужо з удзелам Украіны. Перад беларускім прэзідэнтам пры гэтым могуць адкрыцца новыя заманлівыя перспектывы.

І, нарэшце, пра адзін знамянальны юбілей, які ў 1998 годзе па-рознаму адзначыць беларуская грамадскасць. Споўніцца сто гадоў з таго дня, як у зялёным драўляным доме на беразе Свіслачы пачала адлік сваёй гісторыі партыя, якой у XX стагоддзі наканавана было перажыць найвялікшы ўздым і найвялікшае крушэнне на 1/6 частцы сушы. Сімвалічна тое, што беларуская зямля стала не толькі калыскай для ідэалогіі, з якой пачаўся вялікі камуністычны эксперымент, але і дамавінай для гэтага 74-гадовага эксперымента, які завяршыўся ў снежні 1991 года ў Белавежскай пушчы.

**Валянцін ЖДАНКО.**




*Віншуюць з днём нараджэння*
*і з Новым 1998 годам!*
*Жадаюць шчасця, здароўя, поспехаў:*

**Таццяне Львоўне ПАРХІМОВІЧ** *з г. Стоўбцы — сябры; дарагой пляменніцы* **Людміле Уладзіміраўне ШЫБКО** *з в. Аталязь — цёця Маня, г. Апочка Пскоўская вобл.; любаму* **Дзмітрыю Дзмітрыевічу БУЙНІЧУ** *з Рэчыцы — Святлана;* **Ірыне Яўгенаўне КАРАТАЙ** *— мама, Марына, в Масцішча; дарагой сястры* **Генуэфе Антонаўне КУЗМІЦКАЙ** *з в. Ліпкі Астравецкага раёна — Ірына, г. Смаргонь; дарагой мамачцы і дачушцы* **Галіне Аляксееўне ГАЎРЫЛАВАЙ** *з в. Валоўск Ельскага раёна — дачка Аня і мама; дарагой маме* **Яніне Аўгусцінаўне ДЗЕЙКА** *— дзеці, в. В. Раёўка Капыльскага раёна; настаўніцы* **Сафіі Пятроўне ШАБУНЬКА** *з Давыд-Гарадка — сям'я Басаўцоў;* **Ганне Пятроўне ПРАКАПОВІЧ** *з в. Варкавічы Слуцкага раёна з нагоды 60-годдзя — муж, дзеці, унукі.* **Уладзіміру Рыгоравічу БАСАЎЦУ** *з г. Брэста — родныя з Давыд-Гарадка.*

## ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ АТРЫМАЎ ЗАПРАШЭННЕ НАВЕДАЦЬ ПСКОЎШЧЫНУ

У Беларусі вітаюць імкненне Пскоўскай вобласці да ўстанаўлення трывалых кантактаў не толькі з Віцебшчынай, але і з рэспублікай у цэлым. Аб гэтым заявіў 30 снежня прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з кіраўніком адміністрацыі Пскоўскай вобласці Яўгенам Міхайлавым. Пры гэтым ён адзначыў, што супрацоўніцтва павінна развівацца не толькі ў галіне эканомікі, але і ў іншых сферах.

Адзіная мытная прастора таксама ў многім спрыяе аднаўленню ранейшых сувязяў і развіццю новых, сказаў Яўген Міхайлаў. Паводле яго слоў, у гэтым вельмі зацікаўленыя і жыхары Пскоўшчыны. Яны з вялікай увагай сочаць за развіццём сітуацыі ў Беларусі і рады яе поспехам.

Яўген Міхайлаў запрасіў Аляксандра Лукашэнку наведаць у бліжэйшы час Пскоўшчыну ў сувязі з набліжэннем 200-годдзя з дня нараджэння Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна, пабываць у гістарычных мясцінах, звязаных з імем вялікага паэта.

**Міхаіл ЖУРАВОВІЧ, БЕЛТА.**

*Хай са снежнай далечы агністай*
*Дыхаюць у твар не халады —*
*Чысціні крамянае ўрачыстасць,*
*Ды парыў здаровы,*
*Малады!*

**Што пажадаць чытачам «Звязды» ў новым, 1998-м годзе, годзе, які прыбліжае нас да новага тысячагоддзя, даты, якую шчасціць сустрэць не менш чым праз дзесяць вякоў чалавечага жыцця? Міру, дастатку, здароўя, згоды ў жыцці, добрага плёну ў працы і чыстых памкненняў, як гэты ўрачысты снег, што сыплецца на нашу радзімую зямельку Бацькаўшчыны!**

**Генадзь ПАШКОЎ, паэт, галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя».**

ПОГЛЯД

# ПАД ПЫРСКІ ШАМПАНСКАГА ПРА СПРАВЫ СЯМЕЙНЫЯ



**Мы — народ монанацыянальны. Як бы нас ні разводзілі па розныя бакі барыкад, мы адчуваем сябе адзіным цэлым. Такой вялікай сям'ёй. Увогуле сямейны матыў нам блізкі. Можа быць, мы і захавалі асноўныя свае рысы дзякуючы толькі сям'і?**

**Так што пагаворым аб справах сямейных...**

Калі хто памятае, то словы, вынесеныя ў загаловак, былі лозунгам славянафілаў — прыхільнікаў асаблівага шляху Расіі. Былі яшчэ заходнікі; яны аддавалі перавагу, як цяпер бы сказалі, заходняй мадэлі. У больш шырокім сэнсе гэта можна назваць спрэчкай паміж ліберaламі і кансерватарамі.

На тэрыторыі былой Расійскай імперыі (потым — СССР) спрэчка не завершана. Паміж двума пунктамі погляду, вучыў Гегель, ляжыць не ісціна, а праблема. Яна не вырашана дагэтуль. Процістаянне захавалася, мы прыйшлі да таго, з чаго пачалі. Ну і яшчэ ўсё ўскладняецца нявырашаным нацыянальным пытаннем. У нашай краіны ёсць назва, герб, сцяг, гімн, ёсць нацыянальныя інстытуты ўлады, кажуць, ёсць нават свая мова і гісторыя, але назваць Беларусь нацыянальнай дзяржавай, язык усё яшчэ не паварочваецца. Усё яшчэ ці ўжо?..

Хацелі б мы таго ці не, але апошнія дзвесце гадоў лёс беларусаў ад лёсу расіян адарваць нельга. Гэта нельга рабіць яшчэ і таму, што апошнія восемдзесят з тых двухсот гадоў былі літаральна і сапраўды гадамі аднаго народа — савецкага. Без усякіх нацыянальных адметнасцяў. Мы былі як дэталі аднаго механізма, і нават характары двух народаў зблізіліся. Не кажучы аб светапоглядзе. Можна так сказаць: беларусы — гэта крыху рускія, а рускія — крыху беларусы. Хаця, канешне, высвятленне ступені ўзаемапранікнення — тэма для вучонага.

Дарэчы, чаму Беларускі народны фронт не меў рашаючага поспеху, хоць быў да гэтага блізкі? Нацыянал-дэмакраты не ведалі, з кім маюць справу, ім здавалася, што беларусы тыя ж, што на пачатку стагоддзя, трэба толькі, маўляў, даць ім ідэю, абудзіць нацыянальную свядомасць. Аднак беларусы ўсведамлялі сябе ўжо не як проста беларусы, а савецкія беларусы. Гэта ўлічана не было...

Вы не задавалі сабе пытання: чаму, калі 74 гады савецкай улады былі нярэдка патокам крывавых злачынстваў, калі дзесяткі мільёнаў былі знішчаны ў рэвалюцыях, войнах і проста так, калі цэлыя сацыяльныя групы былі выразаны, чаму ўлада пратрымалася тры чвэрці стагоддзя? Але давайце прыгадаем асноўныя лозунгі Кастрычніцкай рэвалюцыі. Напрыклад, зямлю — сялянам, заводы — рабочым, уладу — Саветам. Вось. Гэтага аказалася дастаткова. Іншымі словамі, справядлівасць і самакіраванне народа. Справядлівасць і саборнасць. Справядлівасць як перадзел усяго на карысць усіх, а саборнасць — як народная ўлада ў выглядзе Саветаў.

Па сутнасці, мы бачым тут біблейскія матывы. У Бібліі таксама асноўная ідэя — справядлівасць. Так што народ ніколі не стаў бы цярпець гэту ўладу, ніколі не пайшоў бы на такія фантастычныя ахвяры, тут патрэбна адпаведная ідэя. Дарэчы, калі разглядаць падзеі навейшай гісторыі Беларусі ў гэтым рэчышчы, то ўсё становіцца на свае месцы.

Скажам, у 1994 годзе адбыліся не выбары прэзідэнта ў строгім сэнсе гэтага слова, а выбар шляху. Але ўжо на чале са справядлівым Лукашэнкам, у адрозненне ад несправядлівага Кебіча. Якая тэма была самая папулярная ў першай палове 90-х? Рабаванне дзяржавы чыноўнікамі, адсутнасць справядлівасці. Улада і народ жылі ў абсалютна розных вымярэннях.

А чаму, дазвольце спытаць, савецкая ўлада ўсё ж загадала доўга жыць? А таму, што нельга бясконца існаваць ва ўмовах адсутнасці палітычнай і эканамічнай свабоды. Нават перш за ўсё — эканамічнай. Людзі захацелі ўдзельнічаць не толькі ў стварэнні нацыянальнага багацця, але і ў яго размеркаванні. Калі ім намякнулі, што гэта ў прынцыпе магчыма.

Беларусы паверылі ў мару. Гэта не значыць, што застойны час яны лічаць ідэалам. Проста яны не прымаюць час сённяшні, час крыміналу, час зладзеяў, час падзелаў і перадзелаў. Час несправядлівасці.

### «ДАЛЬ СВЕТЛАЯ»

На чым трымаюцца заходнія ліберальныя дэмакраты? Скажуць: на павазе правоў чалавека, на свабодзе палітычнай і эканамічнай, на магчымасці, урэшце, выбіраць — ад дэпутатаў парламента да ладу жыцця. Гэта будзе правільна, але не ўсё.

Устойлівасць любой сістэмы залежыць ад наяўнасці процівагаў. Каб было зразумелым: на кожнае зло ёсць сваё дабро.

Чаму Расія не скацілася ў балота грамадзянскай вайны, хоць усе падставы для гэтага былі? Таму што там ёсць спадары Беразоўскі, Гусінскі, Патанін і інш., для большасці расіян — людзі непрыемныя, але яны ўвасабляюць якраз тыя фінансавыя групы, аб якіх гаварылася вышэй. Яны, натуральна, канкурыруюць між сабою, аднак вымушаны суіснаваць, каб не страціць усё ў выніку сацыяльнай катастрофы.

У нас сваіх беразоўскіх няма. Як быццам меліся быць, аднак вось не здарылася. Улічваючы выбар беларусаў, гэта можна растлумачыць. Багатых нідзе ніколі не любілі і любіць не будуць. Сама наяўнасць багатага чалавека ўжо прыніжае годнасць «чэснага» працаўніка: а чым я горшы за яго? Гэтая балючая струнка ёсць у душы кожнага, трэба толькі ўмела на ёй сыграць.

Несправядлівасць закладзена ўжо ў самім чалавеку: ці справядліва, што ён не вечны, што памірае? Няроўнасць суправаджае чалавека ад нараджэння і да смерці. З гэтым бы змірыцца, будаваць жыццё па меры здольнасцяў, а мы ўсё «взыскуем града», ірвёмся ў «даль светлую», шукаем поўнай, канчатковай і абсалютнай праўды.

Якой не будзе ніколі. І дзякуй Богу, бо ў процілеглым выпадку жыццё страціла б сэнс. Беларусы гэтага не разумеюць? У глыбінях падсвядомасці — разумее кожны. Праўда, гэта не стала яшчэ свядомым разуменнем. Фактам жыцця.

### У ДУШЫ МЫ ЗАСТАЛІСЯ ...

Цікава, што вы адчуваеце, калі пры вас прыніжаюць чалавека — скажам, вашага начальніка? Ну, шчыра: асалоду, патаемную радасць? У тым і справа, што многія будуць радавацца.

Публічнае высвятленне адносін — адно з любімых відовішчаў пераважнай большасці людзей. Такое хобі, ці, хутчэй, наркотык. Псіхалагічным падмуркам тут служыць няхітрае: ты сядзеў высока — дык і цябе мордай у бруд, панюхай, не нам адным нюхаць.

Апошнім часам начальства арыштоўваюць, судзяць, саджаюць, проста звальняюць шырока і паўсюдна. Мяне больш цікавіць рэакцыя паважанай публікі.

А яе прысуд зараней вядомы: мала саджаюць. Найбольш гарачыя галовы раяць прымяняць расстрэлы на месцы, пакаранне смерцю на плошчы з паказам па ТБ (калі б сам не чуў, не паверыў бы). А як быць з нашай талерантнасцю і цярпімасцю? Не, канешне, я не веру ў крыважэрнасць беларусаў. Гэта ў душах шмат каго бушуе ранейшая прыгнечанасць і прыніжанасць.

У рэдакцыю часта прыходзяць пісьмы проста на маё імя. Людзі дзеляцца сваімі ўражаннямі, меркаваннямі, некаторыя прапануюць свае варыянты нашага развіцця. Адметная асаблівасць: 99 працэнтаў карэспандэнтаў ва ўсім вінавацяць дрэннае, хлусліваe, нават злачыннае начальства. Тут, значыць, корань усіх бед. Канешне, не без гэтага, але, можа быць, па Сеньку і шапка? Ці нельга дапусціць такую верагоднасць: чалавеку заўсёды будзе дрэнна, калі нехта другі будзе вырашаць яго лёс?

Мы, атрымліваецца, хочам, каб за нас вырашалі, але каб мы жылі добра, сытна і спакойна. Так не бывае. Банальна, але дакладна: чалавек сам каваль свайго шчасця. Што новага тут скажаш?

### БЕЛАРУСЫ — САМЫЯ ЛЕПШЫЯ БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ?

Памятаеце? Спачатку Літва, потым Эстонія і Латвія, далей — Грузія і Малдова, канешне ж, і Украіна. У гэтым спісе адсутнічала толькі адзіная з еўрапейскіх рэспублік СССР — Беларусь. Наша апазіцыя глядзіць на гэты факт адназначна адмоўна, улада, адпаведна, станоўча. Не думаю, што ўсё так проста, і прапаную капаць глыбей.

Ці былі ўвогуле падставы лічыць, што магчымая этнічная рэвалюцыя беларускага ўзору? Хто б быў яе рухавіком? Заходнія беларусы? У саставе Польшчы яны знаходзіліся з 1919 па 1939 год, без утварэння дзяржавы. У прыбалтаў яна была. Гэта запомнілася. Эстонцы і латышы змаглі разыграць нацыянальную карту пад лозунгамі «назад у Еўропу» і «Эстонія — для эстонцаў», а «Латвія — для латышоў».

Але «Беларусь — для беларусаў» — такое ўявіць цяжка. Такога быць не магло, таму што не магло быць. І справа тут, канешне, не ў талерантнасці. Ні памеры Беларусі, ні прыродныя рэсурсы, ні гістарычная памяць не садзейнічалі этнічнаму выбуху. Не было ў нас такой раскошы — паддацца эмоцыям. Калі хочаце, такім чынам праявілася мудрасць і асцярожнасць так званага сярэдняга беларуса.

Падаваць гэта як інтэлектуальную абмежаванасць, недалёкасць, абыякавасць — значыць самому быць недалёкім, думаць павярхоўна. Мэта любога народа — самазахаванне і працяг. Абвінавачваць народ у тым, што ён выбраў такі шлях, сама меней недарэчна. Можна толькі разважаць: чаму менавіта такі? І да чаго гэты шлях прывядзе?

Мы пазбеглі ваенных дзеянняў, крыві, мы не галадаем, нам больш-менш рэгулярна плацяць зарплату і пенсію, — гэта з аднаго боку. З другога — грамадства падзялілася на два лагеры, эканоміка знаходзіцца ў непрытомным стане, вёска як суб'ект народнай гаспадаркі па сутнасці знікае, зарплаты і пенсіі — маленькія, з кожным месяцам (нават так!) Беларусь у нечым аддаляецца ад цывілізаванага свету. Вось вам плюсы і мінусы нашага шляху. Разважайце. Прыкідвайце. Вырашайце.

Знарок не ўпамінаю праблему нацыянальнага адраджэння. Прашу прабачэння, гэта не грэла і не грэе. Калі беларус XIX стагоддзя мог ісці на ахвяры дзеля нацыянальнай ідэі, то беларус XX — не. Час рамантыкі даўно і беззваротна прайшоў. Хоць п'еса ідзе ўсё тая ж — дэкарацыі змяніліся. Пануе голы практычны разлік: што я з гэтага буду мець?

Пацвярджэнне знойдзем паўсюдна. Бо паўсюдна ў былых савецкіх рэспубліках пасля нацыяналістаў прыйшлі да ўлады былыя камуністы. І прыйшлі, як толькі жыць стала дрэнна. Нацыянальная ідэя нікога не прывабіла.

Свет змяніўся. Ён змяніўся тады, калі адны дабіліся бліскучых поспехаў на ніве дабрабыту, а другія сталі ім моцна зайздросціць. Беларусы зараз жадаюць жыць не горш, чым немцы ці японцы — вось вам рашаючы момант.

Крыўдна? А як жа. Для «нацыянальна заклапочанай» інтэлігенцыі, да якой адношу і сябе, крыўдна. Вельмі крыўдна і балюча. Але — такое жыццё. Прагматычнае насельніцтва Беларусі не жадае ўсведамляць сябе нацыянальна. Спачатку хоча быць сытым, а потым — беларусам. Сытым беларусам. І што ў гэтым дрэннага?

Газета «Имя» рэгулярна праводзіць «дрэнны рэйтынг» на тэму «любімае — нелюбімае». Можна палічыць яго толькі і выключна жартам, «прыколам». Верагодна, многія з рэспандэнтаў менавіта так апытанне і ўяўляюць. Мне так не здаецца.

Вось, скажам, пытанне: любімае права і нелюбімы абавязак. Любімае права: на жыццё — 36,2 працэнта, быць чалавекам — 7 працэнтаў. Нелюбімы абавязак апытаных — служыць рэжыму — 40,3 працэнта, быць прыгнечаным — 3,7 працэнта. Пры ўсіх дапушчэннях (месца, узрост, прафесія, адукацыя і інш.) — красамоўна.

Сталін — даўно гісторыя, але суайчыннікі ўсё яшчэ непакояцца за сваё жыццё. У той жа час проста быць чалавекам — не вабіць. Лічыцца, што гэта само сабою зразумела? Рэспандэнты, думаю, людзі «прасунутыя». Яшчэ думаю, што пад правам на жыццё многія разумеюць таксама і пераважна права на камфортнае жыццё. Адсюль выснова: не толькі старыя, але і маладыя беларусы мараць аб лепшым жыцці. Што не навіна.

Што гэта даказвае? Тое, што беларусы — нармальныя ўвогуле людзі, якія зла сабе не жадаюць. Канфармісты; людзі, якія згодны на штосьці закрыць вочы дзеля спакою і дабрабыту.

Гэта дрэнна? Безумоўна. Але падыдзем з дыялектычных пазіцый: гной смярдзіць, але ўгнаенне — выдатнае і экалагічна чыстае. Я хачу заўважыць толькі тое, што простае жаданне «жыць не горш, чым немцы і іншыя шведы», ёсць сёння адзіны шлях выйсця з усіх крызісаў, як палітычных, так і эканамічных.

Тады можа меў рацыю вялікі інквізітар у «Братах Карамазавых», які папракаў Ісуса ў неразуменні чалавечай прыроды? Ты, казаў ён, дасі ім свабоду, а яны прыйдуць і скажуць, што яна ім непатрэбная, вазьмі яе назад, дай лепш хлеб наш надзённы.

Беларусы канца стагоддзя, між іншым, маглі б быць ідэальнымі персанажамі легенды. Ім прапанавалі свабоду, яны адмовіліся і папрасілі хлеб свой надзённы. Яны не горшыя і не лепшыя за іншых. Асаблівасць беларускага шляху толькі ў тым, што ён не дапускае крайніх варыянтаў. Беларусаў столькі білі, знішчалі і прыніжалі, што — парадокс — яны нікому не жадаюць такога ж лёсу. Яны не ставяць сабе мэтай узвышэнне на чужых касцях. Мы, канешне, на нечы погляд, адсталыя і забітыя ў параўнанні, скажам, з латышамі. Але ў нас не прынята прыніжаць рускага за тое што ён рускі, паляка — за тое што паляк, і інш.

Мы ўсё гэта прайшлі па поўнай праграме. Можа быць, гэта шчасце, што мы ў масавым маштабе не захварэлі ні на антысемітызм, ні на русафобію, ні на ўсе іншыя «фобіі» з нацыянальнай афарбоўкай? Іншымі словамі, мы захавалі сваю адметнасць «у сям'і савецкіх народаў». Касцяк, на які мяса нарасце.

Народ заўсёды мудрэйшы за тых, хто яго тлумачыць. Яго прырода куды больш глыбокая, чым гэта здаецца. Можа быць мы, інтэлігенцыя, тыя, хто «тлумачыць народ», глядзім павярхоўна і бачым тое, што нам хацелася б бачыць? Пэўна, наша імкненне ў Еўропу ёсць толькі наша імкненне хутчэй далучыцца да заходніх стандартаў бытавога жыцця? У гэтым нічога дрэннага, зразумела, няма, так і трэба. Застаецца толькі адказаць на адно элементарнае пытанне: мы даспелі да гэтых заходніх стандартаў ці не?

Што датычыць спажывання даброт цывілізацыі, то так, тут мы фору дадзім любому. Калі гаварыць аб жаданні самім сабе забяспечыць такое спажыванне, трэба яшчэ моцна падумаць.

Мне прыемна, што мой сын не хоча і не будзе жыць так, як я. Што ён не бачыць свайго жыцця без камп'ютэра і «відака», без «Інтэрнэта» і магчымасці з'ездзіць на выхадныя куды захоча, за любую мяжу.

Асабліва мне прыемна, што ён нічога не прымае на веру і не церпіць над сабою ніякага дыктату. Хоць і стварае для мяне гэтым пэўныя праблемы. Ён, вы ведаеце, патрабуе павагі да сябе і да свайго ладу жыцця. Засталося навучыць яго паважаць і чужы лад. А так — я за яго спакойны.

За лёс краіны таксама...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**



*Андрэй Шаўцоў, сын аўтара матэрыяла, сфатаграфаваў бабулю падораным да Новага года фотаапаратам: тры пакаленні на адной газетнай старонцы!*

# МЯСТЭЧКА ЛАГІШЫН ЯК ЧАСТКА КРАІНЫ

**Калісьці на Беларусі было больш як 400 мястэчак, якія былі як бы тварам нашага краю. Некаторыя з іх мелі нават магдэбургскае права і паступова перарасталі ў гарады, іншыя з цягам часу вярталіся ў разрад вёсак. Многім жа суджана было так і застацца мястэчкамі, вельмі своеасаблівымі паселішчамі са сваімі традыцыямі, радавымі сувязямі, сваімі радасцямі і праблемамі.**

**Адно з такіх мястэчак — Лагішын у Пінскім раёне, цяпер мае больш гучную назву — гарадскі пасёлак.**

## МЯСЦОВАЯ ЭКАНОМІКА

Мае гэты пасёлак 4500 жыхароў, з іх тысячу дзяцей і паўтары тысячы пенсіянераў. На яго тэрыторыі размешчаны калгас «Беларусь» і больш як 40 розных арганізацый і прадпрыемстваў, — у асноўным звязаных з сельскагаспадарчай вытворчасцю і сацыяльнай сферай. Але, каб папоўніць бюджэт пасёлка, лагішынцы звяртаюцца ў райцэнтр. Як зазначае Сцяпан Шаўчук, старшыня Лагішынскага пасялковага Савета, пакуль не ўсе мясцовыя прадпрыемствы працуюць стабільна.

Крыху лепш стала ў «Сельгасхіміі», якая нават набірае раней скарочаных сваіх работнікаў, а вось меліярацыйная ПМК яшчэ не на поўную магутнасць працуе. Землі тут не надта ўрадлівыя, аднак зіма ідзе, кампосты не вывозяцца, адпаведна падаюць прыбыткі ад аграрнай вытворчасці. У мясцовым калгасе за апошнія гады істотна знізілася ўраджайнасць збожжавых, летась яна складала толькі 27 цэнтнераў з гектара, а раней жа даходзіла і да 41 цэнтнера, упалі таксама надоі малака, скарачаецца і пагалоўе.

Будаўніцтва ў Лагішыне вядзецца толькі індывідуальнае і амаль выключна жыллёвае. Узводзіцца, праўда, яшчэ вялікі малітоўны дом мясцовай абшчыны хрысціян веры евангельскай. Некалькі гадоў таму ў Лагішыне быў запраектаваны шматкватэрны дом для настаўнікаў, і будаўнікі ўжо забілі пад яго сваі, але праект так і застаўся нерэалізаваным, яшчэ ў 1995 годзе настаўнікі дабіваліся фінансавання на гэты дом, але не атрымалася нічога і дагэтуль, пазней хацелі пераўтварыць гэты дом у кааператыў, аднак высветлілася, што кватэра ў ім будзе каштаваць больш 500 як мільёнаў рублёў — надта дарага для Лагішына, нават з улікам магчымых дзяржаўных субсідый.

З апошніх прыкметных у Лагішыне падзей — еўрарамонт прадуктовага магазіна «Янтарь». Стала тут сапраўды прыгожа, праўда, пакупнікоў ад гэтага асабліва не прыбавілася. Былі яшчэ ў Лагішыне мэблевы і гаспадарчы магазіны, іх давялося зачыніць. Падумаўшы, адзін з іх па прыкладу суседняга Моталя рэканструявалі пад крыты рынак, ды штосьці не пайшоў тут гандаль.

З прыватных прадпрыемстваў удалося выявіць тут толькі адну фірму Анатоля Лукашэвіча, якая займаецца вытворчасцю мэблі. Тут занята чалавек 20, якія ў нежылых хатах вырабляюць «мяккія куткі», а пасля прадаюць іх у Расіі. Зарэгістраваных жа беспрацоўных у Лагішыне 90 чалавек, гэта працэнтаў 7 ад колькасці працаздольных, што зусім нямала. Праўда, гэтыя людзі, як заўважае С. Шаўчук, пераважна не жадаюць ісці ў калгас ці браць буракі на праполку. Фермеры таксама пакуль што не выявіліся, хаця Лагішын заўсёды быў аграрным мястэчкам і да эпохі калгасаў славіўся руплівымі гаспадарамі. Пакуль жа сельская гаспадарка квітнее тут на падсобным узроўні.

— Зямлёю плошчай да гектара забяспечаны ўсе жадаючыя, цяпер людзі пачалі сеяць шмат збожжавых, аднавілі пагалоўе жывёлы на сваіх падворках, маюць у сваіх дварах нямала трактароў і машын, — расказвае С. Шаўчук. — Прысядзібныя гаспадаркі цяпер сталі галоўным сродкам выжывання, хаця раней некаторыя гаспадыні маглі дазволіць сабе ледзь не гарадскі лад жыцця.

## ШКОЛА

Школа ў Лагішыне адна і ўжо не новая, навучаецца тут 627 вучняў, у дзве змены, а яшчэ трэцяя вячэрняя...

— Задыхаемся мы тут, няма нармальнай спартыўнай і актавай залы. Часам нават у настаўніцкай даводзіцца заняткі праводзіць,— расказвае дырэктар Лагішынскай сярэдняй школы Ганна Лінкевіч.— Але настаўнікі ў нас добрыя, пераважна свае ж выпускнікі, і дзеці таленавітыя. За апошнія 5 гадоў з 264 выпускнікоў 56 паступілі ў ВНУ, 73 — у сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы. Некаторыя нашы выпускнікі вучацца ў польскіх ВНУ. Ды дрэнна, што ў Лагішыне стала цяжка працаўладкавацца. Моладзь застаецца ў сем'ях бацькоў, дамы неяк будуюць сабе, а вось працы няма...

Лагішынская школа зноў стала рускамоўнай. Пасля невялікага перыяду, калі дзеці пачыналі вучыцца па-беларуску, усё вярнулася да ранейшага — так захацелі бацькі пасля рэферэндуму 1995 года. Адміністрацыя школы спрабавала сабраць адзін клас з беларускай мовай навучання, але бацькі самі ў заявах запатрабавалі менавіта рускай мовы. Акрамя таго, быў некалькі гадоў таму ў тутэйшай школе факультатыў па вывучэнню польскай мовы, ды група распалася. Энтузіязм, відаць, закончыўся, наваліліся праблемы, зноў жа вучні адчуваюць моцныя перагрузкі. Адзінае, што засталося яшчэ, дык гэта навучанне дзяцей рэлігіі, якое праводзяць з жадаючымі каталіцкі і праваслаўны святары — рэлігію, праўда, вывучаюць па-за школай.

Дырэктара школы вельмі турбуе стан здароўя вучняў, які за апошнія гады значна пагоршыўся. У школе ажно 60 вучняў аднесены да спецгруп па фізкультуры, ім не выстаўляюцца адзнакі па гэтаму прадмету, да мінімуму зніжаны нагрузкі. Як канстатуе Ганна Мікалаеўна, у дзяцей «падае» зрок, шмат хворых на шчытападобную залозу, прыкметныя ў школьнікаў хваробы кішэчніка і страўніка, нырак. Зноў жа, цяпер на падаконніках у школе дзеці больш не пакідаюць, як бывала раней, кавалачкі хлеба ці булачак... Школа забяспечвае дзецям з малазабяспечаных і мнагадзетных сем'яў бясплатнае харчаванне, альбо па льготнай цане...

## КАСЦЁЛ

Відаць, самай значнай падзеяй ў адыходзячым годзе ў жыцці Лагішына была каранацыя іконы Маткі Боскай Лагішынскай-каралевы Палесся, што знаходзіцца ў мясцовым касцёле. Урачыстасць, якая сабрала сотні вернікаў і шмат біскупаў і святароў, адбылася тут 10 мая — ікона каранавалася па рашэнню папы рымскага. Перад гэтым старажытны абраз быў аднаўлены мінскімі рэстаўратарамі і прыведзены да першапачатковага выгляду. Быў аднаўлены перад каранацыяй і касцёльны алтар. Нямала сваіх сіл уклаў у гэтую справу тутэйшы ксёндз Міраслаў Жлабіньскі. Айцец Міраслаў служыць тут ужо сем гадоў. Многае ён паспеў зрабіць, але шмат яшчэ ў планах.

— Дзякуючы помачы Божай нямала і зроблена было, але яшчэ болей трэба. Яшчэ касцёл не аднаўлены як след, вокны патрэбна аднавіць, там выбітыя шыбы, крыж на вежы трэба паправіць, бо ён пахілены. Трэба, каб у касцёле былі прыгожыя вітражы, гэта мая мара. Могілкі, як я мяркую, трэба абавязкова прывесці ў парадак, хаця яны не парафіяльныя, а камунальныя тут, бо гэта сведчанне культуры цэлага пасёлка.

Айцец Міраслаў заўсёды ў розных клопатах. Але ці не найбольшая яго мара — пабудаваць у Лагішыне Дом міласэрнасці для людзей старых, нямоглых, якім патрэбны дапамога і апека. Такі дом, якія будуюць і ўтрымліваюць прадстаўнікі ягонага ордэна ар'яністаў у сваіх месцах службы. Ксёндз ужо мае выдзеленую пад Дом міласэрнасці пляцоўку і неабходныя дакументы.

— Я не спыняюся на пастаянных фінансавых клопатах, натуральна, што сродкаў бракуе, — разважае айцец Міраслаў, — але ўсё робіцца з намерам дабра для людзей, і грошы неяк знаходзяцца. Калі б аглядвацца на тое, ёсць грошы ці няма, то мы нічога б не зрабілі. Да гэтага часу мы маем даўгі мастакам за аднаўленне іконы. Але штосці збіраюць парафіяне, штосьці знаходжу сам, калі езджу і прашу. І людзі адгукаюцца, ахвяруюць, прычым вельмі часта ананімна.

## СЦЕФАНОВІЧЫ

Расказ пра мястэчка Лагішын быў бы няпоўным, калі б не адведаць і некалькі сем'яў, якія па сутнасці з'яўляюцца асновай любога горада ці вёскі. Патрапіць удалося ў сям'ю вельмі аўтарытэтнага і кантактнага чалавека Казіміра Сцефановіча. Казімір Іосіфавіч — арганіст у Лагішынскім касцёле, гадоў пяць іграе на нядзельных набажэнствах, сам жа і наладзіў інструмент. Цяпер Казімір Іосіфавіч пенсіянер, а раней працаваў і настаўнікам спеваў, і супрацоўнікам Дома культуры, і электрыкам, і закройшчыкам — стажу амаль 50 гадоў мае. Пачынаў жа з гаспадаркі.

— З 1945 года я працаваў на сваёй гаспадарцы, было ў нас 8 гектараў зямлі, з іх 4 — ворнай. Тады мы аддавалі ўвесь «букет» падаткаў, нягледзячы на тое, што два леты пасля вайны жылі ў бульбяной яме, бо, як і ў паловы Лагішына, нашы хаты ў вайну згарэлі. Бацька мой памёр яшчэ ў 1937 годзе, і зямлю апрацоўваў я, пакуль яе не забралі ў калгас, — успамінае Казімір Іосіфавіч. — Мама ж мая не ўступала ў калгас. Калі сказалі аб тым, што зямлю забіраюць, я малаціў жыта, насыпаў ужо 100-кілаграмовы мех збожжа і прыгатаваў яго сеяць. Але дзесятнік прайшоў па вуліцы і аб'явіў, што сеяць нікому нельга, бо зямля ідзе пад калгас. Тады я нахіліўся на той мех і заплакаў... Потым мы бедавалі, але ў калгас усё роўна не ўступілі. У 1952 годзе я ў армію пайшоў, а да гэтага быў краўцом, ды мала гэтым зарабляў.

Ужо ў сённяшнія часы Казімір Іосіфавіч напісаў у мясцовы Савет заяву з просьбай вярнуць ягоную зямлю, хоць часткова. «Адказалі ж мне, што няма такога закона, каб зямлю вяртаць...» — з крыўдай зазначае Казімір Сцефановіч.

Звычайна пры такой размове пытаюцца, а што б ты рабіў, чалавеча, з гэтай зямлёю? Казімір Іосіфавіч лічыць сябе яшчэ дужым, у 1980 годзе ён займаў другое месца ў спаборніцтвах па падыманню гіры ў Пінску на свяце праводзінаў зімы. Ёсць у яго і ягонага брата сыны, здатныя да сельскай работы. Але Казімір Іосіфавіч лічыць такія пытанні сама меней нетактоўнымі:

— Адзін начальнік мяне неяк спытаў, а што б вы са сваім хутарам рабілі. Дык зямля гэтая — мая спадчына, дзед у Амерыцы грошай зарабіў і купіў яе, гэта мая ўласнасць, па сутнасці. Увогуле мне страшна, што кагосьці цікавіць, а што б я рабіў са сваёй уласнасцю, гэта тое ж самае, што пытаць, а што ты будзеш са сваёй зарплатай рабіць. Не магу я цяпер сказаць, што я з зямлёю рабіць буду, бо ў мяне яе няма...

Увогуле Казімір Іосіфавіч так і застаўся крытычным у адносінах да калгасаў, ён любіць паразважаць аб палітыцы, аб нашых надзённых праблемах і даўно прыйшоў да высновы:

— Абстаноўка ў нас аздаравіцца, калі будзе прыватная ўласнасць, калі будзе канкурэнцыя. Цяжка прадбачыць, як гэта будзе, як наладзіцца. Відаць, трэба, каб дзяржава наладжваць гэта ўзялася. Але пакуль жа ў нас старая сістэма захоўваецца, ніякага прагрэсу, і эксперыменты працягваюцца, прытым у горшы бок...

Сям'я Казіміра Іосіфавіча паспела адведаць смаку як ад пасляваенных эксперыментаў, так і нядаўніх. Дзед Казіміра Іосіфавіча пакаштаваў Сібіры, яго вывезлі разам з малодшымі дзецьмі, адтуль дзед паехаў у Польшчу, аднак Казімір Іосіфавіч у Польшчу не падаўся, затрымала яго ў Лагішыне каханая дзяўчына...

Дзяцей у Казіміра Іосіфавіча і Ніны Антонаўны трое: два сыны і дачка. Дачка настаўніца, сын Міхаіл апошнім часам меў сваю фірму, якая пастаўляла французскія канцтавары ў Беларусь і Прыбалтыку, гандлявала нафтапрадуктамі. Ды ўрэшце фірма гэтая распалася, збанкрутавала, а потым не прайшла перарэгістрацыі. Як цяпер бывае, фірму гэтую «кінулі», грошы за нафту ўзялі, а пастаўкі не зрабілі. Фірма яшчэ доўга разлічвалася з даўгамі. У Міхаіла працаваў і малодшы сын Сцефановічаў — Віктар, пасля таго банкруцтва давялося Віктару пачаць іншы гандаль — з сумкамі ездзіць прыватным «чаўнаком».

У Лагішыне гэты занятак даволі папулярны, асабліва ездзяць на гандаль у Расію. Іншыя ж едуць працаваць у Польшчу. Віктару таксама давялося з'ездзіць на работу ў Польшчу, як гавораць цяпер, у парабкі ці батракі.

— У батракі ідуць не ад добрага жыцця. Бо там можна зарабіць болей. Доляраў 200—300 у месяц, што тут ніяк немагчыма,—расказвае Віктар аб сваім уласным вопыце заробкаў у Польшчы. — Я летась ездзіў працаваць на будоўлю, унутраную аддзелку дома рабілі разам са знаёмым сталяром — дзверы, вокны, падаконнікі. Там жа і начавалі. Не выходзіла нам працаваць у дзень болей чым па 8 гадзін. Лічу, што парабкам я не быў, бо зарабіў добра. А сёлета зноў ездзіў, але працаваць даводзілася цяжка па 10 —12 гадзін — рабілі фундамент... Нялёгка было. Гэта ўжо як каму і як калі ўдасца ўладкавацца.

Што далей рабіць, Віктар пакуль не вызначыўся. ВНУ з-за камерцыі ў братавай фірме скончыць не паспеў, ажаніцца цяпер таксама трэба грошы мець... Карацей, пакуль няпэўнасць. Як у вельмі многіх нашых суграмадзян.

Увогуле, ілюзіі наконт хуткага рыначнага пераўтварэння нашай краіны, дастойнага абагачэння нашых прадпрымальных і працалюбівых грамадзян, а таксама, відаць, і хуткага нацыянальнага адраджэння і культурнага пераўтварэння — імкліва праходзяць. Галоўная ж ілюзія была ў тым, што ўсяго гэтага можна дабіцца за адносна невялікі перыяд і бязбольна. І практычная правінцыя пазбавілася ад падобных ілюзій ці не хутчэй, чым сталіца і буйныя гарады. І пачала сама з цяжкасцямі ўладкоўваць сваё нялростае жыццё.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*Лагішын—Мінск.*



Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

*Лепей*
*у сваіх*
*людзях з голаду*
*паміраць,*
*чым у чужых*
*людзях*
*золата*
*збіраць.*



**Гэтыя гісторыі можна назваць тыповымі, асабліва што датычыць сталіцы. Агульны сюжэт даволі просты. Чалавек жадае жыць там, дзе яму падабаецца, і так, як лічыць патрэбным. Ён змагаецца за мару, як быццам бы дасягае свайго, але потым натыкаецца на тыя самыя акалічнасці, якія, у рэшце рэшт, і аказваюцца вырашальнымі...**

**Зрэшты, аб усім па парадку. Хіба што абыдземся без залішняга маралізатарства.**

# ІДЭАЛЬНАЯ КВАТЭРА,

## або Дзве кароткія гісторыі пра разбітыя мары

### Гісторыя першая: аб прывідзе скуранкі і нагана

Ён не разумее, чаму, калі ёсць грошы, нельга жыць у вялікай і ўтульнай кватэры.

Герой гэтай гісторыі яшчэ даволі малады чалавек. У новым годзе яму споўніцца ўсяго 33. Завуць Кастусём. Пасля доўгіх ваганняў прозвішча папрасіў усё ж не называць. Не таму, што мае пэўныя праблемы з законам. Хутчэй, на ўсякі выпадак: маўляў, газету чытаюць розныя людзі.

Дзевяць гадоў таму, пасля заканчэння мастацкага вучылішча ў Піцеры, Кастусь вярнуўся ў Мінск. Вярнуўся, каб заняцца фатаграфіяй. Зараз не без гонару сам сябе называе прафесіяналам. Відаць, гэта недалёка ад праўды, бо ўжо паспеў наладзіць дзве персанальныя фотавыставы, да таго ж заказы цякуць ракой, і заказы не самыя кепскія. Кажа, што любіць любую работу. Робіць здымкі для рэкламных буклетаў, асвоіў відэакамеру (яго рэкламныя ролікі, як правіла, ідуць у Расію), не грэбуе «драбязой» — здымае вяселлі «крутых», розныя прэзентацыі і г. д. Словам, на жыццё хапае. Калі не сказаць больш, бо Кастусь не хавае: нават пры найгоршай раскладцы ў месяц атрымліваецца долараў па 700—800.

Як быццам, яму можна хіба што пазайздросціць. Ды вось бяда: замест таго, каб па старой савецкай звычцы ціха складваць грошы ў панчоху, ён сам сабе абяцае, што абавязкова будзе мець добрую кватэру.

Уласна кажучы, вялікіх праблем з жыллём у яго не было. У 1994-м, пасля таго, як некалькі гадоў пастаяў у агульнай чарзе, не вытрымаў і купіў двухпакаёўку ў Малінаўцы. Неўзабаве Малінаўку з даплатай абмяняў на трохпакаёўку па вуліцы Кальварыйскай. Летась ад цёткі, якая памерла, атрымаў у спадчыну яшчэ адну кватэру, аднапакаёвую. Аднак мець дзве кватэры ў розных месцах вялікага горада, вядома, нязручна. Тым больш, што ўвесь гэты час ён быў вымушаны здымаць памяшканне ў цэнтры — там размяшчалася фотастудыя. Урэшце, узнікла лагічнае пытанне: чаму нельга зрабіць так, каб і жыць, і працаваць у адной вялікай кватэры? Ён ужо не сумняваўся, што яго кватэра павінна быць як мінімум шасціпакаёвай. Разлічыў прыкладна так: пакой пад студыю, пакой пад фоталабараторыю, чатыры пакоі — для сябе, жонкі і будучых дзяцей.

Трэба заўважыць, што гаворкі пра катэдж не было адразу — «у горадзе, у цэнтры я яго не пастаўлю, а ў якоенебудзь Заслаўе здымацца да мяне ніхто не паедзе». Заставалася адзінае выйсце: шматпавярховы дом. Але якраз тут пачалі ўзнікаць праблемы.

«Я звяртаўся ў гарвыканкам двойчы, прасіў дазволу набыць 6-7-пакаёвую кватэру. У новых дамах, што будуюцца, напрыклад, у раёне Севастопальскага парку, такія кватэры ёсць. Ведаю гэта дакладна, бо сам хадзіў глядзець. Але мне патлумачылі, што падобныя кватэры прызначаныя для адміністрацыйных патрэб, скажам, для апорнага пункта міліцыі ці яшчэ для чаго. Я афіцыйна прасіў дазволу купіць, гатовы заплаціць літаральна за кожны метр колькі трэба, балазе, мне ёсць за якія сродкі гэта зрабіць. На мяне ж толькі глядзелі, як на таго вар'ята».

Што было далей, здагадацца нецяжка. Кастусь вырашае будавацца самастойна. Набывае дзвюх- і трохпакаёвую кватэры на адной пляцоўцы. Робіць праект. Спрабуе па-добраму дамовіцца з суседзямі. Аднак рэакцыя тых была нечаканай: з «капіталістамкрывасмокам» не захацелі нават размаўляць.

Так пачалася сапраўдная вайна, якая цягнецца больш за год. Абодва бакі аказаліся надзвычай упартымі. Кастусь у адной з кватэр здолеў зняць ванну, унітаз, мыйкі. Пасля ён мяркуе разабраць сцены і зрабіць з кухні, туалета і ваннай адзін пакой. Далей у планах закласці цэглай і затынкаваць адны дзверы на лесвічную пляцоўку. Суседзі? Суседзі закідалі скаргамі ЖЭС, неаднойчы выклікалі міліцыю, пагражаюць пры сустрэчах.

Ён шкадуе, што ўвогуле ўзяўся за гэтую справу. Бо ўпэўнены: што хацеў зрабіць — усё роўна не зробіць. Дакладней, зрабіць яму не дадуць. Ён пачынае адчуваць безвыходнасць.

«Я ўвесь час чакаю, што з'явіцца нехта з наганам у скураной тужурцы і «размажа» мяне па сценах. Верыце ці не, але гэта кватэра будзе каштаваць гадоў дваццаць жыцця. Калі не больш...»




### Гісторыя другая: аб правіслай столі

Кожны вечар, кладучыся ў ложак, яна баіцца, што можа не ўстаць ранкам.

Ёй ужо пад семдзесят гадоў. Можна сказаць, усё жыццё Інеса Мікалаеўна пражыла ў расійскім Саратаве. Аднак нічога дзіўнага ў тым няма: калі выйшла на пенсію і засталася адна, яна (дарэчы, інвалід II групы) вырашыла падацца ў Мінск да адзінай дачкі.

Спробы знайсці кватэру ў сталіцы па першым часе плёну не далі — давялося пераязджаць ва Узду. Аб двухпакаёцы ў гэтым невялікім гарадку ўспаміны засталіся самыя лепшыя. Але ад Узды да Мінска — амаль 75 кіламетраў. Карацей, пошукі працягваліся і завяршыліся, трэба сказаць, даволі паспяхова. «Сталічны» варыянт трапіўся два з паловай гады таму. Варыянт здаўся не самым горшым: цэнтр горада, кватэра цёплая, што таксама важна, у звыклым старым, 1953 года пабудовы, невялікім доміку. Доўгіх роздумаў, такім чынам, быць не магло: абмен адбыўся. Але спакойна пражыць на новым месцы Інесе Мікалаеўне давялося ўсяго крыху больш за год.

Тут будзе дарэчы невялікі малюнак. Аднапакаёўка Інесы Мікалаеўны месціцца на другім паверсе, адразу над ёй — трохпакаёвая кватэра на двух узроўнях. Дзвюхузроўневая кватэра была прадугледжана з самага пачатку. На ўсе тры пад'езды дома такая кватэра ўсяго адна — апроч трэцяга паверха, яна займае яшчэ мансарднае памяшканне.

У маі 1996-га сям'я, якая займала двухузроўневую кватэру, з'ехала, здаецца, у Ратамку. Новая гаспадыня з'явілася хутка і, што зусім натуральна, адразу ўзялася за рамонт. Але рамонт ператварыўся ў перапланіроўку. Па словах Інесы Мікалаеўны, суседка крыху дабудавала мансарду, потым перанесла ванну і туалет, нарэшце, як апафеоз, новае месца заняла шасціметровая лесвіца, што злучае два паверхі кватэры. Вынік «перабудовы» аказаўся нечаканым — у Інесы Мікалаеўны пачала рушыцца столь.

«Спачатку на столі «акрэсліліся» дошкі. Далей — болей. Дошкі пачалі правісаць, паміж імі з'явіліся трэшчыны. Затым са столі пасыпалася сухая тынкоўка, трэшчыны сталі дзіркамі, у якія пры жаданні можна прасунуць далонь».

Так пачаліся блуканні па пакутах. У домаўпраўленні параілі дамовіцца «палюбоўна». Інеса Мікалаеўна пагадзілася, тым больш, што суседка супраць капітальнага рамонту ў яе кватэры як быццам не пярэчыла. Але потым, як кажуць, перадумала.

Чакаць увагі на заяву ў райвыканкам давялося ажно пяць месяцаў. Дачакалася. У яе кватэры пабывала ўсё раённае кіраўніцтва разам з камунальнікамі. Паспачувалі. Выказалі думку, што нешта трэба рабіць. Толькі вось што канкрэтна, так і засталося загадкай. Усё ўпіралася ў наступнае: паколькі абедзве кватэры прыватызаваныя, дапамагчы з рамонтам нельга.

Настойлівасць давяла аж да адміністрацыі. Адтуль усе паперы вярнуліся ў той жа райвыканкам.

Сёння канфлікт дасягнуў апагея: Інеса Мікалаеўна вырашыла звярнуцца ў суд. Суд доўжыцца ўжо паўтара месяца.

«Мне спрабуюць давесці, што трэшчыны ў столі маглі ўтварыцца з-за зацёку вады. Я ў гэта не веру. Хаця б таму, што, калі зацякае вада, абавязкова з'яўляюцца жоўтыя плямы. Ніякіх плям у пакоі няма. Таму, па-мойму, тут усё можна патлумачыць проста: яна мае грошы, я — не. Няхай сабе і так. Толькі грошы яшчэ не азначаюць, што можна садзіцца на галаву іншаму».



Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

### Замест пасляслоўя

Яны перакананыя, што самавольная перапланіроўка кватэр сталася апошнім часам адной з самых складаных праблем сталіцы. Яны не супраць. Яны толькі за тое, каб усё рабілася па закону, тым больш, што механізм пераабсталявання вызначаны дакладна. Але ў той жа час яны вымушаны канстатаваць, што сам працэс практычна выйшаў з-пад кантролю, і пакуль у горадзе не здарыцца буйной аварыі (прасцей кажучы, пакуль не абваліцца адзін з дамоў ці яго частка), працэс той наўрад ці спыніцца. Яны — гэта камітэт па архітэктуры, горадабудаўніцтву і землеўпарадкаванню Мінгарвыканкама.

Пры ўсім тым, кантроль — рэч адносная. Над кожным кантралёра не паставіш, а «пралазы», было б жаданне, знойдуцца заўсёды. Таму справа, па вялікаму рахунку, не ў тым, як перабудоўваць. Пытанне ў тым, як будаваць. Інакш усё зноў будзе нагадваць сумна вядомую завядзёнку: спачаку на роўным месцы ствараць сабе праблемы, а затым цаной амаль гераічных высілкаў іх жа пераадольваць.

Між тым, прыклады дамоў, дзе будуюцца вялікія кватэры, прычым будуюцца па загадзя ўзгодненых з іх будучымі гаспадарамі праектах, у горадзе ёсць. Гэтаксама як ёсць ідэя перайсці на новую сістэму долевага будаўніцтва: гаворка аб тым, што па стандартнаму праекту будуецца толькі каркас дома, а ўжо пасля, у залежнасці ад пажаданняў яго жыхароў, ажыццяўляецца планіроўка кватэр. Ідэя, бясспрэчна, вартая. Толькі вось ці не ператворыцца яна ў чарговую дэкларацыю аб намерах? Калі шчыра, сумненні ёсць.

**Сяргей ГРЫБ.**

## Амаль самая складаная рэч на свеце — залатаць «дзіркі» ў сямейным бюджэце...

СЯМ'Я КУРЫЛОВІЧАЎ не з бедных. Юра працуе электроншчыкам на адным з дзяржаўных прадпрыемстваў, Вольга — бухгалтар на заводзе. Іх сукупны сямейны даход складае каля васьмі мільёнаў рублёў. Такія грошы сёння мае далёка не кожны жыхар Беларусі. Згодна са статыстыкай, на многіх прамысловых прадпрыемствах (702 з 2253) заробак складае ад 2 да 3 мільёнаў рублёў. Зарплата Вольгі — тыповая, прыкладна столькі ж атрымліваюць большасць работнікаў заводскіх бухгалтэрый. Так што з даходамі ў Курыловічаў, здаецца, усё ў парадку. А вось з расходамі...

За сваю аднапакаёўку падчас ацяпляльнага сезона яны плацяць 190 тысяч рублёў, тэлефон абыходзіцца амаль у столькі ж (з улікам міжгародніх званкоў). Святло — 70—80 тысяч рублёў. За праезд у грамадскім транспарце штомесячна прыходзіцца аддаваць 320 тысяч рублёў (два праязныя на ўсе віды).

Далей — расходы на дзіця (сыну Антону пяць гадоў): садзік — 180 тысяч у месяц, 100 тысяч — на спартыўны гурток. Таксама прыходзіцца купляць гуаш — 130 тысяч рублёў, пластылін — 35. На навагодні падарунак бацькі збіралі па 75 тысяч, а на паслугі Дзеда Мароза выхавацелі запатрабавалі па 20 тысяч рублёў з кожнага дзіцяці. Атрымліваецца, калі падлічыць колькасць малых у садзіку (у сярэднім каля 160 чалавек), то паслугі Санта-Клауса абыходзяцца амаль у тры з паловай мільёны рублёў. Гэта, скажам так, кардынальныя расходы. Што ж датычыцца штодзённых і неабходных, то на зімовы сезон Курыловічы набылі Антону наступныя рэчы: цёплая куртка — 600 тысяч рублёў, боты — 580 тысяч (з улікам таго, што дзіця расце хутка, абутку хапае толькі на сезон), фланелевую кашулю — 140. У садзік купілі сандалі — 190 тысяч рублёў і новыя калготы — 50. Вось і атрымліваецца, што ў гэтым месяцы Курыловічам прыйшлося выдаткаваць з сямейнага бюджэту толькі на самыя неабхоныя рэчы для свайго малога каля двух мільёнаў рублёў. Калі да гэтай сумы дадаць яшчэ аплату кватэры, тэлефона, электраэнергіі і грамадскага транспарту, то атрымліваецца амаль тры мільёны рублёў.

Расходы на так званую бытавую хімію: парашок — 30, мыла (туалетнае і гаспадарчае) — 50, шампунь — 50—120 тысяч рублёў (у залежнасці ад якасці). На лекі ўзімку прыходзіцца траціць шмат — да 200 тысяч рублёў у месяц. Ужо «набягае» да паўмільёна.

Асноўным радком расходаў, сёння, канешне ж, з'яўляецца харчаванне. У Курыловічаў на гэтыя патрэбы за тыдзень у сярэднім разыходзіцца да 700 тысяч рублёў. Прычым набываюцца толькі самыя неабходныя прадукты — малако, кефір, тварог, масла, яйкі і г.д. Звычайна пасля палучкі яны робяць кардынальныя закупкі — крупы, мяса, рыбу набываюць на Камароўцы. Так, апошні паход на рынак абышоўся ў мільён рублёў. Купілі: тры кілаграмы свініны, тры — рыбы, дзве бутэлькі алею, маянэз, каўбасу. Усё. Цяпер прыходзіцца лічыць кожную капейку.

Калі прагледзець расходы сям'і Курыловічаў (я, напэўна, не ўсё туды ўнёс), то атрымліваецца, што тых васьмі мільёнаў, якія яны атрымліваюць, хапае толькі на «самае-самае», ды і то з нацяжкай. Аднак грошы мае знаёмыя нейкім чынам яшчэ спрабуюць збіраць — па трыццаць—пяцьдзесят долараў у месяц, аднак бывае, што і нічога не адкладваюць. Як атрымаецца. Чаму збіраюць? Думаюць сваю аднапакаёўку пашырыць — абмяняць на большую кватэру. Калі збіраць грошы такімі тэмпамі, як зараз, то, па іх падліках, на двухпакаёвую можна разлічваць толькі гадоў праз сем. Арыфметыка. «Шкада толькі, — скардзіўся Юра, — што дачы няма, садавіну-агародніну прыходзіцца набываць на рынку, зноў жа грошы».

Як сведчыць статыстыка, сярэдняя зарплата апошнім часам перавышае мінімальны спажывецкі бюджэт толькі ў 1,16 раза. А ў 1990 годзе гэтая лічба раўнялася 2,52. Так што паніжэнне ўзроўню нашых даходаў, а дакладней падзенне рэальнай заработнай платы, — устаноўлены факт. Тым сем'ям, якія ў асноўным жывуць на грошы, што плаціць (не заўсёды своечасова) роднае прадпрыемства, прыходзіцца вельмі туга. Ды нават і ў тым выпадку, калі ўзровень даходаў, здаецца, на «ўзроўні», цяжка спрагназіраваць сямейны бюджэт. Уся справа ў тым, якімі крытэрыямі пры гэтым карыстацца — памеры мінімальнага спажывецкага бюджэту сёння прыкладна роўныя расходам на харчаванне. Таму нават больш-менш заможныя (на агульным фоне) сем'і арыентуюцца ў асноўным толькі на бягучыя затраты, не будуючы кардынальных планаў. Атрымліваецца, што сёння большасць жыве адным днём.

Аднак пра ўсе сумныя падлікі Курыловічы сёння імкнуцца не ўспамінаць — хутка Новы год, самае вясёлае сямейнае свята. І на іх стале, я думаю, будуць самыя розныя далікатэсы (а як жа, не горш за ўсіх), збярэцца шумная кампанія. І горкае слова «сямейны бюджэт» застанецца, напэўна, забытым. На час...

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

# ДАГАНЯЮЧЫ РУЖОВУЮ ПТУШКУ ШЧАСЦЯ

«Прывітанне. Цябе Юрась завуць?! — нібы пытаючыся і адначасова сцвярджаючы сказаў хлопец, застаўшы мяне тым самым знянацку. — Не пазнаеш?» Скардзіцца на памяць я пакуль не магу, але, маланкава згадваючы ў галаве ўсіх знаёмых, мусіў пра сябе прызнаць, што не ведаю, хто перада мной і адкуль ён мяне ведае. Тым часам хлопец, не бачачы патрэбнай рэакцыі, працягваў удакладняць: «Я Алесь. Мы два гады штотыдзень на «УПК» (вытворча-навучальны камбінат. — **Аўт.**) ездзілі і вучыліся ў адной групе». Цяпер усё стала на свае месцы: я успомніў свайго аднагодка з суседняй вёскі.

Нельга сказаць, што мы былі блізкімі сябрамі, хутчэй — добрымі знаёмымі. Але, убачыўшыся праз некалькі гадоў у вялікім горадзе, па-іншаму пачынаеш ставіцца не толькі да тых людзей, якія звязваюць цябе з тваім мінулым, а нават проста да зямлякоў. Ужо праз некалькі хвілін мы сядзелі ў скверы на Камсамольскай і, павольна пацягваючы «Старажытнае», успаміналі агульных знаёмых, наперабой расказвалі пра ўласныя «дасягненні», пра жыццё-быццё.

Адразу пасля школы Алесю не ўдалося паступіць ва універсітэт. Таму замест «граніту навукі» ён паўтара года стукаў абцасамі на пляцы ў адной з вайсковых часцей пад Мінскам. Спроба трапіць на запаветны факультэт пасля арміі аказалася больш удалай. Аднак бестурботнае студэнцкае жыццё працягвалася нядоўга. На трэцім курсе Алесь ажаніўся. Выбар свай зрабіў выключна па каханню, а не з-за карыслівасці. Хаця многія яго іншагароднія аднакурснікі імкнуліся знайсці сваю палавіну сярод жыхарак Мінска. Мой знаёмы закахаўся ў дзяўчыну з правінцыяльнага гарадка. «Рай у шалашы» працягваўся год — да таго часу, пакуль не нарадзілася дзіця. Вось тут і зразумеў сябрук, што такое сапраўдныя праблемы, што такое цяжар і адказнасць галавы сям'і.

Спачатку актуалізавалася жыллёвая праблема, потым востра паўстала фінансавая. Пасля некаторых разважанняў маладыя вырашылі часова пажыць асобна. Гэтае «часова» цягнецца вось ужо год. Жонка Алеся жыве ў бацькоў, і ён не можа ўпэўнена адказаць, як доўга такое становішча працягнецца. Сам жа ён пакуль мае месца ў студэнцкім інтэрнаце, але не за гарамі заканчэнне вучобы. Маладыя ўсяляк эканомяць грошы (Алесь, па яго ж прызнанню, жыве вельмі аскетычна. — **Аўт.**) і імкнуцца назбіраць нейкую капейчыну на будучае. Менавіта да гэтага і зводзіцца зараз уся праца Алеся. Нягледзячы на тое, што неўзабаве прыйдзецца абараняць дыплом, вучоба ва універсітэце даўно стала для яго звычайнай фармальнасцю.

Амаль увесь час аддаецца таму, што знаёмы называе «зарабляннем грошай». А для гэтага, паводле яго аповяду, прыдатныя ўсе магчымасці, акрамя тых, дзе прыходзіцца ўступаць у канфлікт. Праўда, некаторыя занняткі Алеся нельга назваць абсалютна законнымі, але ён сцвярджае, што вялікага крыміналу ў гэтым няма. За некалькі гадоў ён паспрабаваў многае. Напрыклад, гандляваў валютай. Потым, калі занятак гэты стаў даволі небяспечным, жонка настаяла, каб кінуў валютныя справы. Быў вопыт і дробнааптовага гандлю цыгарэтамі. Калі ж спрабавалі «завербаваць» у групу, якая кантралюе аўтадарогі ў ваколіцах Мінска і збірае на іх «даніну», — адмовіўся. «Я яшчэ жыць хачу, ды і сям'я шмат азначае», — нібы апраўдваючыся, тлумачыць ён свой выбар.

Зараз Алесь падпрацоўвае ў дзвюх фірмах праграмістам, зрэдку заходзячы на факультэт. Як жартуе, «адзначыцца, што жывы яшчэ». А па вечарах і начах разам з сябрамі рамантуе аўтамабілі, даводзіць да таварнага выгляду іншамаркі, якія прыганяюцца з-за мяжы і пасля прадаюцца на аўтарынку ў Малінаўцы.

«Ружовая мара — уласнае жыллё. Няхай для пачатку гэта будзе маленькая кватэрка, аднапакаёўка, але свая, дзе б цябе чакалі твае жонка і дачка. Гэта ўжо шчасце», — неяк узнёсла і адначасова сумна прызнаецца Алесь, дадаючы, што пакуль гэтая мара з разраду нязбытных. «Дарэчы, — нечакана пытаецца ён. — Вось ты журналіст, і павінен ведаць лепш. Растлумач, дакуль у нас будзе існаваць прапіска? Наколькі я ведаю, нават новая беларуская Канстытуцыя гарантуе любому чалавеку права свабоднага выбару месца жыхарства.

На справе нікуды без прапіскі не ткнешся. На працу не бяруць, хаця і гатовы. Ні кватэру не пабудаваць і не купіць...» Што я мог адказаць яму? Рытарычнае пытанне? Але Алесь далей сам адказаў на яго. Інстытут прапіскі патрэбны ў першую чаргу не дзяржаве, а тым, для каго ён даўно стаў «залатым дном». Яны касцьмі лягуць, каб гэтая канстытуцыйная норма ў нашай дзяржаве не выконвалася. Напрыклад, Алесю разам з сям'ёй прапанавалі аформіць мінскую прапіску за 700 долараў. Ён пакуль думае.

Нядаўна, калі я паведаміў Алесю, што напісаў матэрыял у газеце і на яго прыкладзе расказаў пра праблемы моладзі, ён наадрэз адмовіўся быць героем гэтага аповяду. Але потым сам патэлефанаваў, зазірнуў у госці і, прачытаўшы напісанае, даў згоду. «Бацькі выпісваюць «Звязду», пачытаюць. Якраз буду дома, пагляджу, ці пазнаюць». Праўда, папрасіў не згадваць прозвішча, патлумачыўшы: «Не хачу, каб мяне потым «вылічалі» знаёмыя, падатковая інспекцыя ці яшчэ хто».

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## *Працы, ведаў, таленту, цярплівасці...*

***Георгій МАРЧУК, пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі:***

**— Перш чым звярнуцца з віншаваннямі і шчырымі пажаданнямі да чытачоў, хачу падвесці рысу пад годам, які адыходзіць. Асабіста для мяне ён быў цудоўнейшым часам. У ім значна больш было радасці і атрыманага задавальнення, паколькі адбылося шмат цікавых сустрэч і знаёмстваў.**

**Для Беларусі ў цэлым адыходзячы год стаў, на мой погляд, трохі спакайнейшым, чым папярэднія. Людзі адчулі клопат з боку дзяржавы, з'явілася ўпэўненасць у заўтрашнім дні, што вельмі важна ў пераходны перыяд, у час хаосу. Таму я хачу падкрэсліць, што не бывае выключна добрых і абсалютна дрэнных гадоў у нашай гісторыі. Жыццё абавязкова ўраўнаважвае радасць і гора. Мяркую, у новым годзе нам неабходна пазбавіцца ад слоў «выжыванне», «шматпакутная Беларусь», «занядбаная»... Досыць. Трэба заўсёды, і асабліва ў 1998 годзе, захоўваць аптымізм і мацаваць упэўненасць, што мы роўныя сярод роўных. Паверце, нікому ў свеце нічога лёгка не даецца: ні немцам, ні амерыканцам, ні англічанам.**

**Поспеху можна дасягнуць толькі дзякуючы напружанай працы, ведам і таленту, дзякуючы цярплівасці і пакаянню. Вось гэтага я і хацеў бы пажадаць грамадзянам нашай краіны напярэдадні святаў Новага года і Нараджэння Хрыстова. Няхай беларусы як ніколі адчуюць пачуццё радзімы, справядлівасці і еднасці, што я называю параметрамі нацыянальнай ідэі. Ад кожнага дня бярыце больш радасці і дзяліцеся ёю з іншымі.**

## *Больш святла кожнаму*

***Аляксей ДУДАРАЎ, драматург:***

**— Амаль 2000 гадоў таму над зямлёй узышла Віфлеемская зорка — Звязда. Пасля гэтага чалавецтва пачало ісці ў накірунку да святла. Зараз пачынае прыбаўляцца дзень. Значыць, сонца кожнаму з нас штодзень будзе ўсё больш, больш і больш. Я спадзяюся, пэўная часцінка яго дастанецца кожнаму грамадзяніну і патрыёту Беларусі і нашай цудоўнай Радзіме. Год Тыгра няхай будзе ласкавым коткам для ўсяе Беларусі і для яе народа.**

# З ЧАЧЭНСКАГА ПАЛОНУ ВЫЗВАЛЕНЫ ДВА БЕЛАРУСЫ

### Іх вяртанню на радзіму садзейнічала аператыўная работа нашага пасольства ў Маскве

**У перадnavагоднія дні ў пасольстве Рэспублікі Беларусь у Маскве заўсёды шмат клопатаў. Але на тэлеграму, якая прыйшла вечарам 22 снежня, адразу звярнулі ўвагу і перадалі паслу. Да канца рабочага дня заставалася сем хвілін. Як толькі Уладзімір Віктаравіч Грыгор'еў прачытаў факс з Чачні, у МЗС Беларусі пайшло першае паведамленне. З яго ў рэспубліцы даведаліся, што 18 снежня ў Грозным з палону ўцяклі два беларусы — Дзмітрый Каралёў і Леанід Іваноў.**

Маладыя людзі прыбылі па сваіх камерцыйных справах у Грозны 3 лістапада. А праз чатыры дні ў адным з кварталаў іх выкралі.

Тэлеграму з Чачні адправіў кіраўнік групы садзейнічання АБСЕ ў Чачні паляк Ляон Вашчынскі. Ён паведаміў, што ўсе звесткі атрымаў ад начальніка аператыўна-следчай брыгады пры Прэзідэнце Чачні Магамета Магамадава. Прадстаўнік АБСЕ прасіў пасольства пацвердзіць факт беларускага грамадзянства гэтых людзей.

Хлопцаў трэба было выручаць. Пасол пачаў з таго, што паспрабаваў звязацца з Магамадавым. На гэта пайшло тры гадзіны. Магамадаў пацвердзіў усё, што было выкладзена ў тэлеграме АБСЕ, але наконт адпраўкі беларусаў у Маскву гаварыць не хацеў. Такія пытанні, паводле яго слоў, вырашае галоўнае кіраўніцтва рэспублікі.

Тым часам Мікалай Пятэнка, загадчык Консульскага аддзела пасольства, сазваніўся з МЗС Беларусі. Міністэрства пацвердзіла, што па ўказаных у тэлеграме адрасах гэтыя людзі значацца. Дзе яны цяпер, у Мінску не ведалі.

Каля дванаццаці ночы паслу ўдалося другі раз звязацца з Магамадавым. Начальнік аператыўна-следчай брыгады сказаў, што яго кіраўніцтва прапанавала не абмяркоўваць гэтую тэму да раніцы.

Аб выніках работы пасол дакладваў у МЗС рэспублікі, у Адміністрацыю Прэзідэнта. За яе ходам сачыў Аляксандр Лукашэнка. Ужо а другой гадзіне ночы паспрабавалі выйсці на аператыўныя службы сілавых міністэрстваў Расіі. Усе спачувалі, разумелі, але нічога зрабіць не маглі. Святло ў гэтую ноч у кабінеце Грыгор'ева патухла ў чатыры раніцы.

Роўна ў восем — новая размова з Грозным. Сітуацыя ўскладнялася. Прэзідэнт Чачні Аслан Масхадаў не даваў згоды на тое, каб адпусціць беларусаў у Маскву. Галоўны аргумент такі: самі павінны спачатку разабрацца, у чым справа.

У голасе пасла паявіліся металічныя ноткі. Цяпер ён размаўляў з Магамадавым настойліва, патрабаваў неадкладнай адпраўкі грамадзян Беларусі ў Маскву.

Тады ж, раніцай 23-га, у МЗС Расіі з пасольства РБ пайшла нота. Тут выкладаліся факты і была просьба дапамагчы ў вяртанні беларусаў на радзіму. Пасольства прапаноўвала ў выпадку неабходнасці накіраваць у Чачню сваіх прадстаўнікоў.

Нечакана ў справе паявіліся зусім новыя акалічнасці. З Чачні прыйшло паведамленне, што органамі МУС Чачні арыштаваны людзі, якія падазраюцца ў арганізацыі выкрадання беларускіх грамадзян. Менавіта яны сцвярджаюць, што Каралёў і Іваноў лічацца ў вышуку як у Беларусі, так і ў Расіі. Чачэнцы не паведамілі, у чым падазраюцца беларускія грамадзяне. На старанную праверку патрацілі амаль два дні. Факт не пацвердзіўся. І зноў усё пайшло па кругу. Пасол тэлефануе М. Магамадаву. Той прыводзіць дзіўныя і незразумелыя аргументы на карысць таго, што беларускіх грамадзян пакуль адправіць у Маскву не могуць. У прыватнасці, Магамадаў сцвярджаў, што неабходна правесці аператыўна-следчы эксперымент па факту крадзяжу беларускіх грамадзян. У чым ён будзе заключацца, не ўдакладняецца. Ды, бадай, і ўдакладняць няма чаго. Такога эксперымента, як высветлілася, проста не было. Былі адгаворкі. Чачэнцы цягнулі час.

На наступны дзень, 24-га, паслу ўдалося звязацца па тэлефоне з памочнікам віцэ-прэзідэнта Чачні Адамам Ільясавым. Размова была жорсткая і прынцыповая. В. Грыгор'еў патрабаваў неадкладна вярнуць беларускіх грамадзян. Памочнік віцэ-прэзідэнта паабяцаў праінфармаваць сваё кіраўніцтва аб патрабаванні беларускага боку.

У той жа дзень Беларускі пасол звязаўся з намеснікам сакратара Савета бяспекі Расіі Барысам Агапавым. Потым да работы падключыўся сакратар Савета бяспекі Іван Рыбкін.

На наступны дзень у МЗС Расіі пайшла яшчэ адна нота, і кантакты з Чачнёй прадоўжыліся. В. Грыгор'еў выйшаў на прадстаўнікоў чачэнскай дыяспары ў Маскве. Яны адразу ўключыліся ў работу.

Сур'ёзную дапамогу аказаў Барыс Беразоўскі і першы намеснік міністра ўнутраных спраў Расіі Уладзімір Калеснікаў.

28 снежня «лёд крануўся», і былі абмеркаваны дэталі перадачы грошай пасольствам за пралёт дваіх грамадзян Беларусі з Грознага ў Маскву.

Такім чынам, калі не перашкодзіць надвор'е, у бліжэйшы час супрацоўнікі пасольства сустрэнуць юнакоў ва Унукаўскім аэрапорце Масквы, а потым «каўказскія палоннікі» адправяцца ў Мінск.

**Анатоль ГАРАГЛЯД.**
**спецыяльна для «Звязды»**

*Жонка — не рукаў, не адпораш.*

1998

# «ДАЙ, [...] З КІМ МНЕ [...]

**На Беларусі лічаць, што часта звяртацца да варажбітак альбо варажыць самому нельга, бо так можна і «лёс прагадаць». Наогул варажыць «на лёс» жанчыне пажадана толькі два разы ў жыцці: першы раз можна яшчэ дзеўкаю варажыць «на суджанага» і другі раз — ужо будучы сталаю жанчынаю, «на жыццё». Мужчыну дазваляецца даведацца пра будучыню толькі адзін раз, прычым толькі ў тым выпадку, калі ён яшчэ не быў жанаты. Але існуе ў беларусаў таксама і святочная, рытуальная варажба, на якую ніякія абмежаванні не распаўсюджваюцца. Кожны год, а то і некалькі разоў на год, але толькі ў пэўны час, варожаць на будучы шлюб, на добры ўраджай, надвор'е, здароўе, на прыплод жывёлы. Найбольш жа чароўным часам для варажбы лічацца Новы год і Каляды. Варажба ў зімовыя святы вылучаецца асаблівай разнастайнасцю...**

Адзін з распаўсюджаных спосабаў варажбы на Каляды — падслухоўванне пад чужымі вокнамі. Ад таго, што скажуць у хаце, залежыць, пойдзе налета дзяўчына замуж ці застанецца сядзець у дзеўках. Калі яна пачуе, як гаспадары са словамі «Чаго заседзеўся? Даволі, брат! Ідзі» гоняць каго-небудзь з хаты, для яе гэта будзе азначаць хуткае замужжа. А калі, наадварот, гаспадары папросяць госця затрымацца ў хаце, пасядзець яшчэ, — будзе дзяўчына яшчэ год сядзець у дзеўках. І крый Божа пачуць ёй у чужой хаце гаворку пра свяшчэнніка, свечку ці дошкі, бо ў гэтым выпадку яна, ці той, хто мае намер да яе сватацца ў гэтым годзе, памруць.

Пры дапамозе няхітрай варажбы можна таксама ў святыя вечары даведацца, з якога боку чакаць суджанага. Напрыклад, памяшаць спецыяльна зробленай лапаткай навагоднюю куццю. Затым выйсці на вуліцу і ачысціць лапатку ад прыліплых зярнят. Калі ў гэты час забрэша сабака — будуць да дзяўчыны сваты, і абавязкова з таго боку, адкуль пачуўся брэх сабакі. Жадаючы даведацца, з якога боку будзе нявеста, хлопец уласнаручна пячэ блін, пакрывае ім галаву і выходзіць на скрыжаванне: у якім баку найперш забрэшуць сабакі — адтуль будзе нявеста. Калі варажба задавальняе, хлопец кідае блін у бок сабачага брэху, у адваротным выпадку ён ці кідае блін у процілеглы бок, ці нясе яго дадому.

Можна, канешне, і не рызыкаваць дарагім на сённяшні дзень абуткам, а адпраўляцца варажыць... у хлеў. Калі па дарозе дзяўчыне сустрэнецца бык, то ў наступным годзе, і ніяк не далей восені, ёй давядзецца выйсці замуж, а вось сустрэча з каровай не прадказвае нічога суцяшальнага. У дзень Новага года дзяўчаты пякуць вялікі блін, затым ідуць у хлеў, куды заганяюць буйную рагатую жывёлу. Кожная з дзяўчат адрывае частку бліна і дае жывёліне. Усё гэта робіцца ў цемры. Потым заходзіць другая, са святлом, і разглядаюць, якога полу жывёліна: бык ці карова? Калі дзяўчына дае [...]
муж, а кал[...]
жыць такс[...]
рова ці во[...]
мужжа. Я[...]
возьмеш [...]
чыць муж [...]
дзе, за ро[...]
азначае, [...]
будзеш ж[...]
Каб вы[...]
калы ў пл[...]
пец — то [...]
дзяўчына»[...]
ёсць вынік[...]
Акрамя[...]
даведвае[...]
ная. Дзяўч[...]
леркі: пад[...]
пясок, пад[...]
і потым іх [...]
ў наступн[...]
прадказва[...]
венік лічы[...]
ку розныя[...]
п'яніцам; [...]
народзіш [...]
Дзяўчы[...]
яе муж, п[...]
мень з шу[...]
ціха — му[...]
Напяр[...]
нец у ваду[...]
не вянок, [...]
ры востры[...]
або на га[...]
баках яго [...]
не адрыва[...]
лахлівы і в[...]
убачыць у[...]
Шмат [...]
дзяўчаты [...]
з кім ужо [...]
нец, ручні[...]
пераводзі[...]
ты і жанч[...]
будзь рэч[...]
душку.
Добры[...]
Складаюц[...]
кі), набіра[...]
лодзежа».

## *Сем тэзісаў незастольнай навагодняй прамовы*

Як пачуваюся, што думаю на парозе новага, 1998-га?

Вядома, як і заўсёды ў гэткі час, — нейкія добрыя спадзяванні нараджаюцца. І аднак жа — святочнага настрою няма. Вельмі трывожна за лёс Беларусі. Няўжо тысячагадовая гісторыя Бацькаўшчыны нас нічому не навучыла? Няўжо 1998-мы яшчэ на адзін крок наблізіць нас да нацыянальнай катастрофы? Не веру. Не будзе гэтага!

Божа прамілы-прасветлы! Зрабі так, каб у новым годзе мае суайчыннікі ўздыхнулі хоць трохі вальней. А галоўнае — каб усе мы пачалі больш задумвацца над некаторымі лёсавызначальнымі і проста жыццёва важнымі пытаннямі. Ну, скажам, над такімі.

У свой час Германію, Італію, Балгарыю, Чэхію і г. д. і г. д. аб'яднала і ўзняла да гістарычнага жыцця нацыянальная ідэя, а таму і нашу Беларусь як незалежную суверэнную дзяржаву можа ўратаваць, адрадзіць і ўзвысіць толькі яна.

Нацыя існуе ў мове, таму галоўнай апорай нацыянальнага яднання, паветрам для крывяносных сасудаў нацыі можа быць толькі яе адвеку прыродная мова, — так было ў гісторыі многіх, у тым ліку славянскіх народаў, так павінна быць і ў беларусаў.

Чалавецтва не прыдумала лепшай мадэлі эканамічна-сацыяльнай і маральна-духоўнай арганізацыі грамадства, чым сацыялізм, толькі не трэба яго з дапамогай партыйна-алігархічнай ці аўтакратычнай дыктатуры ператвараць у пачварны ваенна-дзяржаўны феадалізм.

Без гарантаванай свабоды выяўляць свае творчыя магчымасці і сцвярджаць сябе як асобу чалавек ніколі ні жаданага дабрабыту, ні сапраўды людскага, годнага жыцця не дасягне.

З татальнай хлусні, ашуканства і сацыяльна-палітычнай дэмагогіі нічога добрага вырасці не можа, — гісторыя Еўропы і свету пацвердзіла гэта неаднойчы.

Патокі пошласці і цынізму, якія ўжо дзесяткі гадоў штодзённа выплёхваюцца ў нас з многіх тэлеканалаў, раз'ядаюць і губяць безабаронную душу нашага даверлівага гледача.

Амбітныя няздары, дзялкі і шарлатаны ад мастацтва і літаратуры не могуць спрыяць духоўна-маральнаму здароўю грамадства, і тое, што менавіта яны імкнуцца сёння «задаць тон», — гэта вельмі небяспечна.

І ўсё-такі я жыву верай у духоўную моц і ў невычэрпныя творчыя сілы нашага народа, у тое, што ў яго хопіць і мужнасці, і мудрасці, каб у гэтым тлумным свеце не страціць сябе. З гэтаю верай і сустракаю свой 1998-мы.

Дык з Новым годам, добрыя людзі!

Новага, больш праніклівага, больш удумлівага ва ўгляданні ў сябе і ва ўсё тое, што ёсць сёння нашым жыццём!

**Ніл ГІЛЕВІЧ,**
**народны паэт Беларусі,**
**заслужаны дзеяч навукі, прафесар.**

# ГАРАЧАЯ «ПЯЦЁРКА»

**Стары год, добры ён быў ці не вельмі, прайшоў і, як кажуць, можна і кропкі над «і» расстаўляць. Таму вашай увазе гарачая «пяцёрка» спартыўных намінантаў.**

### *СПАРТСМЕН ГОДА*

Іван ІВАНКОЎ, паводле апытання спартыўных журналістаў, падняўся на першую прыступку. І гэта правільна, таварышы, бо чалавечыя подзвігі, здараецца, ацэньваюцца нават больш, чым подзвігі на спартыўных пляцоўках. А тое, што Івану давялося хапнуць ліха ў мінулым годзе, ні для кога не сакрэт. І ордэн Айчыны, якім быў узнагароджаны гімнаст, стаў лагічнай кампенсацыяй за тыя блуканні па пакутах, якія «падаравоў» яму год Быка. Зрэшты, аб гэтым у інтэрв'ю са спартсменам.

### *КАМАНДА ГОДА*

Тут другой альтэрнатывы няма — у мінулым годзе хакейная зборная Беларусі выйграла ўсё, што магла выйграць, — трапіла на Алімпіяду і ў групу «А» чэмпіянату свету. Цудоўны вынік, і зараз нам застаецца толькі пажадаць хакеістам ні пуха, ні пер'я падчас выступлення ў Нагана.

### *СЕНСАЦЫЯ ГОДА*

Чаго-чаго, а гэтага «дабра» у нашым спорце хапала. Тут вам і фантастычная па нашых мерках сума кантракта англійскага клуба з беларускім футбалістам Пятром Качурам, і адстаўка трэнера «Дынама-93» Івана Шчокіна з наступным пераходам у слабы салігорскі «Шахцёр», і кантракт яшчэ аднаго дынамаўскага футбаліста Уладзіміра Макоўскага з кіеўскім «Дынама». Аднак, хутчэй за ўсё, самай вялікай, хоць і прыемнай, сенсацыяй стала выступленне беларускіх плыўцоў на чэмпіянаце Еўропы. Ёсць, аказваецца, яшчэ порах у парахаўніцах.

### *ПАДЗЕЯ ГОДА*

Падзею года было вызначыць зусім няпроста. Ну, каму, скажам аддаваць перавагу: чэмпіянату свету па лёгкай атлетыцы ў Грэцыі ці жаночаму чэмпіянату свету па гандболу, дзе сярод мацнейшых каманд упершыню выступала і наша? Альбо чым не падзея для нашай рэспублікі рэканструкцыя стадыёна «Дынама»? Выдатная падзея! І ўсё ж-такі мы вырашылі спыніць свой выбар на выхадзе хакейнай зборнай у мацнейшую групу «А» і заваяванні алімпійскай пуцёўкі ў Нагана. Што ні кажыце, а хакеісты нашы падаравалі нямала цудоўных момантаў сваім балельшчыкам, за што суадносна і атрымалі па заслугах.

### *СКАНДАЛ ГОДА*

Самым буйным скандалам года без аніякіх канкурэнцый стаў канфлікт паміж швейцарскім футбольным арбітрам Куртам Ротлісбергерам і яго беларускім калегам Вадзімам Жуком. Нагадаем, што першы абвінавацію апошняга ў судзейскіх грахах, пасля чаго Вадзіму Дзмітрыевічу яшчэ доўга прыйшлося «адмывацца» ад бруда, які выліў на яго галаву швейцарац. Добра яшчэ, што ўсё добра закончылася. На мыла швейцарскага суддзю!

*ЗДАРЭННІ*

## САМ САБЕ ВЫНЕС ПРЫГАВОР?

У следчым ізалятары УУС Магілёўскага аблвыканкама скончыў жыццё самагубствам сумна вядомы ў горадзе Валерый Ткачоў. Яго арыштавалі за звычайнае крымінальнае злачынства — вымаганне. І віна яго была даказана. Як заявіў кіраўнік аднаго з абласных праваахоўных органаў, у адносінах да гэтага падсуднага ніякіх недазволеных метадаў вядзення следства не прымянялася.

Нагадаем, што Валерый Ткачоў быў афіцэрам КДБ, працаваў ва ўпраўленні па Магілёўскай вобласці. Але з органаў быў звольнены. Васіль Лявонаў, які ў той час працаваў першым сакратаром абкама КПБ, настойліва спрабаваў уладкаваць яго ва УУС аблвыканкама. Але калектыў работнікаў міліцыі катэгарычна быў супраць такога «кадра». І Лявонаў уладкаваў яго супрацоўнікам у першае арганізаванае ў Магілёве СП «Усход—Захад». Пазней Валерый Ткачоў быў арыштаваны за незаконнае захоўванне зброі і адседзеў два гады. Пасля выхаду на волю жыў у Магілёве, дабіўся вялікага поспеху ў камерцыі. І вось такі нечаканы фінал.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, БЕЛТА.**

## АНЕКДОТЫ Ў ТЭМУ

**Хоць беларуская дружына біятланістаў і не трапіла на «залаты» п'едэстал у намінацыі «Каманда года», аднак жа ўсе мы памятаем, як прыгожа квартэт нашых «страляючых лыжнікаў» стаў першым на чэмпіянаце свету, таму, што называецца, анекдот у тэму:**

*Праходзяць міжнародныя спаборніцтвы на трапнасць стральбы. Першым страляе англічанін і пад авацыі трапляе са ста метраў у муху на сцяне. Другім выходзіць француз, страляе і збівае муху злёту. Публіка ў экстазе. Трэцім выходзіць беларускі біятланіст і заяўляе, што зараз ён саб'е лятаючага камара. «Бабах!» Камар працягвае ляцець, толькі звініць ужо на паўтону вышэй.*

*— Дык камар жа лётае, — разводзяць рукамі суддзі.*

*— Лётаць дык будзе. Кахаць — ніколі.*

❄

Прыходзіць аўтагоншчык да свайго шэфа і кажа:

— Ты долар памяты бачыў?

— Вядома, бачыў.

— А сто памятых долараў бачыў?

— Бачыў, ну і што?

— А мільён?

— Не...

— Ну дык схадзі ў гараж і паглядзі.

❄

*Футбольная сустрэча паміж Расіяй і Германіяй. Лік 2:0 на карысць немцаў.*

*— Хлопцы! — крычыць з трыбуны падвыпіўшы дзед-ветэран. — Мы іх пад Курскам білі, пад Сталінградам білі, пад Кіевам, а вы нас падводзіце!*

*Побач сядзіць грузін і заўважае:*

*— Тады ў вас, дэд, быў іншы трэнер.*

**Нашаму вядомаму гімнасту Івану Іванкову да славы не прывыкаць — дзякуй Богу, перамог у жыцці хапала. Аднак тое, што, згодна з апытаннем журналістаў, Іван названы лепшым спартсменам 1997 года, пагодзімся пачалавечы прыемна. І нават больш таго! Згодна з апытаннем аднаго са штотыднёвікаў (рэспандэнтамі выступалі дзяўчаты), наш герой, акрамя ўсяго іншага, яшчэ ўвайшоў і ў тройку самых сексуальных мужчын Беларусі. Здымаем, Ваня, капялюш...**

*СПАРТСМЕН ГОДА*

Іван ІВАНКОЎ:

# «НЕ СЯЧЫЦЕ, МУЖЫКІ, НЕ СЯЧЫЦЕ!..»



*Журналісты добра ведаюць, што размаўляць з Іванам Іванковым адна любата. Тактычны, шчыры, інтэлігентны. Які ў жыцці, такі і ў гутарцы.*

**— Ваня, па-першае, з перамогай. Па-другое, асабіста я проста захапляюся вашай жыццярадаснасцю: чалавек, які праходзіць праз самае сапраўднае пекла недарэчных траўмаў, чатыры гады рыхтуецца да Алімпіяды і за некалькі дзён да гульняў трапляе на аперацыйны стол, які заваёўвае літаральна на ўколах «золата» чэмпіянату свету, працягвае заставацца вясёлым і аптымістычным. Ці гэта толькі маска, а ў душы вы зусім іншы чалавек?**

— Ды не, чаму вам так здаецца? Я сапраўды гляджу ў будучыню з добрым настроем — чалавек павінен жыць з нейкай мэтай у жыцці, хоць і, сапраўды, давялося хапіць ліха са сваімі старымі траўмамі.

**— І ў вас ніколі не было звычайнага чалавечага жадання махнуць на ўсё рукой і сысці з памосту ў нармальнае жыццё? Здароўе ж пасля не купіш.**

— Разумееце, для мяне Алімпіяда ў Атланце была вяршыняй, пікам маёй спартыўнай кар'еры, тым, дзеля чаго я, можа, увесь гэты час праліваў пот і сціраў далоні ў кроў. І вось на табе, Ваня, атрымай «падарунак». Гэта быў шок, калі ўжо стала дакладна вядома, што на Алімпіядзе выступаць я не змагу. Я доўга не мог ачомацца, а калі ўсё ж ачомаўся, то цвёрда вырашыў, што проста не маю маральнага права не «дажыць» да наступных Алімпійскіх гульняў.

**— А пасля Гульняў?**

— Што там наперад загадваць? Дакладна магу сказаць толькі тое, што і пасля заканчэння выступленняў мой лёс будзе звязаны з гімнастыкай. Якім чынам — будзе бачна далей.

**— Многія, як, напрыклад, ваш сябар Віталік Шчэрба, ідуць у бізнес.**

— Не ведаю, ці атрымаецца.

**— А сам Шчэрба не прапаноўваў, скажам так, падставіць плячо?**

— Такой размовы не было. Адзінае, што ён зараз у Лас-Вегасе адкрывае сваю ўласную гімнастычную залу і папрасіў, каб я, калі буду ў Амерыцы, зайшоў туды.

**— Пра вашы ўзаемаадносіны з Віталем. Я добра ведаю, што па жыцці вы сябры. А вось у спорце, толькі шчыра, Ваня, не было нейкай такой затоенай крыўды, што, лічыце, пры аднолькавым узроўні майстэрства Іванкова і Шчэрбы суддзі былі больш прыхільнымі да апошняга?**

— Ну а вы як думаеце? Вядома, было і крыўдна, і непрыемна, але гімнастыка жыве па сваіх законах. І адзін з іх сцвярджае, што ў адной камандзе не можа быць дзвюх «зорак» — гэта прапісная ісціна. Таму, калі суддзі аддавалі перавагу Віталіку, мне заставалася толькі сціснуўшы зубы працягваць працаваць, працаваць і яшчэ раз працаваць і чакаць свайго часу. Судзейства ў гімнастыцы вельмі суб'ектыўнае. Ты можаш быць лепшым, але калі не спадабаўся суддзям, тыя абавязкова цябе «зарубяць».

**— Прабачце, але ж вы не дзяўчына, каб падабацца.**

— Ёсць такое паняцце, як абаяльнасць. Я, напрыклад, нават калі бачу, што той ці іншы суддзя рэзаў мне балы, абавязкова падыду да яго пасля выступлення і падзякую за добрае судзейства. Пагодзімся, што чалавек пасля гэтага адчувае сябе няёмка і вінавата, і, здаралася, ужо на наступных выступленнях ён ставіўся да цябе больш добразычліва. Вось і на апошнім чэмпіянаце свету, які быў для мяне першым вялікім стартам пасля той перадалімпійскай траўмы, у першы дзень суддзі да мяне прыглядаліся, «заціскалі» адзнакі, але пасля, дзякуй Богу, ацэньвалі аб'ектыўна.

**— Калі аб'ектыўна, то што было для вас самым цяжкім у мінулым годзе?**

— Самым цяжкім?.. Напэўна, быць здаровым. Я, дарэчы, і цяпер з ангінай хаджу.

**— Перад Новым годам і з ангінай!?**

— Ну а што рабіць!? Хваробе не загадаеш. Давядзецца так святкаваць.

**— А дзе, калі не сакрэт?**

— У гасцях, з сябрамі.

**— Ну а дома, вядома, елку ўжо паставілі?**

— Штучную. Я вам шчыра скажу, што ў мяне сэрца крывёй абліваецца, калі я бачу ссечаныя елкі. Яны ж жывыя, дык навошта іх, жывыя, сячы дзеля таго, каб пастаялі ў хаце тыдзень ці два. Я такога не разумею і, як там у песні: «Не рубите, мужики, не рубите» (во каламбур атрымаўся — тут вам і пра судзейства, тут вам і пра елкі).

**— Лагічна. Дарэчы, Ваня, будзем ставіць пытанне рубам наконт вашага асабістага жыцця?**

— Давайце, хоць, па вялікаму рахунку, «рубіць» пакуль што няма чаго. Халасцякуем. Праўда, каханка ёсць — гімнастыка.

**— Так ужо і няма прыхільніц?**

— Прыхільніц хапае. Завалілі нашу федэрацыю пісьмамі з прызнаннямі ў каханні і мне, і іншым гімнастам. Дарэчы, калі ёсць такая магчымасць, давядзіце да ведама чытачоў: «27 снежня 1997 года гімнаст Ваня Паўлоўскі ажаніўся. Адрасат згінуў (удакладняю, што не загінуў, а згінуў), карэспандэнцыю не прымае».

**— Чуў, што акрамя ўсяго іншага, вас адзін штотыднёвік прызнаў яшчэ і адным з самых сексуальных мужчын Беларусі.**

— Чуў і я пра такі «сюрпрыз». Што ж, хай будзе так.

**— Ну дык з двайной перамогай! І шчасця ў новым годзе!**

— А ўсім чытачам «Звязды» здароўя, кахання і дабрыні! Будзе гэта — астатняе прыкладзецца.

**Алесь СІВЫ.**

# СПАРТСМЕНЫ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

**Прайшоўшы год Быка вызначыў не толькі хто, што і каму, але і для многіх нашых спартсменаў расставіў кропкі над «і» ў сваім асабістым жыцці. І дзякуй Богу! Бо калі людзі жэняцца, то, як кажуць, абы шчасце было! Іншая справа, што, «зламаўшы жалезную заслону», беларускія спартыўныя хлопцы і дзяўчаты не толькі паказваюць добрыя вынікі за мяжой, але пры выпадку і «ля мур» могуць закруціць.**

## Містэр Барыс і спадарыня Зоя

Можа, наш славуты шахматыст Барыс Гельфанд і не першым пайшоў па шляху «сямейнай інтэрнацыялізацыі», аднак рэзананс тады быў дай Бог. Яшчэ б! Выйграў чвэрцьфінальны паядынак за сусветную шахматную карону ў англічаніна Майкла Адамса, а адразу пасля сустрэчы ў літаральным сэнсе звёў у бедака Адамса яшчэ і нявесту — бельгійку Зою. Уяўляю, што адчуваў у той час англійскі гросмайстар! Атрымаў, як кажуць, двайны ўдар. Ведай нашых! Дарэчы, зараз Барыс і Зоя душа ў душу пажываюць і дабра нажываюць.

## Фрау Кацярына і спадар Вільфрэд

Услед па праторанай Барысам Гельфандам дарозе пайшла і наша не менш славутая алімпійская чэмпіёнка па акадэмічнаму веславанню Кацярына Хадатовіч, аддаўшы сваё сэрца немцу Вільфрэду Кірстэну. І гісторыя сустрэчы аказалася крыху рамантычная — Вільфрэд знайшоў Кацю... на дарозе, калі той трэба было дапамагчы з машынай. Як падвёз спадар Вільфрэд нашу Кацярыну, так і працягвае да гэтага часу ехаць з ёй па жыцці ў адным «купэ». І хоць афіцыйна пара пакуль не зарэгістравана, зрабіць гэта яны збіраюцца ў недалёкай будучыні. Ды і чаго вартая тая загагуліна ў загсе? Калі кахаеш, то фармальнасці тут не перашкода.

## Пан Андрэй і спадарыня Эва



Усё пачыналася для футбаліста мінскага «Тарпеда» (а затым магілёўскага «Дняпра») Андрэя Сінічына з футбола. Бегаў чалавек, жыццю радаваўся, галы забіваў і нават не ведаў, які сюрпрыз яму рыхтуе падпісаны кантракт з польскім клубам «Стоміл». Бо ў адзін цудоўны дзень жыццё «падфутболіла» Андрэя пайсці ў тамтэйшы спартыўны магазін «Адзідас» і, сустрэўшы там Эву адчуць, што левы край яго абароны абсалютна непрыкрыты і, што самае галоўнае, прыкрываць яго не хацелася. Адразу ж пасля апошняй гульні ў польскім чэмпіянаце Андрэй і Эва аднеслі заяву ў ЗАГС. Ну дык і файна, Анджэй!

Шчасця вам усім у новым годзе! І, вядома ж, кахання!

**Алесь СІВЫ.**

## *Вакол спорту*

У Расіі лепшай спартсменкай 1997 года прызнана лыжніца Алена Вяльбе.

❄

У сталіцы Паўночнай Асеціі выкрадзена шасцікласніца Заліна Бітарава — дачка генеральнага дырэктара футбольнага клуба «Аланія» Батраза Бітарава. Дзяўчына выкрадзена 26 снежня ў цэнтры Уладзікаўказа. Трое невядомых у масках захапілі яе каля школы, дзе яна вучыцца, пасадзілі ў машыну і павезлі ў невядомым накірунку. Пакуль што невядомыя мэты выкрадання дзяўчынкі, аднак хутчэй за ўсё за яе запатрабуюць выкуп.



**Дамаўляючыся аб інтэрв'ю, я ўжо ведала, якім будзе загаловак гэтага матэрыялу:**

**«Герарда Гаўрылік, пракурор і сапраўдны палкоўнік».**

**Загаловак даволі кідкі, але ён адпавядаў бы рэчаіснасці: мая суразмоўца — пракурор аддзела па нагляду за адпаведнасцю закону судовых рашэнняў па грамадзянскіх справах, а званне «старшы саветнік юстыцыі» адпавядае званню палкоўніка.**

# ПРАЗ ЦЕРНІІ — ДА «ЗОРАК» (Магчыма, і генеральскіх таксама?..)



Аднак Герарда Казіміраўна — пракурор і палкоўнік, калі можна так сказаць, па форме. А «па жыцці», па чалавечай сутнасці гэта элегантная, усмешлівая жанчына. Прывабная і далікатная. З вытанчаным густам. Сама шые, вяжа, вышывае. Па свайму праекту (і амаль што сваімі рукамі) зрабіла рамонт у кватэры. І абставіла яе — як марыла: нічога лішняга і празмернага, але незвычайныя драбніцы-прыдумкі робяць кватэру ўтульным Домам. Сама будавала і дачу — літаральна стаяла над рабочымі, падказвала, што і як рабіць.

Мы сустрэліся ў метро. Колькі нязначных фраз пра надвор'е — і не вытрымліваю, удакладняю: «А вы сапраўды палкоўнік?» Жанчына лагодна ўсміхаецца: «Вось зараз прыедзем да мяне дадому, здыму паліто — убачыце форму...»

... Яна здымае паліто, смяецца: «Пераканайцеся: палкоўнік! Ды я буду пераапранацца...» Я не паспяваю сказаць што-небудзь банальнае накшталт: а вам форма пасуе. Не паспяваю — таму што ўсё яшчэ не магу зразумець, ці да твару жанчыне... пагоны. І вось невысокая імпульсіўная жанчына мітусіцца ля пліты, гатуе вячэру. Зусім не падобная ні на пракурора, ні на палкоўніка. Мы вячэраем, п'ём чай і доўга гутарым пра тое, ці простая гэта справа — не страціць жаноцкасць, займаючы адказную (мужчынскую?) пасаду. І ўвогуле, як становяцца пракурорамі?

**— Герарда Казіміраўна, ці лёгкі ён, шлях да «зорак»?**

— Да зорак заўсёды ідуць праз церні, іншага шляху няма, — усміхаецца суразмоўца. — Калісьці нават не ведала, што існуе такая прафесія — юрыст. Нарадзілася ў вёсцы Цімахі Ваўкавыскага раёна. Сям'я вялікая — брат і тры сястры. Бацька — чыгуначнік, маці — калгасніца. Праўда, калі Заходняя Беларусь была яшчэ пад Польшчай, маці скончыла гімназію, паехала ў Беласток на курсы выкладчыкаў матэматыкі. Але ў 39-м пачалася вайна, і маці, пакінуўшы ўсе дакументы, прыйшла дадому. Матэматыку ведала цудоўна, дзецям тлумачыла ўсе заданні, але... па-польску. Мы вучыліся ў беларускай школе, таму блыталіся ў вызначэннях (дзе па-польску? дзе па-беларуску?) — з нас часта смяяліся. А вучыліся нядрэнна, відаць, гэта адзіная сям'я ў вёсцы, дзе ўсе дзеці атрымалі вышэйшую адукацыю.

**— Школу заканчвалі медалістамі?**

— Не. Так атрымалася, што ўвесь багаж ведаў набываўся на ўроках, бо вучыцца дома не было магчымасці. Бацька памёр, калі ўсе дзеці былі школьнікамі. Маці прыходзіла з работы позна, па гаспадарцы ўпраўляліся без яе: карова, свінні, качкі, куры, гусі... Прыходзім са школы — закасваем рукавы: трэба сечкі нарэзаць, бульбы напарыць, карову напаіць, падаслаць... Вечарам хуценька рабілі пісьмовыя заданні, на вусныя не хапала ні сіл, ні часу. Маці заўсёды гаварыла: «Дзеці, вы ж бачыце, як цяжка мне, таму вучыцеся — каб было лягчэй у жыцці».

**— Кім вы марылі стаць?**

— Вельмі любіла настаўніцу беларускай мовы і літаратуры Ніну Канстанцінаўну Вашчылка, яна бліскуча ведала прадмет, так натхнёна чытала на памяць беларускіх паэтаў! Хацелася стаць настаўніцай. Аднак лёс склаўся інакш...

*Наступную частку гутаркі Герарда Казіміраўна папрасіла зняць: вельмі непрыемныя і хвалюючыя ўспаміны. Аднак у такім выпадку многае ў жыццёвым шляху гэтай жанчыны было б незразумелым...*

А лёс склаўся, як і ў немалой часткі жанчын. І праз гады, разбіраючы некаторыя судовыя справы, пракурор Гаўрылік неаднойчы ўзгадвала сябе, 18-гадовую: муж бязупынна канфліктуе... Калі цярпець стала немагчыма, забрала сына і пачала самастойнае жыццё.

А як жа каханне? — спытаеце вы.

... Ён закахаўся з першага погляду. Яна яшчэ школу не скончыла, а прапанову выйсці замуж ужо атрымала. Герарда была вельмі юнай, каб усвядоміць, што такое каханне: думкі былі скіраваны толькі на вучобу ў ВНУ. Але маці сказала: «Гера, выходзь замуж, хлопец неблагі, на будоўлі працуе. Вучыцца ў цябе няма магчымасці, я ўсіх не пацягну... Ты ўмееш шыць, будзеш дапамагаць...» Слова маці — закон.

... Нарадзіўся сын, праз 2 месяцы скончыўся дэкрэтны водпуск — выйшла на працу, рахункаводам у Мачулінскую васьмігодку. Яе заўважылі як граматнага, адказнага работніка, таму і вылучылі кандыдатам у дэпутаты пасялковага Савета. Выбралі дэпутатам. Прызначылі сакратаром Краснасельскага пассавета. Ішоў ёй тады 21-ы год...

**— А як вы трапілі на юрфак?**

— Штуршок мне дала суддзя Л. М. Левічава, яна прыехала дапамагчы «разгрузіць» суд Ваўкавыскага раёна: спраў было вельмі шмат. А па нашаму пассавету — спрэчка аб домаўладанні. Калі я прывезла дакументы, усё патлумачыла, суддзя сказала: «З вас бы атрымаўся талковы юрыст». І гэту ідэю я падхапіла. У пассавеце ўвесь час сутыкалася з заканадаўствам, гэта праца падабалася. Акрамя таго, часта прыгадвала выпадак з асабістага жыцця: калі мне няправільна выплацілі дэкрэтныя, дапамог знайсці справядлівасць пракурор раёна В. Г. Макараў: ён адкрыў кодэкс і падказаў, на які артыкул трэба спаслацца... Тады і падумалася: мабыць, самай вялікай, самай чыстай праўды я даб'юся, толькі працуючы ў пракуратуры. Людзям буду аказваць дапамогу толькі ў адпаведнасці з Законам, толькі на падставе Закона, толькі па літары Зако- на — і не інакш. Не вабіла мяне ні адвакатура, ні суд, ні натарыяльная служба — толькі пракуратура.

*Гэта стала мэтай — дабіцца самай чыстай праўды...*

*На завочнае аддзяленне юрфака паступіла з другога разу.*

Знайшла часовую мінскую прапіску (у старэнькай цяжкахворай бабулі — з умовай, што будзе даглядаць яе). Уладкавалася машыністкай. Колькі слёз выплакала: бабуля «ляжачая», кепска сябе адчувае, і дагадзіць ёй амаль што немагчыма. А яшчэ работа, вучоба. У роспачы колькі разоў наракала на сябе: «Навошта прыехала, лепш бы дома сядзела!» Але выратоўвала думка: «Я павінна скончыць юрфак, я ж вясковая, моцная, я вытрымаю...»

На выхадныя прыязджала да маці, дапамагала па гаспадарцы. Работу вясковую ведала цудоўна. Дадуць маці дзялянку — ідзе касіць. Раніцай, басанож, па расе — незабыўныя адчуванні!

Мужчыны, што касілі побач, бывала, і не спраўляліся з ёй. А кляпаць касу і мянціць умела лепш за мужыка.

**— Гэта пра вас: «Коня на скаку остановит, в горящую избу войдет»?**

— Магчыма, і пра мяне таксама. Так склалася, што жыла без мужчынскай апоры, усе клопаты — на мне. У юнацтве вышывала вялікія карціны «крыжыкам», але разбіраюся не толькі ў рукадзеллі — няма той работы, якую б не магла ці не ўмела зрабіць. Гавораць: у кожнага свой крыж...

Простая, звычайная сялянская праца дала моцную загартоўку: заўсёды ведала, як падступіцца да любой праблемы, — і на рабоце, і дома, і ў адносінах з сынам.

Машыністкай папрацавала з год, потым — сакратаром Першамайскага РАУС, інспектарам дзіцячага пакоя міліцыі ў Фрунзенскім РАУС. Але марыла аб рабоце ў пракуратуры.

Ёй доўга адмаўлялі: не з'яўляецца членам КПСС, да таго ж жанчына («Вы можаце выйсці замуж, нараджаць дзяцей...») І ўсё ж як не прыгадаць: «Дорогу осилит идущий».

Паслужны спіс Герарды Гаўрылік такі: з 1977-га — памочнік пракурора Першамайскага раёна, з 1981-га — праца ў пракуратуры г. Мінска, з 1990-га — у Пракуратуры Рэспублікі Беларусь.

**— Апошнім часам парушэнняў заканадаўства стала больш?**

— Парушэнні былі заўсёды, але не наўмысныя, а часцей — з-за некваліфікаванасці, нявопытнасці суддзяў: нешта не даследавана, штосьці ўпушчана. Каб добра весці працэс, трэба выдатна ведаць Працэсуальны кодэкс, але не ўсім маладым гэта пад сілу — тут не выратуе нават «чырвоны» універсітэцкі дыплом. Трэба набыць свой уласны вопыт — магчыма, набіўшы не адзін гузак.

**— Вас баяцца?**

— Думаю, не. Я курырую Гродзенскую вобласць, зваротаў шмат. Але заяўнікі прыязджаюць упэўненыя, што пракурор ва ўсім разбярэцца і дапаможа.

**— Пры разборы шлюбаразводных грамадзянскіх спраў, у канфлікце мужа і жонкі — хто часцей вінаваты?**

— На працягу многіх гадоў працы з грамадзянскімі справамі я пераканалася: менавіта жанчына стварае, выбудоўвае сямейны ачаг. І менавіта жанчына павінна знайсці падыход да мужчыны, агульную мову з ім. А гаварыць пра тое, што яна стамілася, не можа ці не хоча... Мужчыны гэтага не разумеюць. Сваёй пяшчотай і цеплынёй жанчына павінна падбадзёрыць мужа, а не крычаць: «Ах ты, дурань, такі-сякі...» Гэта ніколі не ўмацуе сям'ю.

Столькі размоў пра тое, што жанчыну неабходна вярнуць у сям'ю. І забараніць жанчыне рабіць кар'еру, рухацца па службовай лесвіцы. Часцей за ўсё слабая палавіна абураецца адведзеным ёй месцам «ад печы да парога». Таму я была здзіўлена, калі на маё пытанне «Ці трэба жанчыне займаць высокія пасады?» Герарда Казіміраўна адказала адмоўна: «Жанчына павінна быць перш за ўсё маці, шмат увагі ўдзяляць сям'і, дзецям, мужу. Я ганаруся, што здолела выхаваць добрага сына — ніколі за яго не было сорамна... Высокая пасада жанчыне не надта патрэбна. Але ў кожнага жыццё складаецца па-рознаму, яно шырэйшае за звычныя схемы...»

**— Вы сына выхоўвалі ў адпаведнасці са сваім ідэалам мужчыны?**

— Так, і ён цудоўны сем'янін, муж і бацька. Аднак я, відаць, крыху перастаралася: патрабавала ад яго няўхільнага выканання ўсіх задач і... задушыла ў ім ініцыятыву.

**— Для нашага часу досыць нечакана: вы займаеце высокую пасаду, а адзіны сын — звычайны міліцыянер без вышэйшай адукацыі. Ён не прагматык?**

— Калі шчыра, мне і перад сваімі калегамі крыху няёмка: ва ўсіх дзеці атрымалі добрую адукацыю, усе імкнуцца «прапіхнуць» сваіх дзетак... А Ігару падабалася прафесія фрэзероўшчыка, ён меў 6-ты разрад, але на заводзе пачаліся скарачэнні...

**— Вам, як жанчыне, лягчэй вырашаць нейкія службовыя пытанні?**

— Калі чалавек сумленна, адказна працуе — хіба важна, мужчына ён ці жанчына?

**— Гавораць: кожны салдат марыць стаць генералам. Вы ўжо палкоўнік, а як наконт мары пра генеральскі мундзір?**

— Няма куды лампасы нашываць! (Смяецца.) Не ведаю выпадкаў, калі б у Беларусі жанчына стала генералам, наогул не сустракала жанчын-генералаў на пракурорскіх пасадах.

**— Апранаючы форму, вы не перастаяце адчуваць сябе жанчынай?**

— Ніколі!

**— Калісьці вы марылі дапамагаць людзям, дабівацца самай чыстай праўды. Мара здзейснілася?**

— Так. Вельмі часта ў пошуках справядлівасці людзі стукаюцца ва ўсе дзверы, але часта іх не чуюць. Непрабівальная сцяна маўчання! У рэспубліканскую пракуратуру звяртаюцца як да Бога — гэта апошняя інстанцыя, апошняя надзея.

*Герарда Гаўрылік — не проста пракурор і палкоўнік, але вельмі чулая, абаяльная жанчына. Сапраўдная жанчына.*

*Мяне надзвычай кранула адна дэталь інтэр'еру яе па-сучаснаму і з густам абстаўленай кватэры: у зале — вялікія партрэты маці і бацькі. Подых добрай вясковай традыцыі такі рэдкі ў гарадскіх кватэрах.*

*... А ўсё-такі як гэта важна — заўсёды бачыць вочы сваіх маладых бацькоў.*

**Таццяна ПАДАЛЯК.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**




# ІНТЭРВ'Ю З ПАДПАЛКОЎНІКАМ МІЛІЦЫІ, які не думаў стаць міліцыянерам

**Сцвярджаецца, што Новы год — свята сямейнае. Апошнім часам родныя Судзілоўскіх — старэйшага і малодшага — у гэтым упэўніліся: Мікалай Анісімавіч і Віталь Мікалаевіч цяпер сустракаюць гэтае свята пераважна дома. Раней было інакш: Новы год прыходзілася «святкаваць» на аператыўных выездках са сваімі калегамі, на дзяжурствах у РАУС, УУС. За адным сталом сабрацца ўсёй сям'ёй удавалася рэдка. Праўда, калі бацька ў званні генерал-маёра выйшаў на пенсію, а сын узначаліў вышуковую службу Упраўлення крымінальнага вышуку МУС Беларусі, справа кардынальна змянілася: наступаючы сустракаюць у сямейным асяроддзі. Бізкіх гэта, вядома ж, узрадавала, асабліва адзінаццацігадовага сына Віталя Мікалаевіча, які, па словах падпалкоўніка міліцыі, на пытанне аб будучай прафесіі з дзіцячай непасрэднасцю адказвае, што будзе бізнесменам. Прафесія дзеда і бацькі хлапчука пакуль не прываблівае.**

— Я і сам пасля школы не думаў стаць міліцыянерам, — гаворыць Віталь Мікалаевіч. — Усё жыццё ганяцца за злачынцамі, працаваць у выхадныя дні, затрымлівацца позна на рабоце, — падобная «рамантыка» праходзіла на маіх вачах. Бацька з 17 гадоў цягнуў гэтую лямку.

**— Аднак... Мабыць, у найбольшай ступені ўсё ж такі бацька паўплываў на далейшы лёс сына?**

— Ён ніколі на мяне не ціснуў. Наадварот, раіў адслужыць у войску, а потым, пасталеўшы, выбіраць прафесію. І тут галоўную ролю адыграў той факт, што служыць я трапіў ва ўнутраныя войскі, сутыкнуўся і з патрульна-паставой службай, і з міліцэйскай. Пасля службы адразу ж напісаў рапарт і ў 1979 паступіў у Вышэйшую школу міліцыі. Бацька быў задаволены, што я пайшоў па яго слядах.

**— А расчараванняў потым не было?**

— За дваццаць гадоў не было часу расчароўвацца.

**— І прапаноў наконт змены працы не паступала?**

— Чаму ж, былі. Выраслі сябры, з якімі разам у пясочніцы гулялі, некаторыя з іх сталі бізнесменамі. Запрашалі на работу ў службу бяспекі фірмы. З матэрыяльнага пункту гледжання можна было і згадзіцца. Аднак, як ні банальна гучыць, не ў грашах шчасце. Я пакуль яшчэ малады, і на паўшляху спыняцца не збіраюся.

**— Наколькі я памятаю, вы былі членам аператыўна-следчай групы, якая расследавала сумна вядомую справу светлагорскага маньяка?**

— Так, узначальваў групу тады старшы следчы па асабліва важных справах пры Генеральным пракуроры Язэп Язэпавіч Бролішс. Нам спатрэбілася дзевяць месяцаў, каб устанавіць вінаватага.

**— Французскі крыміналіст Ламброзо сцвярджаў, што па твары чалавека можна меркаваць аб яго схільнасці да злачыннай дзейнасці...**

— Нам прыходзіцца кіравацца фактамі.

**— А вам самому даводзілася «мяняць твар»?**

— Была справа. Калі мы былі ў камандзіроўцы ў Светлагорску, мясцовыя аператыўнікі папрасілі дапамагчы раскрыць групу злачынцаў, якія абкрадвалі хімкамбінат. Нас папрасілі ўкараніцца ў групу пад выглядам скупшчыкаў крадзенага. Мы з калегам, зразумела, прынялі адпаведны выгляд, узялі пад распіску «дыпламат» грошай у адным з магазінаў, і пад прыкрыццём накіраваліся «на хату». Прыязджаем на месца, знаёмімся з падазраваемымі. Тыя прыглядваюцца да нас, не спяшаюцца ісці на кантакт. Прыйшлося пару блатных фраз кінуць у размове і раскрыць «дыпламат». Дарэчы, я выступаў тады ў ролі бізнесмена з Каўнаса, а мой калега — у ролі касіра. Злачынцы, калі ўбачылі грошы, здаецца, адкінулі ўсе сумненні. Прывялі нас на склад, каб паказаць тавар. Там жа «пракруцілі» здзелку, ударылі па руках. У апошні момант, калі старанныя зладзеі загрузілі сінтэтычнай ніткай для нас машыну, усіх з доказамі злачынства ўзялі байцы міліцыі. Не ўдалося і нам знікнуць: разам з групай раскрадальнікаў даставілі ў РАУС.

**— Злачынцамі нараджаюцца або становяцца?**

— Я даследаванняў спецыяльна не праводзіў. Як правіла, злачынцы вырастаюць у сем'ях неяпоўных, або атрымліваюць «прафесію» ў спадчыну: на тое ёсць свае прычыны і ўмовы.

**— А супрацоўнікі міліцыі?..**

— Я знайшоў сваю прафесію, як я ўжо казаў вышэй, калі пасталеў.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

**Гэты чалавек вастрэй за нас, адчувае час — такая спецыфіка ягонай прафесіі. Ён накручвае гадзіны разам з кіламетрамі на колы свайго «Ікаруса». Амаль трыццаць гадоў ён працуе вадзіцелем аўтобуса. Знаўцаў гэты тэрмін здзівіць. Пальцаў на руцэ хопіць, каб пералічыць ветэранаў у любым аўтобусным парку. Нават раней, гадоў дваццаць таму, калі вадзіцелі гарадскіх аўтобусаў атрымлівалі амаль у два разы больш за сярэднегарадскую зарплату, мала хто вытрымліваў тут больш за тры гады. Гэта толькі на першы погляд здаецца: цёпла, утульна, сядзі сабе, круці абаранак. Вось і Іван Іванавіч Навойчык, наш герой, купіўся на гэта, калі пасля арміі вырашыў уладкавацца на вадзіцельскія курсы. Сам ён родам з вёскі Даўгмінава Вілейскага раёна, пасля школы скончыў вучылішча і працаваў у Мінску будаўніком. Ездзіў з будоўлі ў аўтобусе, адаграваўся і зайздросіў: працуе чалавек, а куртка побач вісіць, — любата!**

# НАВАГОДНІ ПАРТРЭТ НА ФОНЕ АСАБЛІВАСЦЯЎ МЯСЦОВАЙ ЯЗДЫ Ў ГРАМАДСКІМ ТРАНСПАРЦЕ

**Т**аксама і я, падымаючыся на прыступку гарадскога аўтобуса, падумала, што гэты чалавек за рулём па-сапраўднаму сустрэне Новы год. Што мы, будзем сядзець, есці салацікі, піць, паглядаць на гадзіннік, няўважліва слухаць «скрынку», аднолькава, што ў 1997-м, што ў 1998-м. Толькі бруднага посуду дадасца, ды спадзе стаміўшае ўжо напружанне чакання, а разам з ім і адчуванне свята. Вадзіцель аўтобуса. Ён адразу адчуе, што сённяшні вечар — асаблівы. Сярод пасажыраў — Дзяды Марозы, людзі падымаюць угору торцікі, цiскаюцца, ірвуць, як звычайна, гузікі, але не лаюцца, віншуюць адзін аднаго. І яго, вадзіцеля. Асабліва пасля адзінаццаці. Цікава, напэўна, глядзець, як людзі спяшаюцца, бягуць да аўтобуса, бягуць ад аўтобуса да сваіх дамоў. Баяцца не паспець. А ён, вадзіцель, не баіцца. У яго ўвесь дзень, ці то вечар, ноч, — па хвілінах. Ён ведае, што ў 23 гадзіны 48 хвілін будзе ля Палаца спорту, канцавая, ён дашле па рацыі сігнал — адметку ў Цэнтр камп'ютэрнага кіравання, спакойна закрые свой офіс на колах, зойдзе ў канцэртную залу і падыме келіх з лімaнадам якраз напрыканцы апошняй хвіліны года. У яго будзе час перакусіць і паглядзець пару канцэртных нумароў. Потым ён выйдзе, адзіны цвярозы гэтай ноччу, зноў завядзе матор і стане працаваць ужо па падвоеных разцэнках святочнага дня. Ён першым будзе ехаць па горадзе ў 1998 годзе.

Прайшлі часы, калі аб людзях працоўных спецыяльнасцяў пісалі вялікія нарысы. На жаль. Пра майстроў, не важна, якой менавіта справы, расказваць трэба. Па-першае, яны гэтага вартыя, па-другое, гэта неабходна ўсім астатнім. Проста, каб жыць хацелася. Майстар — чалавек, які здольны бачыць прыгажосць у штодзённым. Таму і кажуць пра такіх: ад Бога.

Іван Іванавіч Навойчык — вадзіцель гарадскога аўтобуса ад Бога. За тры дзесяцігоддзі працы на яго не паскардзіўся ні адзін пасажыр. Асабліва ўражвае гэта ў наш час затузаных і паўзвар'яцелых людзей. Калі 85 працэнтаў аўтобусаў падлягае спісанню, а штогадовая патрэба рэспублікі ў машынах задавальняецца на адну дзесятую частку. Калі збяднеласць насельніцтва супала са зменай рэжыму ў псіхіятрычных бальніцах і маральным вакуумам грамадства. Пяць гадоў таму вадзіцелю 60-га маршрута на станцыі Адаеўскага п'яны мужчына адкусіў палец. Фалангу так і не знайшлі, праглынуў, мабыць. Гэтай восенню, у час футбола, сталічныя аўтобусы заставаліся без вокнаў, а вадзіцелі — без кашуль. Шмат па якіх маршрутах доўгія «Ікарусы» ў гадзіны «пік» адразу перавозяць па 250—300 чалавек, што ўдвая больш за тэхнічную норму.

Здаецца, на такой рабоце ніякія нервы не вытрымаюць, і людзі, якія прарабілі тут шмат гадоў, павінны быць нейкімі асаблівымі. Іван Навойчык выглядае як звычайны чалавек. Вясёлы мужык, які лёгка раскрывае ва ўсмешцы здаровыя зубы, ён гаваркі, але не балбатлівы, лішнія словы з яго вуснаў не злятаюць. Вочы ўважлівыя і спакойныя, рукі, выпацканыя машынным алеем і саляркай, лішніх жэстаў не робяць, на абаранку ляжаць сіметрычна па дыяметру. Ён пакідае ўражанне чалавека лёгкага і разам з тым паважнага, які жыве па нейкіх сваіх непахісных правілах, галоўнае з якіх — павага да правілаў іншых. Побач з ім пакойна і бяспечна, бо ён — прафесіянал. Іван Навойчык заўсёды высаджвае цяжарных жанчын ля радзільні, хаця там няма прыпынку, але маладым мужчынам у падобных просьбах цвёрда і ветліва адмаўляе. Калі бачыць, што моладзь не саступае месца старым, паводзіць сябе бесцырымонна, ён спыняе машыну, заходзіць у салон і хутка выпраўляе хібы выхавання ў новага пакалення, але лічыць, што гэта павінны рабіць і самі пасажыры.

— Я ведаю сакрэт, — смяецца Іван Іванавіч. — Сур'ёзна-сур'ёзна. Калі пасажыр стукае ў перагародку, правіла нумар адзін: дай яму магчымасць астыць. Адразу пытаюся, дзе яму выходзіць і далікатна прашу пачакаць з «размовай» да наступнага прыпынку. У дзевяці выпадках з дзесяці пытанняў больш не застаецца.

Тады Іван Іванавіч скарыстоўвае правіла нумар два: да кожнага чалавека індывідуальны падыход. Вось тут і адбіваецца шматгадовы вопыт працы з людзьмі, ён бачыць, з кім мае справу, адразу. Інтуітыўна Іван Іванавіч угадвае тую адзіную дакладную інтанацыю і манеру зносінаў для кожнага канкрэтнага выпадку. І калі пасажыр, які звярнуўся да яго з прэтэнзіяй і ў расстроеных пачуццях, не выходзіць з падзякай за тлумачэнне і ў прыўзнятым настроі, дык ужо, ва ўсякім разе, жаданне скардзіцца ў яго знікае.


Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

У кастрычніку прапанавалі Івану Іванавічу з напарнікам новенькі, толькі з завода «Мерседэс», які горад набыў у парадку эксперымента. Самы вопытны экіпаж пятага аўтапарка адмовіўся, хаця аўтобус ім спадабаўся, прыгожы і камфортны, але ўсё ж такі не разлічаны на нашы гарадскія ўмовы. А іх Навойчык ведае дасканала. Ён бы не сеў і на чэшскую «Карозу», якая ўсім добрая, але дзверы ў яе, як у «ЛіАЗа» — калі складваюцца, сантыметраў на дзесяць вытыркаюцца за кузаў машыны. Значыць, не толькі локаць пасажыра можа не ўбачыць вадзіцель у люстэрка задняга агляду, ці дамскую сумачку, але і палову тулава, што для вадзіцеля Навойчыка прынцыпова важна. Для мясцовых умоў больш надзейнай за «Ікарус» — няма машыны, лічыць Іван.

Гарадскі аўтобус вызначыў лёс Івана Іванавіча у прамым і пераносным сэнсе слова. Напрыканцы шасцідзесятых ягоны аўтобусны марштут перасёкся з трамвайным маршрутам, па якім вадзіла вагон прыгожая дзяўчына Зінаіда. На Прывакзальнай плошчы гэта адбылося. Спачатку ён ёй «паміргаў» фарамі, потым і яна адгукнулася званочкам. А ўжо як упершыню загаварыў з ёй, Іван не памятае. Зараз яму здаецца, што яна, Зіна, заўсёды была ў яго жыцці. Прыгожая і мудрая жанчына. У шэсцьдзесят дзевятым яна нарадзіла яму дачку, у семдзесят першым — сына. Пяць гадоў з пачатку дэкрэтнага водпуску яна не працавала, заробку мужа хапала на ўсю сям'ю. Потым Зінаіда Яфімаўна уладкавалася на завод халадзільнікаў, два вадзіцелі ў сям'і — гэта занадта. Адзін тыдзень працоўны дзень пачынаецца ў тры гадзін ночы, у наступным, заканчваецца ў гэтую ж пару. Дзеці Навойчыкаў скончылі ВНУ, Света працуе настаўніцай, Андрэй — інжынерам. Зусім нядаўна абзавяліся ўласнымі сем'ямі. Унукаў, праўда, ім яшчэ не нарадзілі.

Іван Іванавіч — патрыёт старой загартоўкі. У 1989 годзе ён ездзіў у Італію па абмену вопытам. Круціў у Рыме абаранак, вельмі яму падабаўся горад, людзі, уразіў высокі ўзровень культуры італьянскіх вадзіцеляў і пасажыраў. Але першае, аб чым ён апавядае — гэта выпадак на вялізнай рамонтнай пляцоўцы пры заводзе. Там усё ззяла ад чысціні, ён спусціўся ў яму, дзе працаваў малады хлопчык, і спытаў праз перакладчыцу:

— У вас што, заўсёды так чыста тут?

— Ды што вы! — адказаў італьянец. — Мы суткі не спалі, усю ноч прыбіралі тэрыторыю, новыя робы атрымалі. Чакаем дэлегацыю з Савецкага Саюза.

У гэту хвіліну да іх падышоў дырэктар завода і спытаў, аб чым яны размаўлялі, перакладчыца паўтарыла дыялог. Дырэктар змяніўся з твару, а Іван Іванавіч супакойваў яго, смяяўся. «У нас жа тое самае!»

«Някепска італьянскім калегам, — кажа Іван Навойчык, — працуюць яны толькі шэсць гадзін у дзень, атрымліваюць за гэта, на той год, два з паловай мільёны лір, але галоўнае — яны толькі возяць. Да рамонту, нават дробнага, не дакранаюцца. Мы ж на 80 працэнтаў рэмантуем машыны самі, нярэдка і начуем у парку, каб раніцай напарнік змог працаваць, каб не страціў «кругі», бо ад гэтага залежыць ягоны заробак».

І дадае: «Але я на Рым свой Мінск не прамяняў бы».

Сын, праўда, часам з ім спрачаецца, але пазіцыю бацькі паважае. «Спачатку выканай правілы і законы грамадства, а потым выказвай пратэст, калі не згодзен», — такім правілам Іван сам кіруецца ў жыцці, і дзяцей сваіх так вучыў.

У мінулую навагоднюю ноч ён вазіў людзей да трох гадзін раніцы. У гэтым годзе яму зноў выпадае другая змена, але Іван возьме адгул — сват запрасіў на 60-годдзе, першы год, адмаўляць нельга. Калегі Навойчыка будуць развозіць сёння людзей і падарункі, віншаванні і само свята. Ён душой будзе з імі, падыме за іх келіх шампанскага: «Трымайцеся, браткі, шчасця вам на дарозе!»

**Вольга МЯДЗВЕДЗЕВА.**



# ДВА КАРОТКІЯ ІНТЭРВ'Ю З «ТЫГРАМІ»



**Напярэдадні года Тыгра рэдакцыя «Звязды» звярнулася з аднолькавымі пытаннямі да прадстаўнікоў краін так званых «эканамічных тыграў». Гэту назву яны заслужылі ў выніку магутнага, трапнага і для многіх нечаканага скачка ў эканамічным развіцці.**

**1. Як у вашай краіне сустракаюць Новы год і чым яго сустрэча адрозніваецца ад еўрапейскіх краін. Нагадайце нейкія нацыянальныя асаблівасці.**

**2. Чым мінулы год быў адметны для вашай краіны і чаго чакаеце ў новым годзе?**

**3. Што б вы, як прадстаўнік краіны-«тыгра» пажадалі беларускаму народу ў сувязі з «тыгрыным» годам? Цікава было б пачуць вашы парады наконт таго, як Беларусі таксама стаць эканамічным «тыграм».**

Японія, бадай, самы вядомы, сталы і аўтарытэтны тыгр. Турцыя толькі нядаўна далучылася да гэтай паважанай у свеце «зграі» дзякуючы сваім уражальным і эфектыўным «скачкам» у эканоміцы.

**Сігэо Нацуі, Часовы Паверaны ў справах Японіі ў Рэспубліцы Беларусь.**

1. Вядома, японцы адзначаюць навагодняе свята інакш, чым беларусы. І, бадай, галоўнае адрозненне ў тым, што мы сустракаем Новы год 1 студзеня, а не 31 снежня, як еўрапейцы.

У апошні дзень адыходзячага года ў японскіх сем'ях наладжваецца, як у вас кажуць, генеральная ўборка кватэр і дамоў, каб у свежым, прыбраным памяшканні і ў добрым настроі сустрэць Новы год.

31 снежня роўна ў 24.00 ва ўсіх японскіх храмах пачынаюць званіць званы. Яны б'юць 108 разоў. Чаму менавіта 108? Гэта значыць, што японцам у новым годзе трэба будзе пераадолець 108 страсцей і накіраваць свае сілы і здольнасці на добрыя справы і ўчынкі.

Раніцай 1 студзеня па старажытнай традыцыі многія японцы сустракаюць узыход сонца. Пэўна, адсюль пайшла другая назва маёй радзімы як Краіны ўзыходзячага сонца. А некаторыя мае суайчыннікі ў гэты дзень нават ідуць у горы, каб там, у вышыні, раней за іншых убачыць з'яўленне сонца новага года.

А тыя, хто застаўся дома, найперш адкрываюць паштовыя скрынкі і з задавальненнем чытаюць навагоднія прывітанні. Потым японцы ідуць па дамах сваякоў, сяброў, начальнікаў, знаёмых і віншуюць іх са святам. Там іх частуюць японскай гарэлкай сакэ, нацыянальнымі стравамі.

Дзеці, таксама па старажытнай традыцыі, запускаюць у неба маляўнічых каляровых змеяў, гуляюць у розныя гульні. У гэты дзень дзеці з нецярпеннем чакаюць ад бацькоў і гасцей святочных канверцікаў. Там змяшчаюцца невялікія, але дастатковыя для набыцця жаданай цацкі сумы грошай.

Новы год у японцаў — самае працяглае свята. 28 снежня зачыняюцца ўсе офісы і адчыняюцца толькі 4 студзеня. У гэтыя дні жыхары буйных і сярэдніх гарадоў наведваюць родныя мясціны ў правінцыі.

2. 1997-мы стаў для Японіі годам нялёгкіх эканамічных выпрабаванняў, як, між іншым, і для некаторых іншых азіяцкіх краін. Зараз наш урад, дзелавыя колы прымаюць рашучыя дзеянні, каб пераадолець цяжкасці. Сёння, ужываючы самае папулярнае слова вашай нядаўняй гісторыі, у Японіі вядзецца сапраўдная перабудова. Адным з важнейшых яе крокаў павінна стаць лібералізацыя фінансавай сістэмы замест жорсткага рэгулявання. Эканоміка будзе больш адкрытай, рыначнай і далей будзе развівацца пераважна па прынцыпах свабоднай канкурэнцыі.

3. «Тыграм» у эканоміцы адразу не станеш. Цудаў тут не бывае. Калі ўлічваць вопыт Японіі, то далёка не апошнюю ролю адыграла падрыхтоўка кадраў для розных сфер дзейнасці. Я ведаю, што ў Беларусі высокі ўзровень кваліфікацыі спецыялістаў. Таксама высокі агульны культурны ўзровень насельніцтва. Беларускі народ, як і японскі, працалюбівы. Усе гэтыя фактары могуць садзейнічаць бурнаму росту эканомікі Беларусі. Важна толькі для іх рэалізацыі стварыць адпаведныя ўмовы.

Напрыканцы размовы хачу сардэчна павіншаваць усіх жыхароў Беларусі з Новым годам. Ад усёй душы жадаю працвітання, поспехаў, здароўя кожнай сям'і.

**Тансу Акандан, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Турцыі ў Рэспубліцы Беларусь.**

1. Новы год у Турцыі — гэта сямейнае свята, і яго звычайна сустракаюць дома з блізкімі і сябрамі. Але ўжо сёння заможныя туркі, якія маюць неблагія грошы, усё часцей любяць адзначаць свята ў дарагіх рэстаранах, начных клубах, дзе з гэтай нагоды наведвальнікам прапаноўваюць спецыяльныя забаўляльныя праграмы з арыгінальнымі нумарамі спевакоў, артыстаў, запрашэннем вядомых аркестраў.

Іншыя выкарыстоўваюць святочныя дні для адпачынку. Часцей за ўсё гэта падарожжа па краіне, паездка на некалькі дзён на прыроду.

Упрыгожаная цацкамі і каляровымі гірляндамі ёлка — рэдкасць у нашых дамах. Бо гэта не турэцкая традыцыя, а хрысціянская. Але сёння ў вялікіх гарадах, асабліва ў буйных магазінах, гатэлях, нават мусульманскіх сем'ях усё часцей пад Новы год з'яўляецца зялёная ёлка.

2. Мінулы перыяд характарызаваўся значнымі палітычнымі зрухамі, зменамі ва ўрадзе краіны. Апошні састаў урада быў створаны на базе трох партый. Яшчэ адна партыя, чацвёртая, падтрымлівае ўрад, хаця не ўваходзіць у яго састаў. Сёння ў Турцыі многія спадзяюцца, што менавіта гэты ўрад унясе значны ўклад ва ўмацаванне палітычнай стабільнасці ў краіне.

На 1998 год у нашай краіне намечана спецыяльная эканамічная праграма. Яе галоўным зместам стане скарачэнне інфляцыі, ад якой Турцыя пакутуе ўжо працяглы тэрмін. У сувязі з гэтым расходы ўрада будуць урэзаны, але ўзровень даходаў насельніцтва застанецца, па нашых мерках, даволі высокі. Будзе праведзена рэформа падаткаабкладання, бо шмат людзей з высокімі заробкамі пазбягалі падаткаў. Цяпер ім будзе цяжка гэта рабіць.

3. Мае самыя шчырыя, цёплыя віншаванні вашаму народу, пажаданні поспехаў, здароўя, дабрабыту і працвітання хачу перадаць праз вашу газету.

Я не хацеў бы даваць нейкіх канкрэтных парад вашаму народу, як хутчэй дасягнуць «тыгрыных» поспехаў у эканоміцы. Але я веру ў мудрасць і добрую волю беларускіх людзей, іх здольнасці. Кожная нацыя мае свой уласны шлях. Тое, што карысна і зручна для адной краіны, не зусім падыходзіць для іншай.

Аднак ёсць шэраг агульных правілаў дасягнення эфектыўнай эканомікі. Мы сёння жывём у час велізарных перамен. Цяпер кантакты паміж народамі становяцца ўсё больш актыўнымі. І адкрытасць грамадства, краіны для іншых — адно з гэткіх правілаў.

Адным з галоўных правілаў рынку з'яўляецца неабходнасць вырабляць толькі тое, што карыстаецца попытам, што можна прадаць. Правіла простае, але кіравацца ім не заўсёды лёгка.

Вельмі важна надаць імпульс бурнага развіцця нейкім асобным сферам дзейнасці, на якія раней не звярталася ўвага. Напрыклад, у нас гэтым стаў турызм. Даходы ад яго значна ўзраслі дзякуючы таму, што Турцыя стала адкрытым грамадствам. Кожны жадаючы яе наведаць можа ў нашым аэрапорце атрымаць візу за лічаныя хвіліны. І на гэта не трэба запрашэння. Турызм дае нам штогод 6-7 мільярдаў долараў ЗША даходу. Летась Турцыю наведалі толькі каля паўтара мільёна расіян.

Я думаю, што і Беларусь знойдзе свой шлях да эканамічных вышынь.

# Зборны партрэт са стосам сшыткаў і віламі

НА ДВАРЭ — МАРОЗ. Толькі-толькі ўстае сонца. Маленькая дзяўчынка стаіць босымі нагамі на халоднай падлозе і глядзіць у акно, прыляпіўшы нос да шыбы. Там, за акном, па замеценай вясковай вуліцы хуценька, амаль подбегам, пашыбавала на працу яе мама...

Заходзіць у пакой бабуля, дакорліва ківае галавой: «Зноў так рана ўскруцілася! Чаго, каб хто папытаўся. Што гэта за дзіця такое — нават раніцай на яе ўпынку няма!» Дзяўчынка ўздыхае і паслухмяна залазіць пад коўдру. Якая гэта бабуля злосная! Нічога яна не разумее: яшчэ з вечара дзяўчынка загадала, што ўстане рана-рана, каб паснедаць разам з татам і мамай, каб мама пагладзіла па галаве, сказала колькі пяшчотных слоў... І, як заўсёды, праспала. Прачнулася ад мамінага заўсёднага паспешлівага пацалунку і ласкавага: «Добрай раніцы, сонейка! Будзь разумніцай!» Яна толькі і паспела выбрацца з цёплага ложка і прыляпіцца да шыбы, каб паглядзець маме ўслед...

Ранні зімовы надвячорак. Дзяўчынка зноў стаіць ля акна і ўглядаецца на дарогу. Зараз, вось-вось, подбегам з'явіцца мама. Так многа трэба ёй расказаць! Пра тое, што кошка сёння зрабіла ласку і гуляла з ёю, аж пакуль бабка не прыйшла з хлява. Пра тое, што суседскі хлопчык Віцька (яму дзяўчынка ўпотай вельмі зайздросціць, бо мама яго працуе ў свірне і нярэдка бярэ яго з сабой ці абавязкова прыходзіць дадому накарміць Віцьку абедам) зноў выкачаў яе ў снезе, але яна не плакала, а надавала яму кухталёў. Пра тое, што бабуля перацягнула ёй па плячах ручніком, каб не круцілася пад нагамі... Рыпяць дзверы, заходзіць мама, уся заінелая — здалёк ішла па марозе. Дзяўчынка кідаецца да яе са сваімі навінамі і крыўдамі, важней за якія, здаецца, няма нічога не свеце... «Пачакай, дачушка, бачыш, ужо як позна, а свінні галодныя, і сечку трэба нарэзаць...» Мама хуценька пераапранаецца, хапае вёдры, бяжыць у хлеў. Потым запальвае на стале лямпу, дастае нейкія кніжкі, стос сшыткаў і пачынае нешта пісаць. «Не перашкаджай маме, бачыш, яна працуе», — папярэджвае тата. Дзяўчынка ўздыхае і лезе пад стол, да маміных ног — там у яе «хатка». Шэптам яна расказвае лялькам, што мама яе вельмі любіць, проста ёй няма часу. Што хутка нядзеля, і можна будзе з мамай пакатацца на лыжах...

...Мама пажадала ёй добрай ночы, пацалавала і зноў пайшла да стала. А дзяўчынка, засынаючы, думае аб тым, што заўтра яна абавязкова ўстане рана-рана, каб разам з мамай гатаваць снеданне...

...Прайшлі гады. Мама нядаўна пайшла на пенсію, дзяўчынка — ужо дарослая жанчына. Прыязджаючы дамоў, яна ніяк не прывыкне, што можна цэлы вечар праседзець з мамай, паклаўшы галаву ёй на плячо, а яна будзе ўважліва слухаць і ўжо ніколі не скажа з пяшчотным папрокам: «Дачушка, мне ж няма часу, трэба пісаць планы»... Тая колішняя дзяўчынка цяпер вельмі добра разумее старэйшую сястру, якая, сама ўжо маці дваіх дзяцей, заўсёды лашчыцца да мамы, нібы маленькая... Што ж, яна таксама стараецца хоць са спазненнем атрымаць тое, чаго вельмі мала дасталося ёй у дзяцінстве. Яна таксама — дзіця вясковай настаўніцы...

❄

...Зараз гэта дзяўчынка атрымала заданне: напісаць нешта накшталт партрэта вясковага настаўніка. Яна ў разгубленасці: калі пісаць усё, што ведае пра гэту з'яву, газетнай старонкі наўрад ці хопіць. Калі нешта выбіраць — які ж гэта будзе партрэт? Дый пісаць трэба пра блізкіх людзей: сваякоў, сяброў. Як тут не скаціцца да голай суб'ектыўнасці? І ўсё ж яна паспрабуе. Яна не будзе называць сябе ў першай асобе. Яна не напіша прозвішчы сваіх герояў: будзе называць іх так, як завуць іх вучні і аднавяскоўцы — проста імя і імя па бацьку. Яна не будзе прэтэндаваць на нейкі аналіз, на нейкі дасканалы партрэт — так, асобныя штрыхі, назіранні, высновы, якія пачалі нараджацца яшчэ тады, у далёкім блізкім мінулым, калі яна стаяла, прыціснуўшыся да халоднай шыбы, і глядзела, як яе маці з цяжкім партфелем у руках шпарка крочыць у суседнюю вёску на працу...

❄

...На вуліцы — завіруха. Драўляная школа — былы ксяндзоўскі дом, здаецца, вось-вось разваліцца ад шалёнага ветру, які завывае ў камінах. За вокнамі — цёмна-шэрая непраглядная цемра. Другакласнікі, якія займаюцца ў другую змену, сядзяць у халодным класе, нібы надзьмутыя малыя вераб'і: у накінутых на плечы паліто, у рукавічках, якімі нязграбна трымаюць задубелую ручку. Настаўніца, Ганна Еўдакімаўна, са шкадаваннем абводзіць клас вачыма: ну што затрымаецца ў гэтых галоўках, калі яны зусім замерзлі? Але працягвае расказваць, выклікаць, слухаць, як яны чытаюць, некаторыя яшчэ па складах, з цярплівасцю выпраўляе кожную памылку, бо ведае: не навучыць яна — не навучыць ніхто. Вось гэты хлопчык — позняе дзіця састарэлых калгаснікаў, якія самі чытаюць па складах. У гэтай дзяўчынкі і маці, і бацька прыкладаюцца да бутэлькі, і дзяўчо зараз, прыйшоўшы са школы, гэтымі кволымі пальчыкамі, якія старанна водзяць па радках, будзе даіць карову. Ці да кніжак ёй будзе дома?..

Замест дарогі за вёскай — раўнюткая белая прастора. А завея мяце і мяце. Прыйдзецца таптаць дарогу — за ёй следам сапуць васьмёра маленькіх чалавечкаў — яе вучняў-аднавяскоўцаў. Раз-пораз яна паварочваецца назад: ці не адстаў хто-небудзь. А потым зноў — тварам да ветру. А думкі... Думкі з тымі, астатнімі дзецьмі з навакольных вёсак, якія зараз таксама ідуць насустрач мяцеліцы, але без яе, маленькія і бездапаможныя. Ці сустрэне іх хто са старэйшых? Ці не застанецца хто-небудзь у гурбе? Трывога не пакіне яе, пакуль назаўтра яна не ўбачыць, як яе малеча сцягваецца да школы: выкачаныя ў снезе, з мокрымі ўжо, хоць выкручвай, рукавіцамі, але ружовыя ад марозу, жывыя і здаровыя...

❄

Настаўнік на вёсцы лічыцца самым адукаваным чалавекам. Да яго, як калісьці да адзінага на ўсю вёску «грамацея», і сёння ідуць простыя людзі. Звычайна настаўнік дапамагае ўсім, за што карыстаецца ў людзей павагай. Праўда, гэтым самым нажывае сабе нямала нядобразычліўцаў: дагадзіўшы аднаму, можна пашкодзіць іншаму. Праўда, апошні, як толькі з'явіцца патрэба, адкідае ўсякія крыўды і ідзе да настаўніка: «Напішы ты мне «заяўленне»...

Але ёсць на вёсцы і іншыя «грамацеі» — тыя, што непісьменна, няроўнымі літарамі, пішуць пра ўсіх і пра ўсё ўсюды, — ананімшчыкі. Іх паклёпы без подпісаў адрасаты звычайна пакідаюць без увагі, але калі на які-небудзь падобны «сігнал» усё ж прыязджае праверка — гудзе вёска ў здагадках: а хто ж напісаў? І ўсе падазрэнні падаюць вядома на каго — на настаўніка. А ён, наіўны дзівак, шчыра ўсміхаецца людзям, ні пра што не здагадваючыся. І толькі здзіўляецца, чаму некаторыя аднавяскоўцы вельмі холадна вітаюцца ці зусім пераходзяць на другі бок вуліцы...




❄

Летні ранак. Толькі-толькі пагналі ў поле кароў. Святлана Мікалаеўна цэдзіць малако з даёнкі ў трохлітровыя слоікі і шчыльна закрывае накрыўкамі. Гэта — на продаж. У меншы, двухлітровы слоік працэджвае тое, што засталося. Гэта — дзецям і катам. Васіль Леанідавіч тым часам корпаецца ля свайго дабітага «Жыгуля» (машыну з васемнаццацігадовым стажам яны купілі зусім нядаўна, дапамаглі бацькі). Потым ідзе ў хату, выносіць падрыхтаваную вялікую міску з тварагом — яго таксама добра купляюць. Дзецям на сырнікі ў халадзільніку застаецца невялікая місачка.

Зараз ён «загрузіць» тавар у машыну і яна, равучы з натугі і бразгаючы ўсімі дабітымі часткамі, паімчыць у напрамку да дачнага пасёлка. А пастаянныя пакупнікі ўжо чакаюць, падрыхтаваўшы посуд на замену.

Наўрад ці яны ведаюць, што гэты чалавек у зношаным спартыўным касцюме, які штодня прывозіць прадаваць ім малако, — звычайны вясковы настаўнік. І не ад добрага жыцця ганяе ён туды-сюды машыну: тую частку адпускных, якую яны з жонкай, таксама настаўніцай, атрымалі, ужо даўно «праелі», а астатняя калі будзе — аднаму Богу вядома. А трэба ж купіць сёе-тое ў школу дочкам, дый самі абнасіліся: не пойдзеш жа на працу ў старым пацёртым касцюме — не зразумеюць ні вучні, ні іх бацькі...

Святлана Мікалаеўна з сумам, каторы раз ужо, глядзіць на свае парэпаныя, без следу манікюру, рукі. Хутка верасень, а пачарнелыя пальцы так, напэўна, і не адмыюцца: колькі буракоў імі аполата, колькі сена паварочана. Скура на твары патрэскалася ад сонца і ветру: увесь спякотны ліпень правялі на лузе, на дзве каровы сена патрэбна шмат. Увесь адпачынак так і прайшоў у штодзённай мітусні. Праўда, удалося на два дні выбрацца на возера, адлучаліся толькі дагледзець скаціну. Успамінам аб гэтых двух днях яны будуць жыць цэлы год, гэтак жа як іх гарадскія калегі ўзгадваюць два тыдні, праведзеныя на моры...

...А першага верасня яна з'явіцца ў школу — прыгожая, усмешлівая, з бронзавым загарам, нібы сапраўды адпачывала на курорце. І каму якая справа, што рукі яна цэлы тыдзень адпарвала ў настоі рамонкаў, абветраны твар мазала самым тлустым крэмам, а яе ногі ў вузенькіх модных туфлях на высокіх абцасах яшчэ не пазажывалі пасля хадзьбы па пожні: учора малацілі ячмень...


Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

❄

На сямейныя святы яны нярэдка збіраюцца разам. Асабліва любяць бываць у Віктара Антонавіча і Веры Мікалаеўны, настаўнікаў французскай мовы. Забываюцца пра сялянскія клопаты, успамінаюць раптам пра сваю вышэйшую адукацыю... Пачынаюцца размовы аб узвышаным, успаміны пра студэнцтва, песні маладосці... А назаўтра кожны з іх думае, як будзе правільна: насварыцца на вучня, які прапусціў тры дні толькі таму, што капаў дома бульбу, ці проста ўздыхнуць, успомніўшы, што ўласная дачка два дні таму не пайшла ў школу па той жа прычыне...

...На паліцах стаяць кніжкі на французскай мове. Бальзак, Дзюма, Мапасан. Гаспадары пра іх даўно забыліся. Гэта калісьці, наіўныя, думалі: будзе што пачытаць зімовым доўгім вечарам. А яшчэ тады марылася: на кожныя выхадныя — у тэатр, балазе да сталіцы паўсотні кіламетраў...

Ці думаў гадоў дваццаць таму Віктар Антонавіч, перакладчык пры савецкім генконсульстве ў адной з афрыканскіх краін, што яго энтузіязм, жаданне вучыць прыгожай мове іменна сялянскіх дзяцейператворыцца ў просты «трохвугольнік»: школа—хата—хлеў, і ён над гэтым будзе сумна пасмейвацца і жартаваць? Здаецца, яму самому часам у гэта не верыцца...

❄

Настаўніцкія дзеці — самыя бедныя дзеці. У горадзе прасцей: маці можа працаваць у адной школе, дзіця аддаць у другую. На вёсцы такога выбару няма.

Дрэнна вучыцца можа кожны, толькі не яны. Як гэта — маці настаўніца, а дачка — троечніца. Ганьба!

Вучыцца выдатна — таксама не вельмі соладка: нават калі твой бацька выкладае фізкультуру, усё роўна знойдуцца злыя языкі, якія будуць сцвярджаць, што «пяцёркі» па астатніх прадметах ты атрымліваеш іменна дзякуючы яму. Даказаць адваротнае можна толькі паступіўшы пасля школы ў ВНУ. Праўда, і гэты факт некаторых вяскоўцаў не пераканае. Да прыкладу: пра аўтарку гэтых радкоў да нядаўняга часу хадзілі чуткі, што артыкулы за яе піша маці — настаўніца беларускай мовы...

❄

...Тая колішняя дзяўчынка сядзіць у задуменні: трэба было б напісаць яшчэ нешта вельмі важнае і крыху святочнае. Але яна напіша проста: дзякуй. А астатняе, чаго яна не прыгадала, абавязкова дапіша пра вас які-небудзь ваш вучань, якому вы ўчора тапталі па снезе дарогу.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

## ШЧЫРЫЯ ВІНШАВАННІ СЯБРАМ «ЗВЯЗДЫ»

Пажаданні ім здароўя, дабрабыту, радасці

У рэдакцыі заўсёды паважліва ставіліся да чытачоў. І да тых, што пішуць нам з аддаленых вёсак, і да блізкіх, якія заходзяць у рэдакцыю, дзеляцца ўражаннямі, назіраннямі, а часцей за ўсё набалелым. Мы падбадзёрваем, абуджаем надзею, хаця, што казаць, і ў саміх далёка не заўсёды бязвоблачныя дні. Нам таксама прыемна, калі нас разумеюць і падтрымліваюць. Нягледзячы на крытычную накіраванасць многіх звяздоўскіх матэрыялаў, мы ў асноўным знайшлі паразуменне з прамыслоўцамі краіны. Асабліва хацелася б адзначыць тыя арганізацыі, якія ў гэты цяжкі час дасягнулі нядрэнных фінансавых паказчыкаў і падзяліліся на старонках газеты сваім вопытам. Гэта:

Гандлёвы дом «На Нямізе» (генеральны дырэктар У. П. Дзем'яновіч), АТ «Элема» (дырэктар У. У. Ласкевіч), АТ трэст «Прамбуд» (кіраўнік В. М. Мазоўка), Рэчыцкі метызны завод (дырэктар А. Л. Каралькоў), Івянецкая кандытарская фабрыка ААТ «Івкон» (дырэктар Л. А. Вечар), канцэрн «Белбіяфарм» (в. а. генеральнага дырэктара Г. Ч. Радкевіч), завод «Прамсувязь» (дырэктар С. М. Хацько), Гродзенскі піўзавод (дырэктар В. К. Сахонь), былы банк «Алімп» (член праўлення В. У. Сяляўка), Барысаўскі кансервавы завод (дырэктар В. А. Бянько), Смаргонскі агрэгатны завод (дырэктар І. І. Рамановіч), ААТ «Забудова» (генеральны дырэктар І. М. Русак), канцэрн «Белмясцпрам» (прэзідэнт М. І. Поух), ВА «Барысаўхлебпрам» (генеральны дырэктар У. А. Марушэўскі), Вілейскі хлебзавод (дырэктар А. П. Сяргей), Барысаўскі завод «Аўтагідраўзмацняльнік» (дырэктар А. А. Пухавой), Беларускі металургічны завод (генеральны дырэктар Ю. В. Феакцістаў), Новалукомскі завод керамзітнага гравію (дырэктар Г. І. Лазарашвілі), Лукомская ДРЭС (дырэктар Л. А. Жураўлёў), РА «Белаграпрамэнерга» (генеральны дырэктар П. Я. Харкевіч), Дзяржаўнае прадпрыемства «Белтрансгаз» (генеральны дырэктар М. П. Мачарнюк), чыгуначнае дэпо станцыі Жлобін (начальнік У. В. Балахонаў), АТ «Жлобінская мэблевая фабрыка» (дырэктар А. Е. Білецкі), дзяржаўнае прадпрыемства «Граніт» у Мікашэвічах (генеральны дырэктар В. І. Папоў), Магілёўскі ліфтабудаўнічы завод (генеральны дырэктар У. М. Палякоў), вытворчае аб'яднанне «Бабруйскаграмаш» (генеральны дырэктар Я. П. Пахілка), АТ «Дах» у Асіповічах (генеральны дырэктар А. В. Бабанскі), ААТ «Скідальскі цукровы камбінат» (генеральны дырэктар Г. В. Карамушка), АТ «Беліндзяржстрах» (генеральны дырэктар Ю. А. Гаўрылаў), ТАА «Вітурыд плюс» (генеральны дырэктар Я. В. Вараб'ёў), ЗАТ «БелКП-ПРЭС» (генеральны дырэктар М. В. Стацэнка), вытворчае прадпрыемства «Студыя «Салве» (дырэктар А. А. Юркевіч), рэкламнае агенцтва «БелРІА» (дырэктар В. Г. Страх), Беларускі цэнтр рэкламы (дырэктар С. В. Мась), рэкламнае агенцтва «Гольфстрым» (дырэктар В. Багданаў), рэкламнае агенцтва «Твайс» (дырэктар Т. В. Чвырова), рэкламнае агенцтва «Феліта» (дырэктар С. П. Шлемен), ТАА «Элвэдэ» (дырэктар Л. В. Пратасевіч), ЗАТ «BVC» (дырэктар С. А. Міцін), аб'яднанне «Мінскпраектмэбля» (генеральны дырэктар А. М. Баркоўскі), «Белдзяржстрах» (генеральны дырэктар В. І. Шуст і яго намеснік, пастаянны аўтар «Звязды» В. Д. Балібок).

З асаблівай удзячнасцю мы прыпамінаем плённую працу з Рэспубліканскім аб'яднаннем «Белпошта» (генеральны дырэктар Г. Я. Ігнатовіч).




## Беларускія астролагі пра год 1998-мы

Асабліва непрадказальнай будзе першая трэць года, люты-сакавік. У цэлым год на ўзроўні соцыуму характарызуецца даволі вялікай дынамікай, хуткасцю развіцця падзей, сапраўдная падаплёка многіх з якіх так і застанецца няяснай.

Але значна больш пільная ўвага ўдзялялася 32-гадоваму календару, больш паслядоўнаму і глыбокаму. Гэты старажытнаарыйскі каляндар звязаны з нашымі традыцыямі ў большай ступені, чым 12-гадовы «ўсходні», ён накіроўвае чалавека да вырашэння ўласных, асабістых праблем і падштурхоўвае яго да выбару паміж Святлом і цемрай. Гэты каляндар для нас, магчыма, больш прымальны, чым той, да якога ўсе прывыклі. Згодна з ім, з 21 сакавіка (дзень веснавога раўнадзенства) настане год Дэльфіна — увасабленне адданасці, дружбы і бескарыслівай любові, звязанай з місіянерствам і рэлігіяй. Так што сапраўднага пачатку года давядзецца яшчэ пачакаць, але апошнія тры месяцы з'яўляюцца пераходнымі, і закладка гадавых рытмаў адбываецца ўжо цяпер. Што ж прынясе 1998-мы нашаму грамадству?

Пытанні рэлігіі ў гэтым годзе стаяць на першым месцы, пачнецца новы віток духоўнага адраджэння. Пачнецца адраджэнне старажытных традыцый, але вялікай з'яўляецца і небяспека расшырэння ўплыву розных сект і лжэвучэнняў. Многія прыйдуць ад імя Выратавальніка, каб спакусіць душы людзей. Вернуцца тыя лжэпрарокі, якія ўжо спрабавалі падпарадкаваць сабе свет — «Белае Брацтва», секта «Секо Асахары» і інш.

Пачатак года ў сатанінскі месяцавы дзень дае ўзмацненне цкавання ў грамадстве, агрэсіі ў людзях. Трэба пазбягаць сутыкнення з натоўпам, не паддавацца на правакацыі. Чарговая хваля масавай замежнай культуры прынясе з сабой шмат бруду і цяжкавырашальных праблем. Тым не менш, усе гэтыя цёмныя праявы не будуць падтрыманы, і грамадскага рэзанансу не ўзнікне. Але не варта губляць пільнасці. Граніцы паміж дзяржавамі пачнуць знікаць, і нацыяналістычная ідэя ўжо не зможа згуртаваць вакол сябе якія-небудзь сілы. Узмоцніцца тэндэнцыя панславізму, аб'яднання славянскіх дзяржаў.

Многія амбіцыйныя асобы ў будучым годзе зноў будуць імкнуцца да ўлады, прычым гэта будуць людзі, якія мелі ўладу раней, і прагнуць вярнуць яе назад. Зноў усплываюць ужо забытыя імёны і асобы. Іх час адышоў, і вяртанне будзе часовым.

Нас чакае даволі непрадказальны час яшчэ і таму, што з'явіцца чарговая камета — камета Лоранца. Мяркуючы па ўсім, з яе паяўленнем будзе звязаны пачатак крушэння дзяржаў, якія раней лічыліся несакрушальнымі. Многія з іх акажуцца калосамі на гліняных нагах. Гэтая ж камета выкліча серыю пажараў, будуць гарэць лясы — у адрозненне ад мінулага года, калі камета Хейла—Бопа прынесла бясконцыя ліўні і патопы.

Для Беларусі ж, акрамя лясных пажараў, існуе рэальная небяспека катастрофы на чыгунцы ў канцы студзеня—пачатку лютага, як мяркуецца, у Баранавічах ці Оршы, звязаная з сутыкненнем пасажырскага поезда з саставам з гаручымі рэчывамі. Неабходна прыняць меры, каб прадухіліць гэтую жудасную трагедыю. У пачатку лютага нас чакаюць таксама фінансавыя ўскладненні ў фінансавай сферы, выкліканыя адгалоскамі грашовай рэформы ў Расіі, хоць яны і не будуць мець асаблівых наступстваў.

Становішча Чорнага Месяца — паказчыка зла — у знаку Шаляў у гараскопе Наўруза (новага года) паказвае самы сур'ёзны вузел праблем, на які трэба звярнуць асаблівую ўвагу. У тым ліку ў сферы заканатворчасці, правасуддзя, што перашкаджае нармальнаму развіццю грамадства. Не дазваляйце сабе прымаць удзел у авантурах, якія могуць прывесці да парушэння закона. Вас могуць несправядліва асудзіць за ўчынкі, якіх вы не ўчынялі, і неабходна быць уважлівымі да выканання ўсіх фармальнасцяў. Асабліва гэта датычыць людзей, якія нарадзіліся пад знакам Шаляў — яны ў найбольшай ступені падвергнуты спакусе. Белы ж Месяц — паказчык Святла — знаходзіцца ў знаку Дзевы, што ўказвае на развіццё навукі, медыцыны, хіміі. Таму ў надыходзячым годзе наўрад ці можна чакаць успышкі хвароб ці эпідэмій. Асаблівую, светлую ролю трэба будзе адыграць людзям, якія нарадзіліся пад знакам Дзевы.

Год будзе адзначаны і фатальным звяржэннем дзяржаўных дзеячаў (праўда, прэзідэнту Беларусі гэта не пагражае, хоць і для яго год будзе надзвычай напружаным), а таксама вялікай колькасцю масавых катастроф, у тым ліку водных. У той жа час усё дрэннае будзе пераходным, і хутка скончыцца.

Такім чынам, надыходзячы год будзе не такім лёгкім, як хацелася б, але не беспрасветным. Асаблівую ўвагу трэба ўдзяліць сям'і, дзецям. У гараскопе Наўруза Месяц, які кіруе мацярынствам, дзяцінствам, сям'ёй, знаходзіцца ў верхняй кульмінацыі. Светлыя сілы дадуць падтрымку, і калі ў вас штосьці не клеіцца ў сям'і — пастарайцеся зрабіць крок насустрач адзін аднаму. Велізарная роля ў надыходзячым годзе будзе належаць жанчыне. Узрасце колькасць «свабодных шлюбаў», адносіны будуць усё больш нефармальнымі.

У многіх з'явіцца нечаканы шанц на працягу года для новых формаў заробку, аднак будзьце асцярожнымі — гэта таксама можа быць спакусай для вас. Не захапляйцеся азартнымі гульнямі — вам можа пашанцаваць, але ў канчатковым выніку ёсць рэальная небяспека страціць значна больш. Трэба быць уважлівымі да любой дробязі, стварыць для сябе сваю сістэму каштоўнасцяў, тады вы атрымаеце абарону. Няดрэнна заняцца вывучэннем навук і адмовіцца ад лішкаў містыкі, ад ілюзій, разабрацца ў сабе.

Тыя, хто захоўвае ў сабе прынцып добрых думак, непрымання зла, не застанецца без падтрымкі вышэйшых сіл у наступным годзе.

**Прагноз падрыхтаваны для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

## Старонка Паўла Глобы

### 1 студзеня, чацвер

**Рэкамендацыі**. Спрыяльны час для падпісання важных дакументаў і пачатку працяглых камандзіровак, далёкіх паездак. Дзень, добры для спраў, якія патрабуюць хуткага выканання. Але не варта прымаць паспешлівых рашэнняў і перагружаць сябе работай. Добра пачаць цыкл навучання. Пры магчымасці пагуляйце сёння па лесе ці парку, не сядзіце ўвесь дзень дома. Не прыбірайце дома, каб не ўздымаць пылу. Рэкамендуецца канцэнтрацыя на сваіх каранях і вытоках. Успомніце мінулае, сваіх продкаў. Імкніцеся шмат не спаць, не глядзіцеся ў люстэрка. Проціпаказаны застоллі і сексуальныя кантакты.

**Адзенне.** Сёння добра мяняць адзенне, апранацца ва ўсё новае і чыстае. Рэкамендуюцца белыя, жоўтыя, аранжавыя і цёмна-чырвоныя тоны. Адмоўцеся ад усіх цёмных тонаў, шэрага і блакітнага колераў.

**Прыметы.** Калі на вас падае пяро птушкі, — да ўдачы ў матэрыяльных справах. Рэзкі вецер у спіну можа быць указаннем на тое, што вы адварочваецеся ад сваёй удачы. Калі да вас у гэты дзень прыліпае гразь ці вас нехта выпацкае, нават міжволі, — знак унутранага апаганення.

**Сны.** Усе добрыя і прыемныя сны могуць здзейсніцца з дакладнасцю да наадварот. Бачыць птушак, у прыватнасці пеўня, — знак выпрабаванняў, а лятаць у сне — да пераадолення небяспекі.

**Медыцына.** Найбольш слабыя шыя, горла, вочы. Проціпаказаны аперацыі на нагах і суставах. Нельга прымяняць новыя метады лячэння і новыя лякарствы. Спрыяльны час для лячэння сэрца.

### 2 студзеня, пятніца

**Рэкамендацыі.** Будзьце ў прыўзнятым настроі. Больш весялосці і радасці! Прытрымлівайцеся закона і справядлівасці ва ўсіх справах. Проціпаказаныя хлусня і хітрасць. Можна распачынаць сёння цяжбу за справядлівае рашэнне. Добра абменьвацца інфармацыяй і вопытам. Удзяліце час дзецям, зрабіце ім падарунак, больш займайцеся і гуляйце з імі. Карысныя заняткі спортам, умацаванне фізічнага цела. Асаблівую ўвагу ўдзяліце ежы. Проціпаказана галаданне і ўжыванне любой свежыны. Трэба наесціся, але не пераядаць. Аддайце перавагу малочным прадуктам, мёду і садавіне. Не ешце шмат салодкага. Нельга галіцца і стрыгчыся. Спрыяльныя шлюбныя кантакты.

**Адзенне**. Не рэкамендуецца светлае адзенне. Прытрымлівайцеся строгіх колераў, аддайце перавагу цёмным, шэрым тонам.

**Прыметы**. Калі вы ніяк не можаце прачнуцца — значыцца сумленне ваша чыстае. Знайсці дробны металічны прадмет — да шчасця, удачы, кахання. Выпадкова ўкалоцца нечым, парэзацца ці апарыцца — знак таго, што вас можа пакінуць удача. Калі ўпала сумка ці капялюш, — да матэрыяльных страт.

**Сны.** Амаль усе сны ў гэты дзень лічацца пустымі, асабліва тыя, якія сняцца ў сонечнае надвор'е. Рэалізуюцца вельмі хутка, на працягу 1-2 сутак.

**Медыцына.** Сёння добра рабіць травяныя настоі. Неспрыяльны час для аперацый і працэдур, звязаных з нагамі, органамі пачуццяў, печанню і вачамі. Добра лячыць сэрца і кішэчнік.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

*Вось ужо больш месяца наша газета друкуе штодзённыя прагнозы Паўла Глобы для чытачоў «Звязды». Па просьбе рэдакцыі супрацоўнікі астралагічнага цэнтра «АРБА», якія рыхтуюць іх да друку, сустрэліся са знакамітым астролагам і задалі яму некалькі пытанняў.*

*Першае, вядома ж, датычылася «Старонак Паўла Глобы».*

*— Гэтыя рэкамендацыі разлічаны на людзей, якія жывуць у нармальным фізіялагічным рэжыме. Скажам, для хворых, што выйшлі са звыклых жыццёвых рытмаў, парады могуць аказацца і не вельмі прымальнымі. Строга індывідуальным для канкрэтнага чалавека, канечне ж, з'яўляецца толькі яго персанальны гараскоп, які трэба складаць з улікам усіх асабістых параметраў. А прагнозы, як працяг даўняй авестыйскай традыцыі, павінны служыць інфармацыяй да роздуму.*

*— Не можам не выкарыстаць нашу сустрэчу, каб не задаць пытанне, што сёння «на слыху». Параўнальна нядаўна малады расійскі вучоны Андрэй Сапелкін, які вывучае спадчыну Настрадамуса, «убачыў» у яго катрэнах пагрозу новай сусветнай вайны. Яе ачагамі прадказальнік быццам бы назваў Балканы, Блізкі Усход і «масы, сцягнутыя да Аквілона». Паводле Настрадамуса, Аквілон — Расія. Вучоны сцвярджае, што на ўвазе маецца не што іншае, як пашырэнне НАТО на Усход.*

*— Усё тлумачыцца дрэнным перакладам. Настрадамус, што называецца, «прыцягнуты за вушы». На самай справе ў астролага ўсё настолькі зашыфравана, што зразумець яго прадказанні можна толькі пасля самой падзеі. Я не лічу, што будзе трэцяя сусветная вайна. Не трэба перабольшваць і значэнне пашырэння НАТО на Усход. Вельмі хутка НАТО як арганізацыя перастане існаваць. У краінах гэтага альянсу чакаецца вельмі цяжкі ўнутраны эканамічны крызіс. Ім ужо будзе не да таго, каб кудысьці пашырацца. Яны будуць думаць аб самазахаванні.*

*— Што чакае Беларусь і Расію ў наступным годзе?*

*— Год складаны для эканомік абедзвюх краін. У Расіі гэта можа адчувацца ўжо ў лютым, у Беларусі — крышку пазней, у сакавіку-красавіку...*

*Што ж, астролагі заўсёды падкрэсліваюць, што не варта ўспрымаць іх прагнозы фатальна, і што іх справа — папярэдзіць. Каб людзі, загадзя валодаючы інфармацыяй, маглі паўплываць на ход падзей і змяніць іх у патрэбным для сябе накірунку.*

# ГОД ДЭЛЬФІНА НЯСЕ МІР...

**Надыходзячы 1998 год па авестыйскім календары прысвечаны чырвонаму Дэльфіну. Авестыйскі 32-гадовы каляндар (па старажытным цыклу Сатурна) у будучым годзе пераклікаецца ў пэўнай ступені з 12-гадовым усходнім (па цыклу Юпітэра), татэмам якога з'яўляецца чорны Тыгр. Год Дэльфіна пачынаецца 21 сакавіка на ўзыходзе Сонца, хоць яго асноўныя характарыстыкі праявяцца ўжо зімой, а ўсходні год Тыгра — 28 студзеня. Самыя модныя колеры для сустрэчы Новага года — спалучэнне чырвонага і чорнага.**

### *Свету...*

Год Дэльфіна з'яўляецца годам падарожжаў, спрыяе адкрыццю новых зямель. У свой час у год Дэльфіна быў пакладзены пачатак першага кругасветнага падарожжа Фернанда Магелана, які дабраўся да Філіпінскіх астравоў. Менавіта ў такі год (1774 г.) Расія атрымала свабоду плавання па Чорным моры.

У год Дэльфіна перамагае розум, праяўляюцца агульначалавечыя ідэі. У 622 г., з'явілася невядомая ідэалогія ў форме новай рэлігіі — ісламу (літаральна «пакорлівасць»). І ў надыходзячым годзе іслам заявіць аб сабе: у канцы мая—пачатку чэрвеня 1998 года не выключаны актыўныя ваенныя дзеянні ЗША супраць аплоту ісламу ў сучасным свеце — Ірака. Іран таксама можа быць уцягнуты ў канфлікт. Гэта выкліча аб'яднанне арабскіх сіл у магутны ісламскі саюз, які ў наступны заваявальны год распаўсюдзіць свой уплыў. У Афганістане ў чарговы раз зменіцца ўлада.

У год Дэльфіна — 1198 г. — быў створаны Тэўтонскі ордэн у Палесціне, які пачаў заваяванне Прусіі, Прыбалтыкі. На тэрыторыі апошняй потым узнікла буйное тэрытарыяльнае княства, якое ўвайшло ў гандлёвы саюз «Вялікая нямецкая Ганза». Аб'яднаная Германія умацоўвае свой уплыў, а заслугі Латвіі прызнае міжнароднае супольніцтва. Верагодна, што мы станем сведкамі саюза Германіі і Латвіі.

Дэльфін — крыніца міру, дапамогі людзям. Расія падпісвала мноства мірных пагадненняў менавіта ў гэтыя гады. 1998 год адзначаны важнымі рэлігійна-ідэалагічнымі крокамі Ватыкана, накіраванымі на кардынальныя змены ў становішчы царквы, што ліквідуе многія секты і лжэвучэнні. Аднак у Паўднёвай Амерыцы ў лютым-сакавіку можа з'явіцца чалавек, здольны нанесці сваімі па сутнасці разбуральнымі негатыўнымі дзеяннямі моцны ўдар па царкве. У гэтым годзе можа атрымаць вядомасць прадказальніцы і духоўнай настаўніцы незвычайная жанчына, народжаная пад знакам Дзевы.

Але, верагодна, праявіцца і антытатэм года, які ўвасабляе ў сабе злосную Акулу — Злую Думку, што пажырае ўсё без разбору. Акуле неабходны вечны рух, бессэнсоўныя разбурэнні, рэвалюцыі і войны. У такі год у далёкія часы было стыхійнае сялянскае паўстанне Жакерыя ў Францыі, і вядомы ташкенцкі землятрус 1966 года. На тэрыторыі Філіпін, Малайзіі і Інданезіі магчымыя марскія катастрофы ў гэтым годзе, а таксама стыхійныя бедствы, выкліканыя падземнымі штуршкамі. Сейсманебяспечная сітуацыя складзецца летам і ў Грэцыі, а ў другой палове жніўня—пачатку верасня, калі адбудзецца абвастрэнне, можа пацярпець і Балгарыя. Дарэчы, сацыяльна-палітычнае становішча ў гэтай краіне вельмі моцна зменіцца. А канфлікт паміж Грэцыяй і Турцыяй далёка не вычарпаны. Ля берагоў Грэцыі верагодная гібель суднаў у канцы лета. Іран, як і Турцыя, ужо ўступіў у палітычную і рэлігійную барацьбу за кантроль над мусульманскімі дзяржавамі Сярэдняй Азіі, і гэты місіянерскі год будзе выкарыстаны для зацвярджэння там сваіх пазіцый.

Пэўны штуршок у сваім развіцці атрымае Аўстралія. У пачатку наступнага стагоддзя мы будзем гаварыць пра «аўстралійскі цуд».

У Беларусі самыя буйныя палітычныя падзеі адбудуцца ў канцы жніўня — пачатку верасня, а кастрычнік увойдзе ў гісторыю нашай рэспублікі.

### *... і сям'і*

Але якія б узрушэнні ні адбываліся ў свеце, вечнымі каштоўнасцямі застаюцца дом, сям'я, родныя і блізкія людзі.

Самымі ўдачлівымі ў 1998 годзе аказваюцца народжаныя пад знакамі Рыб, Рака, Дзевы, Цяльца. Настаў іх час праяўляць ініцыятыву, пашыраць сферу дзейнасці, набываць папулярнасць і сустракаць святы.

Цудоўнымі кахаючымі і каханымі людзьмі, папулярнымі і прызнанымі становяцца Скарпіёны, Цяльцы, бліжэй к канцу года — Блізняты. А для Дзеў, Рыб у канцы года і Авенаў спрыяльныя стварэнне ці ўмацаванне шлюбных вуз і саюзніцкіх адносінаў, іх судовыя справы будуць вырашацца добра. У Вадалеяў да сакавіка яшчэ ёсць шанц пабудаваць выдатную сям'ю.

Паляпшэнне матэрыяльнага дабрабыту чакае Львоў, Вадалеяў, у канцы года — Дзеў.

Выдатная кар'ера і моцныя апекуны «пагражаюць» Блізнятам, Стральцам, Шалям, у канцы года — Казярогам.

Зусім верагодна, змогуць набыць кватэру ці нерухомасць Блізняты, Стральцы, а ў канцы года — Ракі, якія, магчыма, знойдуць шчасце ўдалечыні ад радзімы.

На апеку і схільнасць сяброў, шчаслівы выпадак і неардынарныя праекты могуць разлічваць Цяльцы, Скарпіёны, Вадалеі.

На ўсталяванне перспектыўных кантактаў, паспяховы ўдзел у палітычнай ці грамадкай дзейнасці, ажыццяўленне славалюбівых задум і планаў на замежныя паездкі прэтэндуюць Казярогі, Ракі, Стральцы, у канцы года — Вадалеі.

Умацаванне здароўя, вылячэнне ад небяспечных хвароб больш за ўсё спрыяе Авенам, Вадалеям.

Рэкамендую адкласці авіяпералёты ў перыяд канца жніўня — пачатку верасня, асабліва з 3 па 6 верасня, а таксама з 27 красавіка да 3 мая. Для ўсіх, але ў кожнага ў сваёй галіне, найбольш небяспечнымі і неспрыяльнымі могуць аказацца перыяды ў самым канцы мая — пачатку чэрвеня і ў канцы жніўня — пачатку верасня, калі непажадана «лезці на ражон», трэба захоўваць асцярожнасць і спакой, прымаць толькі добра абдуманыя рашэнні.

Для тых, хто ў жыцці верыць у лепшае і імкнецца наперад у сваім развіцці, заўсёды наступаюць добрыя часы. Жадаю вам у новым годзе добрых часоў.

**Вераніка КУДРАЎЦАВА, астролаг.**

## СЁННЯ

**МЕСЯЦ**
**Маладзік 29 снежня. З 9.58 Месяц — у сузор'і Вадалея.**



**ІМЯНІНЫ**
**Пр. Ваніфацыя, Іліі, Цімафея, Грыгорыя К. Мечыслава**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, ва ўсходніх раёнах ападкі, пераважна снег. Тэмпература паветра ў Брэсце, Гродне і Мінску — 1—3, Віцебску, Магілёве — 0—2 градусы марозу, Гомелі — каля нуля.

У наступныя двое сутак часам ападкі, толькі ў ноч на 1 студзеня пераважна без ападкаў, месцамі туман, галалёд. Тэмпература 1-га ўначы — 1—6 градусаў марозу; удзень — мінус 3—плюс 2; 2-га ўначы і ўдзень — 0—5 градусаў цяпла.

**Тэма алкаголю напярэдадні Новага года звышактуальная. Што піць — справа густу і кашалька. Памятаю свой невялікі шок, калі ў кампаніі банкіра і міністра (абодва, праўда, ужо былыя) піў самагон. Па іхняй прапанове. Напой быў добры, а тыя, занюхваючы хлебам, казалі: лепей за ўсякія «абсалюты». Я згодна ківаў галавою.**
**А нядаўна даведаўся, што дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Пётр ЖУШМА выступіў за легалізацыю вырабу самагону.**
**Па тлумачэнні я і звярнуўся да яго.**

# ДЭПУТАТ ЖУШМА – ЗА САМАГОНКУ. АЛЕ СУПРАЦЬ ГАНДЛЮ ЁЮ.

— Рашэнне выступіць з такой прапановай не было спантанным, — пачаў Пётр Яўгеnavіч. — Абмяркоўваўся Закон «Аб дзяржаўным рэгуляванні вытворчасці, абароту і спажывання алкагольнай прадукцыі». Яшчэ ў пачатку года я ўнёс папраўку ў артыкул 10 законапраекта, у якім гаварылася пра забарону вырабу брагі, самагону і іншых моцных алкагольных напіткаў у хатніх умовах. Я ж, наадварот, прапанаваў дазволіць. Ва Украіне ўжо два гады існуе ліцэнзаванне на выраб самагону для асабістага карыстання. Хто не бярэ ліцэнзію, а працягвае выраб, атрымлівае адміністрацыйнае спагнанне ў выглядзе вялікіх штрафаў. Продаж самагону забаронены, крымінальная адказнасць — ад 2 да 8 гадоў пазбаўлення волі. Я цікавіўся вынікамі такога рашэння. Высветліў: колькасць самагоншчыкаў знізілася, менш стала алкагольных атручэнняў.

***— Але ж мы ведаем мноства выпадкаў, калі такое здараецца пасля ўжывання магазіннай гарэлкі. Што ўжо казаць пра самагон.***

— Не сакрэт: зробленая на добрым апараце і з добрых прадуктаў хатняя самагонка лепш за заводскую. Чалавек сам сябе труціць не будзе. Папраўка мая гучала так: «Выраб у мэтах асабістага спажывання брагі, самагону, іншых моцных алкагольных напіткаў хатняй выпрацоўкі ажыццяўляецца ў Рэспубліцы Беларусь на аснове ліцэнзіі, якую выдаюць органы мясцовай улады». Прапаноўваючы гэта, я кіраваўся двума меркаваннямі. Па-першае, самагон гналі, гоняць і будуць гнаць. Для славянскіх народаў гэта стала адной з нацыянальных традыцый. Ніякія забароны гэтаму не маглі перашкодзіць. Сёлета органамі ўнутраных спраў выяўлена 17.210 месцаў вырабу самагону. Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 19.130 чалавек. Канфіскавана спіртных напіткаў хатняй выпрацоўкі 231.610 літраў і 3784 самагонныя апараты. Да крымінальнай адказнасці прыцягнуты 594 чалавекі. У сапраўднасці гэтую лічбу можна павялічыць у 20 разоў. Тут усё залежыць ад волі ўчастковага. Сёння ж на вёсцы «вадкай валютай» разлічваюцца за любую работу. Многія з гэтага багацеюць, чаго дапускаць нельга. Па-другое, рэгуляванне праз ліцэнзаванне, на мой погляд, стане эфектыўнай формай кантролю з боку дзяржавы.


Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

***— І што калегі? Падтрымалі?***

— Некаторыя ў сваіх выступленнях пачалі абвінавачваць мяне. Маўляў, хачу падарваць генафонд нацыі. Другія выказвалі клопат, каб у такім выпадку не зменшыўся выраб гарэлкі вытворчымі прадпрыемствамі, што пацягне за сабою скарачэнне паступленняў у бюджэт.

***— Ёсць рацыя.***

— Няма. Сёння і так гоняць самагонку. З выдачай ліцэнзій колькасць самагоншчыкаў не павялічыцца. Напэўна, многія ёю гандляваць не будуць, бо атрымаўшы вялікі штраф, задумаюцца. А ўвогуле, калі будзе меншае спажыванне ў краіне заводскай гарэлкі, няхай вытворцы вязуць яе на экспарт.

***— Можа, трэба проста зрабіць больш жорсткім кантроль?***

— Забараняць? Нельга, бо мы выклічам толькі нездаволенасць людзей, а гнаць гарэлку будуць. Знойдуць выйсце.

***— А як выдаваць ліцэнзію? Работнікам санстанцыі каштаваць кожны прадукт?***

— Гэта лішняе. Чалавек жа не на продаж выробляе, не стане труціць сябе і родных. Ліцэнзія павінна каштаваць не больш за адну мінімальную зарплату.

***— Дык было галасаванне?***

— Так. Галасы «за» і «супраць» падзяліліся прыкладна напалову (22 і 24). Астатнія ўстрымаліся.

***— Відаць, на гэтым не спыніцеся?***

— Я падрыхтаваў пакет дакументаў у Савет Міністраў. Прапаную ў адным з раёнаў Брэсцкай вобласці правесці эксперымент. Выраб самагону не трэба блытаць з п'янствам, якое ад жыццёвых праблем. Па ўсім свеце п'юць, і не менш. Мы проста піць не ўмеем. Дарэчы (не ведаю, ці праўда) казалі: маёй прапановай зацікавіўся Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка.

**Гутарыў Міхась БЕРАСТ.**

## Новы год без шампанскага

*Гумарэска*

У дваццаць тры гадзіны 31 снежня, калі надышоў час уладкоўвацца за святочным сталом, раптам высветлілася, што не набылі шампанскага.

— Лзесяць хвілін — і справа вырашана, — адразу заявіў Сцяпан і подбегам кінуўся ў гастраном.

Але шампанскага ў продажы не было. Сцяпан трошкі патлуміў галаву загадчыцы, расказваючы байкі пра тое, нібыта ён працуе ў кантрольных органах... І ў рэшце рэшт мяккае сэрца жанчыны не вытрывала...

З бутэлькай шампанскага Сцяпан выскачыў на вуліцу.

— Ты з шампанскім, мой сябар дзяцінства? — раптам зароў на Сцяпана нейкі непаголены незнаёмец і пачаў вырываць бутэльку з шампанскім з рук Сцяпана. Але дарэмна: Сцяпан шампанскага не аддаваў.

— Вось ён! — раптам усклікнулі дзве нейкія прыгажуні і пачалі кленчыць у Сцяпана бутэльку з навагоднім напоем. Аднак Сцяпан быў цвёрды, як пік правадыра недзе ў Сярэдняй Азіі.

Хутка вакол Сцяпана сабраўся натоўп. Кожны хацеў мець да навагодняга свята бутэльку шампанскага. Нехта прасіў, нехта нахабна крычаў, нехта проста прапаноўваў вялікія грошы. Але Сцяпан нават і не думаў пра тое, каб застацца на Новы год без шампанскага.

— Хутчэй сюды! — нехта адчыніў дзверцы «Масквіча». Сцяпан не раздумваючы скокнуў у салон. Машына ад'ехала ад гастранома, а потым «рулявы» прапанаваў Сцяпану здзелку: маўляў, ты мне, Сцяпан, — бутэльку шампанскага да навагодняга свята, а я табе — гэты не зусім новы, але затое і не зусім стары «Масквічок»...

Сцяпан пачухаў патыліцу і... згадзіўся. Дамоў ён вярнуўся, зразумела, без шампанскага. Але на «Масквічы».

Праўда, радасць была нядоўгая: хутка высветлілася, што гэтую аўтамашыну ўгналі з суседняга двара...

**Уладзімір ЦВЯТКОЎ.**

## АНЕКДОТ З НАГОДЫ

*Позна ўвечары прыяцелі зайшлі да аднаго з іх дабавіць. Адкаркавалі бутэльку і раптам другі кажа:*
*— Глянь: твая жонка з нейкім мужыком спіць!*
*— Ціха... А то дзяліцца трэба будзе.*

*По вуліцы ідуць двое п'яных. Насустрач — мужчына.*
*— Слухай, — пытаюцца ў яго, — цяпер ноч ці раніца?*
*— Не ведаю, я не мясцовы.*

*Новы ўчастковы звяртаецца да бабулі на «трасянцы»:*
*— Правда лі, што вы занімаецеся самагонаварэннем?*
*— Не, варэнне ўнучкі робяць. А я для іхніх бацькоў самагоначку цісну.*

*Давай паспрачаемся, што на гэтым тыдні мой сусед гнаў самагон?*
*— Адкуль ведаеш?*
*— А ўчора ягоныя куры майму сабаку морду набілі.*



Фота Уладзіміра ФЯДОТАВА.


Малюнак Марыны ГАРЭЛАВАЙ.



Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.



Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

## Вось зноў яна выплывае...

За дзвярыма шум і смех. Там накрываюць сталы, і я сустрэну свой дзевяноста пяты, а можа і сёмы, Новы год. Калі табе стукнула дзевяноста, гэта ўжо не мае значэння. Радня думае, што дзед спіць, а я сяджу ля акна і пазіраю на вячэрні горад.

Днём я драмаў і спаў, спаў і зноў драмаў, і час нібыта спыніўся. Некалі, у пятнаццаць гадоў, калі я з сенцаў назіраў за суседкай Гэлькай, то час поўз, бо вусы ў мяне не раслі, а Гэлька цвіла. А потым час паляцеў як шалёны. Тады жонка, твару якой я і не памятаю, сказала:

— Ты, Коля, ужо як той дзед...

А цяпер часу няма, бо час — гэта я. Мы зліліся, як агні горада з зорным небам. Я гляджу ў гэтую зіхаткую прастору і не магу ўспомніць штосьці вельмі важнае. Думка выплывае, ужо амаль акрэсленая, але ў апошні момант губляе абрысы і знікае.

Дзверы адчыніліся, пстрыкнуў выключальнік, і ў пакой уваліліся сыны, нявесткі, унукі...

— А мы думалі, вы спіце, — усклікнула нявестка. Якога сына яна жонка? Старэйшага ці сярэдняга? Усе яны на адзін твар. Нявесткі рыжыя і поўныя, а сыны і зяць лысыя. А ўнукі перамяшаліся з праўнукамі. Чые яны?

— Дзед, да стала... да чаркі. Стары год праводзём... Новы сустрэнем. Баця, падымайся... без цябе нельга...

Мяне вядуць у залу. Там грукоча тэлевізар. Накрытыя сталы.

— Тата, у цябе шырынка рассупонена, — нервова кажа дачка. — Склероз у цябе...

У бацькі расшпіленая шырынка, у бацькі склероз.

— Ну, дзед, ты... забыў, які дзень сёння...

А што мне дзень! Час — гэта не дзень і не месяц. Ён не пачынаецца і не канчаецца. Хто адчуў час, той... Я забыўся пра шырынку, але сустрэўся з Эклезіястам. Мы сядзелі пад кедрам і глядзелі, як чырвоны дыск сонца тоне ў Іардане. І цар сказаў штосьці важнае. Я стараюся ўспомніць, мудрасць выплывае...

— Дзед, ты зноў заснуў, — штурхае мяне ўнучка. Яе прыставілі прыглядаць за мной, і гэта яе моцна нервуе. — Ты, дзед, зусім...

Келіхі поўныя. Устае мой старэйшы, а можа малодшы, сын і доўга гаворыць, трымае келіх...

— Дзед, ну ты зусім... блін, не спі... Бяры келіх.

Шампанскае ўдарыла ў галаву, і ў вачах пасвятлела.

— Дзед, што табе пакласці? Салату будзеш?

— Буду.

Гарох танцуе па талерцы, і я бяру з салатніцы лыжку.

— Ну, дзед...

Падымаю ад талеркі вочы і бачу: насупраць сядзіць дзяўчына. Вылітая Гэлька-суседка. Але ж яна здаецца ўжо... а мо і не...

— Ты, Гэлька Кунчыкава? — пытаюся, нахіліўшыся праз стол.

— Гэта ж жонка нашага Толіка... Ліра... — тузае за світэр унучка. — Ну, блін, ты, дзед, зусім... Гэлька.

— А зараз тост скажа наш патрыярх. Ён даў жыццё, пусціў на свет...

— Сапраўды, пусціў... Хай гаворыць... Дзед, устань... — пачуліся галасы.

На гэты раз рука не дрыжэла і гарэлка ў чарцы — як люстэрка. І зноў усплыла думка. І я выказаў бы яе, ды толькі выкрык — «Баця, не маўчы» — збіў мяне з панталыку.

— Я не думаў, што дажыву... і вось тут сабраліся ўсе... аднаго кораня...

І тут за сталом зашумелі і засмяяліся.

— Правільна, баця. Усе ад твайго кораня... Давайце вып'ем за дзедаў корань... Маладзец, дзед...

Радня пацягнулася да мяне чокацца, і гарэлка ў маёй чарцы зноў заплясказлася.

Пасля выпітай гарэлкі я падаўся да Гэлькі, бо ўспомніў, як мы... Але чамусьці споўз са стула, і радня выцягнула мяне з-пад стала. Усе зноў смяяліся, а ўнучка абуралася:

— Напаілі дзеда, блін. Навошта налівалі па поўнай? Вы і з Новага года цырк зробіце...

І павяла мяне дачка ў спальню. Я лёг і заплюшчыў вочы. І зноў з'явілася думка. Вельмі важная для людзей.

— Тата, не забывай пра вутку, а то будзе, як у мінулы раз... — голас дачкі даляцеў далёкім рэхам, але ён не датычаў мяне.

Я сканцэнтраваў усю ўвагу на думцы, якую павінен яшчэ данесці да ўсіх...

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

## ШЧЫРАЕ ВІНШАВАННЕ СЯБРАМ «ЗВЯЗДЫ»

**Мінулы год быў своеасаблівым: многія прадпрыемствы краіны ўздыхнулі з палёгкай, людзі адчулі перспектыву і яшчэ з большай надзеяй глядзяць у будучыню. А гэта, пагадзіцеся, вельмі важна. Асаблівыя нашы віншаванні тым працоўным калектывам, якія не скарыліся перад цяжкасцямі, а паступова набіраюць разгон для далейшых творчых поспехаў. Сярод іх:**

***завод «Магілёўтрансмаш»*** **(дырэктар Валерый Чарткоў),** ***Лідскі завод электравырабаў*** **(дырэктар Іван Каўчуга),** ***Магілёўскае ВА «Хімвалакно»*** **(генеральны дырэктар Іван Ефанаў),** ***Жодзінскае акцыянернае таварыства «Світанак»*** **(дырэктар Уладзімір Астроўскі),** ***Магілёўскае ВА «Тэхнапрыбор»*** **(генеральны дырэктар Віктар Шорыкаў),** ***Рагачоўскі малочна-кансервавы камбінат*** **(дырэктар Барыс Рэва),** ***Магілёўскі аўтамабільны завод*** **(дырэктар Аляксандр Лакіза),** ***Рагачоўскі завод безалкагольных напояў*** **(дырэктар Міхаіл Миронаў),** ***Магілёўскі металургічны завод*** **(дырэктар Арнольд Бандарук),** ***Лідскае вытворчае аб'яднанне «Лакафарба»*** **(дырэктар Мікалай Слаута),** ***Магілёўскае акцыянернае таварыства «Стужка»*** **(дырэктар Ніна Пятрова),** ***вытворчае аб'яднанне «Мостадрэў»*** **(дырэктар Віктар Буры),** ***Магілёўскі завод «Строммашына»*** **(дырэктар Юрый Крывянок),** ***вытворчае аб'яднанне «Беларускі аўтамабільны завод»*** **(генеральны дырэктар Павел Марыеў),** ***АТ «Пріорбанк»*** **(старшыня праўлення Сяргей Касцючэнка),** ***Магілёўскае арэнднае прадпрыемства «Чырвоны металіст»*** **(дырэктар Мікалай Тапуноў),** ***Беларускае вытворчае аб'яднанне «Белвар»*** **(генеральны дырэктар Мікалай Ярохаў),** ***Магілёўскае арэнднае прадпрыемства «Магатэкс»*** **(дырэктар Уладзімір Дзямідаў),** ***Ваўкавыскае адкрытае акцыянернае таварыства «Беллакт»*** **(прэзідэнт Уладзімір Лукашэвіч),** ***АТ «Мінскі маргарынавы завод»*** **(галоўны інжынер Г. А. Гінзбург),** ***Смілавіцкая валяльна-лямцавая фабрыка*** **(дырэктар В. М. Сабан),** ***Беларускае картографа-геадэзічнае аб'яднанне «Белгеадэзія»*** **(генеральны дырэктар М. Дз. Аўраменка),** ***аграпрамысловае прадпрыемства «Чэрвеньскае»*** **(старшыня В. І. Галаўнёў),** ***СП «Смілавіцкі гарбарны завод»*** **(дырэктар В. І. Шчуркін),** ***арэнднае прадпрыемства «Усход»*** **(дырэктар Т. Э. Філіпава),** ***Мінскае сервісна-камерцыйнае прадпрыемства «Чайка»*** **(дырэктар Л. М. Лагоша).**

**Вам, паважаныя працаўнікі, — здзяйсненняў вашых планаў і ў новым, 1998 годзе. Няхай ён будзе для вас годам радасці і шчасця. Верым, яно так і будзе!**

***Калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».***

# ПОЙДЗЕМ РАЗАМ І ДАЛЕЙ.

## Гэтак жа дружна. І аблегчым наша жыццё сваімі адносінамі да яго

Толькі ўчора мы падлічылі тыраж новага, 1998 года, і, шчыра скажу, адчулі сябе быццам імяніннікі: «Звязда» захавала былых чытачоў і набыла новых! Гэта радасна. Прыбаўка да штодзённага тыражу склала амаль сем тысяч. Прызнаемся, для нас, журналістаў, гэта і ёсць самы галоўны навагодні падарунак. Таму сёння, у гэты пераднавагодні дзень, мы кажам вам, паважаныя чытачы, вялікі дзякуй за давер і любоў — паверце, гэта ўзаемна! Толькі разам, узаемнымі намаганнямі мы зробім «Звязду», як, дарэчы, імкнуліся рабіць і раней, выданнем, якое не збіваецца на дробязі, не крывадушнічае, не ўзносіцца высока над вашымі трывогамі. Што ж, пойдзем разам і далей. Гэтак жа дружна. Будзьма!

Мы таксама вырашылі не пакідаць вас, дарагія нашы сябры, без падарункаў (які ж Новы год без іх?). Таму ў перадапошні дзень года адыходзячага правялі розыгрыш латарэі. Дарэчы, у ёй удзельнічаў кожны сёмы падпісчык газеты. Падкрэслю, што верагоднасць выйгрышу ў «Звяздзе» ў некалькі разоў большая, чым у іншых рэспубліканскіх выданнях. **Галоўны наш прыз — БЫЧОК — дастаўся Мікалаю ВАЛЮШКУ з горада Жлобіна.**

Уладальнікамі астатніх сарака чатырох прызоў сталі:

**ТЭЛЕВІЗАР**

**Рыгор ЯРАШУК** (Пружанскі раён, в. Мурава).

**ДЫВАН**

**Зінаіда ЛАЗОЎСКАЯ** (г. Навагрудак).

**АЎТАМАГНІТОЛА**

**Васіль СТРАЛЬЧЭНЯ** (Ганцавіцкі раён, в. Будча).

**РАДЫЁПРЫЁМНІК**

**Аркадзь ЗАРЭЦКІ** (г. Буда-Кашалёва).

**ВЕЛАСІПЕД**

**Алена ГАПАНОВІЧ** (Ляхавіцкі раён, в. Ліпск).

**НАБОР ДЛЯ ВАННАГА ПАКОЯ**

**Наталля КОЙДА** (г. Навагрудак), **Сямён ФЛЯЙТО** (Навагрудскі раён, в. Радагошча), **Любоў ДУБОЎСКАЯ** (Капыльскі раён, в. Зарэчча).

**ПЛІТА ГАЗАВАЯ НАСТОЛЬНАЯ**

**Алена ДЗЯДЗЮЛЯ** (Глускі раён, в. Балашэвічы), **Марыя ЦІХАНОВІЧ** (Мінскі раён, п/а Прылукі).

**ЛЮСТРА**

**Дзмітрый МАКАЕД** (Салігорскі раён, в. Дубіца), **Лідзія ЛАМАНОСАВА** (Добрушскі раён, в. Кругавец).

**НАСТОЛЬНАЯ ЛЯМПА**

**Наталля НІНУА** (Калінкавіцкі раён, в. Дудзічы), **Наталля ДРАГУН** (Шчучынскі раён, в. Новы Двор).

**ЭЛЕКТРАМІКСЕР**

**Лідзія ЖАДЗЕЙКА** (Глыбоцкі раён, п/а Стрынадкі), **Вольга ПРЭНЗАВА** (г. п. Бялынічы), **Алена САРОКА** (г. Мінск), **Люцыя КУЛЕШ** (Мііёрскі раён, п/а Забалоцце), **Эма ПЫЖЫК** (Мінскі раён, в. Брадок).

**АБУТАК**

**Аркадзь КАНДЫБА** (Шчучынскі раён, в. Ліпічанка), **Вера ЛАЎЦЭВІЧ** (Глыбоцкі раён, в. Прыпернае), **Іван БАРЫСАВЕЦ** (Слуцкі раён, в. Сярагі), **Марыя ПАКЛАДОК** (г. Маладзечна), **Рыгор ДУБІНА** (Слуцкі раён, в. Вясея).

**БРА**

**Ніна АСТРОЎСКАЯ** (г. Мінск), **Мікалай БУЛІЦКІ** (Бярэзінскі раён, в. Казлоў Бераг), **Фёдар СКУРЧАЕЎ** (Светлагорскі раён, в. Мікалаеўка), **Пётр ПІЛІМОН** (Глыбоцкі раён, в. Гаранкі), **Міхаіл КАНАПАЦКІ** (Лунінецкі раён, в. Лахва), **Таццяна ШЭРШАНЬ** (Мастоўскі раён, в. Руда-Ліпічанская), **Іван ЛЕГУНОЎ** (Слаўгарадскі раён, в. Рабовічы).

**ГАДЗІННІК З ЭМБЛЕМАЙ «ЗВЯЗДЫ»**

**Аляксандра СУПРЫНОЎСКАЯ** (Слуцкі раён, п/а Кірава).

**ФІРМОВАЯ СУМКА-ПОЯС**

**Нэла МАЦКЕВІЧ** (г. Смаргонь), **Ніна РЫБАК** (Капыльскі раён, в. Свідзічы).

**ФІРМОВЫ ПАРАСОН**

**Пётр ЗАВАДСКІ** (Жлобінскі раён, пас. Лукскі), **Любоў БУЯН** (Нясвіжскі раён, в. Сноў).

**ФІРМОВАЯ СУМКА**

**Іна ДЗЕМІДОВІЧ** (г. Смалявічы).

**ПАДПІСКА НА ГАЗЕТУ «ЗВЯЗДА»**

**Антон ЖДАНОВІЧ** (Асіповіцкі раён, п/а Жорнаўка), **Мікалай ШЫНКЕВІЧ** (Шчучынскі раён, в. Малыя Пугачы), **Дзмітрый СУКАЧ** (Ганцавіцкі раён, в. Дзяніскавічы), **Аксана ШАРАГ** (Міёрскі раён, в. Мікалаева), **Аляксандр ВЯСЁЛКА** (г. Мінск), **Іван КАРПОВІЧ** (Лагойскі раён, в. Туханаўка), **Тамара КАЦЮШЧАНКА** (г. Калінкавічы).

Віншуем пераможцаў! Тыя ж, хто не выйграў прызоў, перакананы, яшчэ стануць іх уладальнікамі. **ВЫПІСВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ ГАЗЕТУ «ЗВЯЗДА»!**

І яшчэ. У многіх пісьмах, якія прыходзяць у рэдакцыю, людзі ставяць пытанне: як жыць далей? Як адказаць вам на яго, паважаныя землякі? Самі, мабыць, разумееце, што гэта складана. Тым не менш, асабіста я сказаў бы так: «Жыць па-старому». Праўда, я не ўпэўнены, што ўсе зразумеюць мяне правільна і не закрычаць у адказ з абурэннем: як па-старому?! У гэтым развале, раз'яднанні, разбурэнні?.. Так-так, па-старому, жыць так, як жылі дастойныя людзі ва ўсе часы: да 17-га года і пасля, у «застой», і ў «перабудову», у вялікім Саюзе і ў незалежнай Беларусі. Кажу так таму, што большасць людзей, мяркую, жылі не па Марксу — «бытие определяет сознание...», а насуперак гэтаму «бытию». Я маю на ўвазе вас, невядомых, неславутых людзей, якія не здаваліся і не здаліся ў цяжкія часіны, а самае галоўнае — не распаліся душой. Імі, перакананы, магутная і сёння наша Беларусь!

Што ж рабіць? Адна пісьменніца сказала так: «Жыццё не можа быць настолькі цяжкім, каб яго нельга было аблегчыць сваімі адносінамі да яго». Я таксама так думаю. Толькі не трэба даваць волі нервам, эмоцыям. Лепш трэба шмат працаваць і не губляць свае дабрыню і маральнасць, якія так характэрны вам, нашы старыя і новыя чытачы.

**З Ражаством Хрыстовым, з Новым годам вас! Шчасця, здароўя і настрою вам! Дастатку сям'і і ўсёй нашай краіне. Толькі разам мы зможам добраўпарадкаваць яе. БУДЗЬМА!**

**Уладзімір АНДРЫЕВІЧ.**

**Фота Яўгена Пясецкага.**




### *НАРОДНЫ КАЛЯНДАР*

## СТУДЗЕНЬ

Старажытныя славяне называлі другі месяц зімы сечань (секчы, рыхтаваць дровы) ці просінец (просінь у небе). У старабеларускай пісьменнасці для яго абазначэння ўжывалася назва стычань, і лічыўся ён адзінаццатым месяцам года.

Сучасная беларуская назва яскрава адлюстроўвае самую халодную пару года: яна паходзіць ад слова «сцюдзёны». Рускае найменне паходзіць ад лацінскай назвы januarius — рымскі цар Нума Пампілій увёў яе ў VII стагоддзі да н. э. як прысвячэнне Янусу — богу рымлян.

За студзень дзень павялічваецца на паўтары гадзіны.

**3. Пракоп.** «Пракоп па снегу ступае, дарогу капае».

**6. Першая (посная, бедная) куцця ў праваслаўных**. Лічылася: якая куцця — такі будзе і ўраджай, які дзень — такі і год. Падмяталі падлогу, а ў наступныя дні святаў — не, каб быў чысты лён.

**Па каталіцкім календары — Тры каралі.**

**7. Нараджэнне Хрыстова ў праваслаўных.**

**8.** У некаторых раёнах гэты дзень называлі Маладзёнам, або Бабінамі. Жанчыны наведвалі ў гэты дзень бабку, якая «прымала», «бабіла» іх дзіця, неслі ёй падарункі.

**9. Сцяпан.** У мінулым іменна ў гэты дзень наймалі слуг, батракоў.

**13. Другая куцця.** Напярэдадні старога Новага года варажылі: калі вечарам неба яснае і шмат зорак — будзе ўраджай на грыбы; калі ідзе снег і мяцеліца — летам будуць раіцца пчолы.

**14. Стары Новы год, Васілле.** Калі снег у гэты дзень падае з самага ранку — чакай снежнай зімы; калі вецер дзьме з усходу — будзе гарачае лета; калі з поўдня — умеранае; заходні вецер абяцаў мокрае лета, паўночны — халоднае, з градам.

**19. Вадохрышча**. Снег у гэты дзень — добра будуць раіцца пчолы і бульбы вырасце многа; зорная ноч напярэдадні — ягад будзе густа і буйна ды гарох уродзіць. Пахмурна — багаты ўраджай збожжа, ясна — наадварот; калі выдасца цёплы дзень, насыпле снегу — хлебная ніва густою будзе, але на капусце шмат вусеняў; завіруха — і на Вялікдзень такое ж будзе надвор'е.

**20. Дзень памяці Іаана Хрысціцеля.**

**23. Рыгор. Калі выпадзе шэрань — год будзе мокры.**

**25. Таццяна.** Марознае, сонечнае надвор'е абяцала ранні прылёт птушак, а снегапад — дажджлівае лета.

**31. Апанас.** «Гусінае» свята. Мяцеліца ў гэты дзень варажыла на тое, што багата выведзецца гусянят і вясна будзе працяглая.

*Віншую з днём нараджэння і Новым годам дарагога таточку* ***Віктара Іванавіча ПЛЁСКУ*** *з в. Папоўцы Вілейскага раёна.*

«В этот день нет причин унывать,
Отмечаем не дату старенья.
В этот день надо петь и мечтать,
Даже если немалые годы,
Даже если и радости мало в судьбе
Жизнь прекрасна сама по себе».

**Дачка Наталля.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98. ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі. Матэрыялы, пазначаныя значком носяць рэкламны характар. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.083. Індэкс 63850.
Зак. № 7696.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12